Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# ПРАЎДА ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

АПАВЯДАНЬНІ

ВЫБРАНЫ І ЗРАДАГАВАНЫ ПОЛІТЫЧНЫМ АДДЗЕЛАМ 2-Й БЕЛАРУСКАЙ СТР. ДЫВІЗІІ





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЙСКОВАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МАСКВА—1926

Пролетары ўсіх краеў, злучайцеся!

# ПРАЎДА ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

АПАВЯДАНЬНІ

ВЫБРАНЫ І ЗРЭДАГАВАНЫ ПОЛІТЫЧНЫМ АДДЗЕЛАМ 2-й БЕЛАРУСКАЙ СТР. ДЫВІЗІІ





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЙСКОВАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МАСКВА—1926

# ПРАЎДА ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ.

## I.

Некалькі чырвонаармейцаў другой роты стралковага палка імя Ангельскага Пролетарыяту зьбіраліся ехаць у кароткатэрміновы водпуск к сабе на вёску. Уся рота на працягу цэлага тыдню толькі і казала аб адпускніках.

— Дык раскажэце-ж там усё чыста аб нашым жыцьці, ды больш падрабязгова. Скажэце, што вучымся шчыра, што хлеб народны дарма не ядзім,— давала наказ рота адпускнікам.

— А асабліва ты вось, Шчыглоў, павінен усё гэта расталкаваць і як сьлед растлумачыць. Бо ты-ж адзін з лепшых у нас па вучобе.

— Раскажу, браткі. Усё раскажу. Лісты, якія пасылаюць—адрасы там больш выразна пішэце,—сказаў Шчыглоў, зварочваючыся да таварышоў, што пісалі лісты на вёску.—Дзядзькі-ж вашы ня надта пісьменныя, у Чырвонай арміі, мабыць, ня служылі.

— А ці ня спозьніцеся-ж на цягнік?—рупліва цікавіўся чырвонаармеец другога ўзводу.

— А які-ж час?

— Ня ведаю. Пачакай, мігам зьлётаю ў канцэлярыю,—зьявіўся нехта з дапамогай з першага ўзводу.

— Не, ня спозьнімся. Час яшчэ не вялікі—толькі заняткі скончыліся, значыцца, пяць з чымся.

— Гэта ты наўгад, а наўгад ніколі нічога не належыць рабіць. Усё трэба дакладна ведаць.

— Без дваццаці пяці сем.

— Сем?

— Але, без дваццаці пяці хвілін.

— У які час цягнік адыходзіць?

— У дзевяць трыццаць,—казаў політкіраўнік.

— Калі ўжо політкіраўнік сказаў, значыцца, праўда. Тады часу яшчэ шмат—ня спозьнімся, а сьпяшацца трэба.

Чырвонаармейцы ўважліва адносіліся да ўсякай драбязы, што датычыла ад'яжджаўшых таварышоў.

— Дакуманты ўсе пры вас, падпісаны?

— Праверце,—раілі чырвонаармейцы.

Перагледзелі некалькі разоў усе да аднаго дакуманты адпускнікоў і парашылі, што ўсё як мае быць.

— Ну, здаецца, гатова.

Шчыглоў падняўся ад зьвязанага мяшка. Ільнянога колеру валасы, поўны, здаровы твар, белыя зубы, якія зіхацелі ў часе заразьлівага сьмеху—усё гэта як-бы казала, што гэта—чалавек з вёскі.

— Хочацца і на пабыўку зьезьдзіць і застацца ў роце таксама хочацца. Зжыліся. Шкода неяк пакідаць усіх таварышоў. Вось-жа ня век векаваць разам, а ўсё-ж неяк, што родныя браты якія.

Апошнія словы Шчыглова былі моўчкі выслуханы ўсімі чырвонаармейцамі другой роты. Кожны адчуваў, што каб ён быў на месцы Шчыглова, дык сказаў-бы тое самае.

— Ну, добра, не назусім-жа едзеш. Месяц пройдзе, азірнуцца ў хаце не пасьпееш. Бедаваць няма чаго, хутчэй едзьце на вакзал. Праводзілі да трамвайнай астаноўкі кожнага з адпускнікоў па некалькі шчыра адданых сяброў.

## II.

Трамвай ішоў па гразных вуліцах гораду. Мільгацелі яскрава асьвечаныя вокны магазынаў. Кондуктарша трамваю моцна выкрыквала астаноўкі.

— Вакзал.

З вагону трамваю вышлі амаль ня ўсе пасажыры. На вялізным вакзальным пляцы было сьветла, як удзень, ад электрычных ліхтароў.

— Шчыглоў, не аставайся.

— Дык не сьпяшайцеся. Тут лёгка мы пагубляем адзін другога.

І праўда. Па вакзальным пляцы лёталі аўтомобілі, якія сьветам сваіх ліхтароў мігацелі перад вачыма. Возьнікі, абкладзеныя да самай галавы чэмоданамі, кошыкамі і іншымі рэчамі, трусою адзін за адным пад'яжджалі к вакзалу. Людзі йшлі ў розных кірунках, пераганяючы адзін другога, штурхаючыся; чуваць былі прабачэньні, нехта кагось-то паслаў к чорту. Міліцыянэр спакойна наглядаў за рухам на пляцы, зрэдку падымаючы чырвоны кіёк. Як толькі падымаўся чырвоны кіёк, раптам супыняліся аўтомобілі, фурманкі і прапускалі трамвай ці з грузам аўтомобілі; і зноў з дазволу чырвонага кійка ехалі далей.

— А здорава гэта міліцыянэр камандуе ўсімі аўтомобілямі і возьнікамі.

Вакзал з вялікімі асьвечанымі вокнамі здаваўся крэпасьцю з байніцамі. Вялікі вакзальны гадзіньнік мерна і гучна адбіў восем udараў.

— Восем гадзін. Паўтары гадзіны засталося чакаць.

Прапіхаючыся скрозь вакзальную таўхатню, чырвонаармейцы абменьваліся абрыўнымі думкамі.

— Адпачнем спачатку, а потым хто-небудзь з дакумантамі зьлётае ў касу і возьме білеты.

— Так, адпачыць трэба.

Спыніліся на ганках вакзалу воддаль ад дзьвярэй.

— І куды столькі народу едзе?

— Як куды? СССР не маленькі, браток,—адну шостую ўсёй зямлі займае, дык ехаць ёсьць куды. Гэта вось у Латвіі, Літве, Эстоніі—там іншая справа. Гэта не дзяржавы, а губэрні і то такія губэрні, у якіх нос не дарос да нашай Саратаўскай.

У дзьверы вакзалу бесьперапынку люд валам валіў.

— Іра маскоўская, Дзюбек—Мурсал... папяросы.

— Аладкі на лепшым алеі, з пылу і з жару...

— Сёньня за пятнаццаць ня возьмеце, заўтра даражэй заплоціце—зубны парашок!.. Гандляры на перабой адзін перад другім расхвальвалі свой тавар.

— Закурым.
— Давайце.
Склаліся па пятаку.
— Якіх купіць?
Хлопчык-папяросьнік, босы, з вузкімі бегаючымі вочкамі, ужо паказваў гатункі папярос розных табачных трэставў.
— Давай „Комінтэрн“, гэтыя павінны быць самыя найлепшыя.
— Вось каб каму ехаць прапанавалі, куды ён хоча, то ўжо ўзяў-бы, адважыўся ды да нашых шэфаў ангельцаў махануў. Вось-бы ўзяў ды й прыехаў. Зьдзівіліся-б мусіць.
— Ого, яшчэ як. А, праўда, добра-б было пабываць у ангельцаў, ды вось, напрыклад, з усёй нашай другой ротай па галоўных вуліцах Лёндону прайсьціся і гаркнуць: „Армія Чырвоная ўсіх мацней“...
— Здаецца, землякі... Адкуль самі будзеце?—пытаўся матрос, углядаючыся на Шчыглова.
— Саратаўскія.
— Так і ёсьць, я-ж таксама Саратаўскі.
— Уласаўскай воласьці?
— Але, Уласаўскай.
— Так яно й ёсьць. А я ўсё ўглядаюся ды й думаю, ні-то знаёмы, ні-то не. З вёскі Зарэчча, здаецца, будзеце?
— Але з Зарэчча.
— А я з Круціхі, Янкаў сын.
— Вось яно што. Цябе, Васіль, і спазнаць цяжка, а я Шчыглоў...
— Сяргей!
Абняліся. Таварышы Шчыглова былі ўсьцешаны сустрэчай з земляком ня менш, чым сам Шчыглоў і Мартынаў, вёскі якіх былі суседнімі. Шчыглоў і Мартынаў таварышавалі яшчэ з маленства.
— У флёце служыш? Даўно? А як служба?
Хутка даваліся адказы, і з абодвух бакоў зноў сыпаліся пытаньні.
Парашылі паслаць аднаго абмяняць у касе дакуманты на білеты.

— А як-жа ты едзеш, Васіль, за грошы?

— Чаму за грошы. Я еду ў водпуск, як і ўсе чырвонаармейцы, дарма. Вось і дакуманты, абмяняй ужо разам і мне.

— Вядомая рэч, разам паедзем, разам і білеты бяры,—параілі чырвонаармейцы свайму таварышу, якога вылучылі для атрыманьня білетаў у касе.

III.

Цікавыя пытаньні з жыцьця кожнага былі вырашаны праз некалькі хвілін.

Сябры даведаліся адзін ад другога, як хто папаў у Чырвоную армію і чаму Васіль Мартынаў пашоў служыць у флёту, мобілізаваны на морскую службу, як член РЛКСМ.

— Пэўна, што з комсамолу самыя надзейныя хлопцы наконт Савецкай улады і да работы больш здольныя,—пацьвердзілі некалькі адпускнікоў думку Шчыглова.

— Вось цікава. Нядаўна ў нас былі манэўры. Ваявалі дзьве дывізіі—адна наша, ды яшчэ адна стралковая дывізія супроць нас. Проста, як на сапраўднай вайне стралялі з стрэльбаў, артылерыя бухала, панцырнікі ў атаку хадзілі, а вось як морскія вайсковыя караблі ваяваць вучацца? У вас таксама былі манэўры?

— Бываюць і манэўры. Але праз увесь гэты вучэбны год у Бальтыцкай флёце адбывалася вучоба на суднах, ды некалькі вайсковых караблёў былі ў дальнім плаваньні.

— Я чуў, што шмат у якія краіны заяжджалі вашы караблі.

— У розныя заяжджалі. Крэйсэр „Аўрора“ і вучэбны карабель „Комсамолец“ паўтара месяца плылі з Бальтыцкага мора наўкруг Скандынавіі да Белага мора, у Архангельск і назад, у Кронштад. Усяго праплылі каля дзесяцёх тысяч вёрст.

— Ого-го-о...—зьдзівіліся пасажыры, што слухалі гутарку марака Мартынава і чырвонаармейцаў-адпускнікоў.

— Дзіўна, а гэта што! Я сам служу на вартавым крэйсэры „Вароўскі“, дык мы зрабілі дваццаць пяць тысяч вёрст.

— Ну-у... куды-ж гэта ты плаваў?—зьдзівіўся Шчыглоў і пільна стаў углядацца ў загарэлыы твар даўняга сябра.

— „Вароўскі“ зрабіў шлях ад Архангельску да Уладзівастоку. Плыць прышлося праз Паўночны Ледаваты, Антлянтычны, Індыйскі і Вялікі-Ціхі акіяны і праз мноства мораў.

На пэроне вакзалу прабілі тры званкі. Перад вокнамі вагону замільгацелі галовы спозьніўшыхся пасажыраў. Галоўны кондуктар цягніку даў сьвісток, далей пачуўся сьвісток паравозу, і цягнік мерна адышоў з вакзалу.

— Але як акуратна цягнік стаў хадзіць. Бывала, у восемнаццатым годзе на нашай станцыі каля Кузьнецка па два-тры дні чакалі, а цяпер, бачым, амаль не праз кожныя дзьве гадзіны цягнік за цягнікам ганяюць.

— Зраўнаваў, то восемнаццаты год, а цяпер дваццаць пяты. Ня жартачкі, сем год адмахалі. Ільліч праз дзесяць год электрычнасьць усюды хацеў мець, шкада што памёр, а то-б за ім мелі.

— І цяпер будзем мець.

— А ці-ж я казаў што ня будзем мець? Абавязкова будзем мець, не праз дзесяць, дык праз дваццаць год, а ўсё-ж электрычнасьць правядзем у кожную хату.

Вагон роўна пакачваўся з боку ў бок, а часамі раптам, неўспадзеўку, калі тармазілі, прыпыняўся і сьпіхваў адзін да другога людзей, што сядзелі радам. У ваддзяленьні вагону, дзе сядзелі чырвонаармейцы-адпускнікі і матрос Мартынаў, у кутку маладая жанчына калыхала на руках малое дзіцянё.

— Перасаджвайцеся сюды, тут лепей з дзіцянём,— прапанаваў свае месца матрос.

— Нічога.

— Што нічога, там цёмна дый духата. Кіньце, хлопцы, курыць, гэта шкодна малому.

— Куды-ж выходзіць. Курэце тут, яму не зашкодзіць,—казала жанчына.

Аднак, два чырвонаармейцы, якія толькі што закурылі „Комінтэрн“, ужо вышлі з аддзяленьня ў канец вагону.

— Куды-ж едзеце?—дапытліва запытаўся Мартынаў у жанчыны з дзіцянём.

— К му-у-жу...—і ў жанчыны неспадзеўна паказаліся на вачох сьлёзы. Буйныя сьлязінкі пацяклі з вачэй маладой жанчыны. Яна не магла казаць, ледзьва-ледзьва стрымліваючы сябе, каб не расплакацца.

Мартынаў ужо каяўся і быў нездаволены сабою за тую душэўную боль, якую нанёс мацеры з дзіцянём праз сваё пытаньне.

— Я толькі так, нічога...—марматаў у замяшаньні Мартынаў, як-бы просячы прабачэньня ў жанчыны за недарэчнасьць свайго пытаньня і не разумеючы ўласнай віны.

Чырвонаармейцы, што аставаліся ў аддзяленьні адчувалі сябе нядобра разам з мараком.

Жанчына змахнула рукавом з расьніц сьлёзы і паправіла коўдру ў свайго дзіцяці.

— Я гэта так... муж мой у Чырвонай арміі служыць,—пачала тлумачыць жанчына, і тонам гутаркі як-бы хацела прыкрыць сваю жаночую слабасьць на сьлёзы.

— Калі муж у Чырвонай арміі, радавацца трэба, а ня плакаць,—не сьцярпеў матрос і зноў пачаў гутарку з жанчынай.

— Мяне не зразумелі... я ўбачыла ўсіх вас, чырвонаармейцаў, ды й залюбавалася, а як успомніла пра мужа, шкада мне яго стала... хворы ён...—жанчына глыбока ўздыхнула і, канчаткова перамогшы падступаўшыя сьлёзы, пачала казаць далей:—Муж мінулай восеньню пашоў служыць у Чырвоную армію, усё пісаў, што добра жывецца, шмат чаму вучаць, а потым раптам піша—ранены. Пасьля сам ужо напісаў з шпіталю, што ранілі бандыты. Цяпер яго адправілі папраўляцца на курорт.

— Мяне таксама раз пасылалі на курорт у Крым, Гурзуф празываецца. Добра было, а кармілі, як быка,—паведаміў адпускнік Ляшчоў, што меў доўгія, як у зайца, вушы.

Жанчына недаверліва паглядзела на чырвонаармейца.

— Кормяць, можа, і добра, але догляду патрэбнага, дык, пэўна, няма. Чужому чалавеку які інтэрас вазіцца з хворым.

— Ды не, догляд там самы лепшы, і рабіць усё прыходзіцца цюцельку ў цюцельку. У вызначаны час павінен палуднаваць, у вызначаны час—ляжаць і ў вызначаны—спаць...

— А чаму-ж да мужа едзеце, калі ён на курорце?

— Наведацца еду... Яшчэ калі муж у шпіталі ляжаў, дык прыслалі мне з яго палка паперку, дакумант, значыцца, для праезду з танным вайсковым білетам па чугунцы ўперад, а потым на параходзе Волгаю да гораду, дзе муж ляжаў у шпіталі. А як цяпер муж на курорце, дык мне ў павятовым камісарыяце зьмянілі дакумант на курорт.

— Як добра ўсё зроблена. Муж, чырвонаармеец, захварэў, жонка можа ехаць да яго. Усе выгады дадзены. І танна, і хутка. Калі з часьці дахаты пускаюць—дармовы праезд. Што скажаш на гэта, стары, га?—зьвярнуўся з пытаньнем матрос Мартынаў да сівенькага дзядулі, які адзін з усіх у ваддзяленьні курыў і сядзеў у праходзе вагону.

— Што-ж сказаць...

— Але, што скажаш, дзядуля?

— Праўда...—адрыўчата працадзіў стары скрозь закопчаныя ад курэньня вусы.

— Якая-ж праўда?—дамагаўся адказу Мартынаў.

— Чырвонаармейская... У старой арміі фэльдфэбеля заслужыў, з туркамі біўся, на японцаў хадзіў... скажу—праўда чырвонаармейская.

Стары доўга яшчэ марматаў нешта сабе пад нос, але яго ніхто ня слухаў.

— Закуры, дзядуля, вось лепш „Комінтэрн“,— прапанаваў Шчыглоў старому папяросу.

Для кожнага чырвонаармейца словы старога чалавека былі ўжо старымі, даўно вядомымі і праверанымі вопытам сямёх з лішкам год.

## IV.

На вузлавой станцыі вагон, у якім знаходзіліся чырвонаармейцы-адпускнікі, адчапілі ад цягніка, які пашоў у іншым напрамку. Прышлося сядзець некалькі гадзін, чакаючы, пакуль прычэпяць да цягніка, які павінен быў ісьці на Кузьнецк.

Матрос Мартынаў у некага з суседняга аддзяленьня дастаў чайнік і пашоў за гарачай вадою.

— А вы ў нас гаспадарыць будзеце,—зьвярнуўся да жанчыны з дзіцём Мартынаў.

Чырвонаармейцы разгаварыліся з ёю і зьведалі, што завуць яе Ганнай Сьцяпанавай.

— А па мужу, як будзеце?

— Карпава буду.

Жанчына асвоілася з чырвонаармейцамі, вольна трымала сябе, адказвала на пытаньні і распытвала сама аб жыцьці ў Чырвонай арміі.

— Хлеб сёлета кепскі парос,—бедавалі ўсе разам у ваддзяленьні вагону з прычыны неўраджаю хлеба ў Паваложжы.

Дзіцянё Ганны Сьцяпанавай праснулася і пачало выраблящь розныя штукі.

Без папа, пановаму, ці хрышчоны?—зацікавіўся нехта.

— Без папа, чырвоныя хрэсьбіны рабілі. Муж загадаў. Ліст у сельсавег пісаў, каб абавязкова без папа, пановаму, пасавецкаму.

— Чаму-ж гэта ў сельсавет?

— Ды там-жа вось комсамольцы, дык праз іх наказваў, а я-б адна ня ўправілася. Ён мне, пакуль яшчэ дзіця не нарадзілася, пісаў, каб абавязкова без папа, а ці-ж гэта магчыма было зрабіць, калі сьвякруха супроць гэтага. Жыцьця-б ня было. У нас пры станцыі радзільня ёсьць, дык мяне там, як жонку чырвонаармейца, прынялі дарма нароўне з жонкай застрахаванага рабочага. А комсамольцы атрымалі ліст

ад мужа, прышлі ў радзільню да мяне і паказалі гэты ліст. Калі я выпісалася, мяне з дзіцем комсамольцы да сябе ў клюб адвезьлі. Прамовы казалі, ад меншага піонэра да комсамольца перадалі яго потым старому.

— Дзеля чаго-ж гэта?

— Бачыце, чырвоныя хрэсьбіны яму спраўлялі, дык піонэры, комсамольцы і комуністыя абяцалі вучыць яго, як жыў Ленін і што казаў рабіць.

— Ага, паленінскаму, значыцца, гадаваць будуць,— падкрэсьліў стары, які ўсё яшчэ цягнуў папяроску „Комінтэрн“.

— Ленінцам,—паправіў Шчыглоў.

— Пасьля чырвоных хрэсьбін я аб усім напісала мужу, лісты-ж бяз марак чырвонаармейцу дазволена пасылаць, дык я вось аж чатыры лісты адразу паслала. Ільля Захараў, муж, значыцца, мой, надта быў усьцешаны, што Уладзімерам дзіця празвалі, піша—гардзіцца трэба,—сын наш Леніну цёска, ды й па бацьку падобен.

— А як хрэсьбіны чырвоныя справілі, ці суседзі-ж на вёсцы здаволены былі, што без папа абышлося?

— Здаволены-нездаволены, а справілі, дый усё... Спачатку, як прынесла хлапца дахаты, сьвякруха хрысьціць сабралася, з папом старгавалася на тры пуды круп і пяць фунтаў масла. Як толькі ў царкву сабраліся несьці, я сказала сьвякрусе, што дзіця комсамольцы ў клюбе хрысьцілі, так і не панесла. Пасьля казала, што й добра, няхай папу горш будзе. Вельмі-ж ужо праглівы доўгагрывы, сьвякруха чатыры разы хадзіла да яго таргавацца, а ён менш узяць за хрышчэньне ніяк не згаджаўся.

— Іш ты яго, курва,—агрызнуўся на папа Мартынаў, які ўжо прынёс чайнік з варам і, стоячы ў праходзе, пільна слухаў апавяданьне Ганны,—з Ільліча круп і масла хацеў зьдзёрці. На працоўны элемэнт ды падатак для спасеньня душы ўздумаў накладаць у дваццаць пятым годзе. Шкада, што мяне ў той час там ня было, я-б яму...

— А-ау-а-у-у-а...

Грудное дзіця пачало крычаць.

— Пратастуй, пратастуй... ты-ж ужо цяпер сапраўдны бальшавік.

— А як-жа ж, не здарма-ж ён—Ільліч.

Ад гэтых жартаў здаровыя сялянскія хлапцы зычным сьмехам страсянулі вагон.

## V.

Вагон прыцапілі да цягніка і падвезьлі к пляцформе вакзалу вузлавой станцыі. У ваддзяленьні вагону ішла мірная гутарка аб сельска-гаспадарчым крэдыту і новых замежных машынах, якія давалі сем'ям чырвонаармейцаў у раскладку на два гады.

— Месца нумар восем тут?

Гэта пытаўся сярэдняга росту чалавек, апрануты ў кароткае паліто. Вочы яго неяк падазронна і недаверліва пaглядалі на сьцены вагону, на твары чырвонаармейцаў і, застанавіўшыся на Ганне, на мінуту-дзьве затрымаліся.

— Восьмы нумар, вунь угары, — паказаў на верхнюю паліцу Мартынаў.

— Разам ехаць, значыцца, прыдзецца,—паведаміў незнаёмец.

Ніхто не адказаў. Чужым нейкім быў для ўсіх гэты незнаёмец і нейкая штучнасьць была ў яго абыходжаньні. Усе чырвонаармейцы, Мартынаў і Карпава адразу гэта прыкмецілі.

— К-ш... маўчы,—усьцішала дзіця Ганна.

— Добрае дзіцятка... Люблю малых,—зьвярнуўся новы пасажыр да Карпавай.

Ганна не адказвала і закрыла тварык дзіцяці коўдраю.

— Цьфу-цьфу... каб хоць не асурочыў,—пачуў Шчыглоў шэпат Ганны, якая нахілілася над дзіцянём.

— Нічога ня зробіць. Глупства гэта, цемната вясковая,—таксама шэпатам казаў Ганьне Шчыглоў, стараючыся выкінуць з галавы яе гэтыя забабоны.

— Хто самі будзеце?—адрэзаў Мартынаў пытаньне новаму пасажыру.

— Сам... адказ быў дадзен не адразу,—з Растову.

— Не, па профэсіі,—не сунімаўся матрос.

— Тавар дастаўляю розным установам.
— Значыцца, служыце ў коопэратыве, альбо ў дзяржаўным магазыне,—нібы-то пытаючыся, зрабіў вынік Шчыглоў.
— Не... а можа і так... толькі пэнсіі мне ня плацяць, а я процанты, як-то кажуць, з тавару атрымоўваю.
— Разумеем...
Матрос абарваў гутарку. Новы пасажыр паслаўся, вынуў невялічкі чэмоданчык з ядою і папрасіў дазваленьня наліць з чайніка гарачай вады.
— Можна, бярэце.
Пасажыр пачаў прымаць удзел у гутарцы з усімі і час-ад-часу ўглядаўся ўсё на Ганну.
— Ганна Сьцяпанава, калі ня мыляюся, вас так завуць,—зьвярнуўся незнаёмец да Карпавай і, упэўніўшыся, што так, прапанаваў карыстацца яго месцам нанач.
— Вам з дзіцем будзе цяжка ўнізе.
— Як-жа гэта яна ўгары будзе з дзіцем ляжаць,—не чакаючы пакуль адкажа Карпава, запытаў Мартынаў.
— Я думаю, што там лепей...
— Добра прыдумаў, дзіця зваліцца, вось і будзе гісторыя.
Ганна адмовілася ад прапановы.
Цягнік адышоў ад вузлавой станцыі, калі стала зьмяркацца. Праз акно вагону далёка відаць былі агні мястэчка. Пачалі апавяданьні аб страшных здарэньнях.
Пасажыр, які назваў сябе Васілём Пятровічам Пушкаровым, пачаў апавядаць, як ён ад ваўкоў ледзьва вырataваўся.
— Цудам уцалеў, далі бог цудам, а іначай зьеў-бы і памінай, чым звалі,—выразна вымаўляў словы Пушкароў.
— Калі-ж гэта было і дзе?
— Ды нядаўна, месяцаў дзевяць ці восем таму назад у ваколіцах гораду Ардатава. Ведаеце? Гэта ў Сімбірскай губэрні.

Шчыглоў заўважыў, як Ганна ўздрыгнула, і спалоханымі вачыма ўставілася на Пушкарова.

— А ці-ж гэта, грамадзянін Пушкароў, у вас ваўкі і летам накідваюцца на людзей?

— А што-ж... у нас ваўкі і ўдзень ходзяць.

Шчыглоў, які назіраў за Ганнай, угледзеў погляд Пушкарова, кінуты на Ганну, поўны злабы і насьмешкі. Карпава моўчкі калыхала дзіця, моцна прыціскаючы яго да сваіх грудзей, як-бы баючыся, што яго могуць адабраць у яе.

— Ваўкі... удзень,—Ганна ледзьва-ледзьва вырывала з сваіх грудзей гукі голасу,—ніколі ваўкоў... у Ардатаве ня было...

— Былі і ёсьць. На мяне нападалі,—і Пушкароў неяк дзіўна паглядзеў на Ганну.

— Ня было... я сама з Ардата...

— Ведаю я, што вы з Ар...—Пушкароў раптам спахваціўся, што лішняе сказаў, прытварыўся, быццам закашляўся, і тады адказаў:—бывае і так, што ў хаце жывеш і то ня ведаеш, што робіцца ў адным з яе канцоў, а дзе ўжо за цэлым горадам угледзець.

— Мы ня курым тут. У канец вагону выходзім... дзіця,—папярэдзілі Пушкарова, калі ён, канчаючы гутарку, прабаваў закурыць.

— Вунь яно што, да панства прывыкаеце...—прабурчэў Пушкароў, ідучы ў канец вагону.

— Не падабаецца мне гэты спэкулянт. Бачыў ты яго. Служачы, процанты з тавару бярэ.

— Я, Сяргей, з самага пачатку прымеціў, што ён з хітрыкамі чалавек. Брахаць майстра, пра ваўкоў байку разводзіць. Але здорава вы яго, Ганна Сьцяпанава, зрэзалі, як сказалі, што з Ардатава.

— Васіль, а адкуль ён ведаў, што Ганна Сьцяпанава адтуль?

Ганна растлумачыла, што яна бачыць гэтага чалавека ў першы раз.

— Баюся я яго, ён неяк глядзіць на мяне,—і Ганна палахліва адсунулася ў куток ад Пушкарова, які ўваходзіў у дзьверы.

— Тут нешта ёсьць такое...—паскробшы патыліцу, шапнуў Шчыглоў Мартынаву.

— Ёсьць,—згодзіўся Мартынаў.

## VI.

На апошнюю станцыю перад Кузьнецкам цягнік прышоў чуць сьвет раніцою, калі амаль ня ўсе пасажыры вагону спалі яшчэ моцным сном.

Зборы чырвонаармейцаў разбудзілі Ганну, якая прыдрамнула з дзіцянём у кутку, хаця для яе адпускнікі аслабанілі яшчэ з вечара ніжнюю лаўку.

— Зьлязаеце?—пыталася Ганна, і ў голасе яе чуваць было, як яна шкадавала, што пакідаюць яе чырвонаармейцы, якія шмат дапамаглі ёй за ўвесь час.

— Жадаем, Ганна Сьцяпанава, шчасьлівай дарогі і радаснай сустрэчы з мужам,—адвіталіся адпускнікі, паважна вымаўляючы кожнае слова і з пачуцьцём асаблівай сялянскай прастадушнасьці сьціскаючы руку Карпавай.

— Гадуй Уладзімера сапраўдным Ільлічом.

— Да ўжо-ж, як людзям абяцала, дык пастараюся ў меру сваіх сіл.

Мартынаў, апошнім выходзячы з аддзяленьня вагону, калі цягнік ужо спыніўся на станцыі, зірнуў на верхнюю полку і прыкмеціў, як Пушкароў заплюшчыў вочы, прыкідваючыся быццам сьпіць.

— Бывай здароў, купец,—кінуў Мартынаў Пушкарову,—чаго ўжо вочы заплюшчваць, калі ня сьпіцца.

— Бывайце,—нездаволена буркнуў Пушкароў з-пад коўдры.

Па пляцформе клапатліва лётаў загадчык мясцовым паштовым аддзяленьнем, кідаючыся ад паштовага вагону цягніка ў памяшканьне станцыі і пераносячы пачкі лістоў і пасылак для адпраўкі. Бабы, падаткнуўшы падалы спадніц, плоймай лёталі то ў адзін, то ў другі канец навокал цягніка, хаваючыся ад станцыённага міліцыянэра. Кошыкі, поўныя яйцаў, сыраў, масла, пірагоў, жараных куранят, сьвініны, як мага хутка адзін за другім падсоўваліся пасажы-

рам цягніка, якія высыпалі на пляцформу станцыі, з прапановаю купіць.

— Кш-ш... дай дарогу, бачыш свае прыехалі,— жартавалі чырвонаармейцы, вылязаўшыя з вагону.

— Уласаўскія ёсьць?..—цікавіліся вясковыя бабы і дзяўчаты, адразу абступіўшы чырвонаармейцаў, забыўшыся, што трэба гандляваць.

— А то як-жа. Амаль ня ўсе, за малым выключэньнем, Уласаўскія.

Знашліся знаёмыя. Гутарку вялі ўсе разам. Хто пытаўся, а хто тут-жа адказваў зусім іншае, але ўсе былі здаволены сустрэчай.

— Хадзі сюды... Уласаўскія на пабыўку прыехалі з Чырвонай арміі,—клікалі дзяўчаты па станцыі яшчэ ня ведаўшых сваіх таварышак.

Разьбіты станцыённы звон адрывіста, заглушаючы, тры разы празьвінеў, і ўсе зьвярнулі ўвагу на адыходзячы цягнік. З акон вагону махалі шапкамі, хусткамі. У вадным з акон відаць была і Ганна, якая пасылала прывітаньне сваім выпадковым падарожнікам. Дзяўчаты, бабы, чырвонаармейцы-адпускнікі і нават некаторыя мужыкі з даўгімі пугавішчамі ў руках адказвалі пасажырам адыходзячага цягніка. Доўга яшчэ, пакуль ужо стала цяжка адрозьніваць твары пасажыраў, Мартынаў глядзеў на цягнік.

— Адзін раз убачыш чалавека, а потым глядзіш— праз усё жыцьцё больш ня сустрэнеш...

— Ты гэта пра каго, Васіль,—запытаўся Шчыглоў Мартынава.

— Пра Ганну...

— А-а...—здаволіўся Шчыглоў адказам Мартынава.

Шчыглоў, Мартынаў і рэшта адпускнікоў забыліся пра ўсіх пасажыраў цягніка. На станцыі амаль ня кожны чырвонаармеец сустрэў сваіх знаёмых мужыкоў, якія прапанавалі падвезьці дахаты.

Весела трушком бег конь Сымона Безназоўнага, суседа Шчыглова.

— Як жывіцё, дзядзька Сымон?—пыталіся ў Безназоўнага Шчыглоў і Мартынаў, якія ехалі разам з ім дахаты.

— Жывем памаленьку... Скардзіцца няма чаго... Ннн-о-о,—падганяў Безназоўны каня, адказваючы чырвонаармейцам на іх пытаньне.

— Рыгорка дома ці на заработках?

— Праводзіў я яго... праз тры месяцы пасьля таго, як вы пашлі... увосень, значыцца, я яго і здаў. У Чырвонай арміі больш карысьці атрымае, усяму навучыцца, як сельскую гаспадарку весьці найбольш выгадна і лепш... У вас, кажуць, усяму вучаць, а для сям'і страта невялікая...

— Як-жа нявялікая, ці-ж Рыгор быў кепскі работнік? Бывала, за дзень з касой поўдзесяціны адмахае і хоць-бы што.

— Ды я не пра тое, Рыгор работнік добры. Я кажу страты няма, бо ён-жа служыць, а яго доля зямлі застаецца ў гаспадарцы, у земаддзеле насеньня можна пазычыць на засеў у першую чаргу ды яшчэ з вялікімі ільготамі. Трэба было хлеб абмалаціць, з пракатнага пункту на шэсьць чырвонаармейскіх сем'яў далі дарма для малацьбы конную малацілку, а цяпер у крэдыт выдалі плуг і іншыя рэчы, для работы, значыцца, у нашай гаспадарцы.

— А нашы атрымалі?—запытаў Шчыглоў.

— Эгэ-е, твайму бацьку у рот палец не кладзі. Ён, акрамя ўсяго, лесу на новую прыбудову атрымаў па дваццаць пяць капеек замест рубля.

— А ці-ж ня ўсякі лесу можа атрымаць?—зьдзіўлена запытаўся Мартынаў.

— Як то ня ўсякі. Калі з сям'і хто-небудзь служыць чырвонаармейцам, то лесу можна дастаць і нават дарма, калі незаможная гаспадарка. Прызнацца, мне лес непатрэбен.

Шчыглоў і Мартынаў хутка зьведалі пра ўсе навіны вясковага жыцьця. У сваю чаргу Безназоўны распытаў чырвонаармейца і матроса аб Чырвонай арміі і флёце.

— Зьмены, чутно, у вас вялікія былі. Хто цяпер галоўны Чырвонай арміі?

— Як хто? Заўсёды бальшавіцкая партыя комуністых стаяла і цяпер так засталося.

— Само сабой, партыя комуністых усюды ўперадзе а вось хто галоўны з вайсковых цяпер?

— А-а...—здагадаўся Мартынаў,—Варашылаў па прозьвішчу, завуць Клімент Ахрэмаў. Ён стары бальшавік і здорава белых біў. З казацкай контр-рэволюцыяй на Украіне змагаўся. Лютыя атакі белых на Царыцын былі адбіты пад яго кіраўніцтвам,—вялікая галава.

— Спадзявацца можна?—дапытваўся Безназоўны, пільна ўглядаючыся ў твары Шчыглова і Мартынава.

— Заўсёды,—разам адказалі чырвонаармеец і матрос.

— Ну то-то, няхай так і далей працуе,—выказаў чырвонаармейцу і матросу Сымон Безназоўны сваё давер'е ў адносінах да Старшыні Рэволюцыйнага Вайсковага Савета Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

VII.

— Кабыла, пэўна, жарэбная,—паглядаючы на каня з вялікім жыватом, зрабіў заключэньне Шчыглоў.

— Жарэбная. Чакаю добрага прыплоду. Да самага лепшага жарабца на злучны пункт вадзіў і заплаціць прышлося самае глупства, зноў скідку вялікую зрабілі. Вэтэрынарны фэльчар часта, па маёй просьбе, да мяне прыходзіць, наглядае за скацінай і пры патрэбе дапамагае.

Калі ўяжджалі ў вёску, першае, што кінулася ў вочы адпускніком,—значны лік новых хат і іншых пабудоў там, дзе раней былі хаты, якія кожную мінуту гатовы былі зусім разваліцца.

— Лепей стала выглядаць гаспадарка, вялікая падмога цяпер чырвонаармейскім сем'ям,—падкрэсьліў гаспадарчы рост сяла возьнік Шчыглова і Мартынава, заўважыўшы іх зьдзіўлены пагляд на новыя пабудовы.

Па вуліцах сяла бегалі дзеці з сонечнымі белакурымі галоўкамі. Дзеці зьдзіўлена ўтаропіліся вялікімі зацікаўленымі вочкамі на прыехаўшых.

— Сяргей прыехаў,—прарэзалі паветра некалькі серабрыстых дзіцячых галасоў.

— Ен і ёсьць. Дзень добры, маладая гвардыя,— прывітаўся Шчыглоў.

У хаце сям'і Шчыглова вядома ўжо стала праз малых, што прыехаў Сяргей, як толькі ён паказаўся ў сяле; малыя навыперадкі адзін перад другім ляцелі ў хату Шчыглова, каб узрадаваць навіною.

— Прыехалі... Прыехалі з Чырвонай арміі... Сяргей і Васіль Крутэцкі,—задыхаючыся з адной хаты ў другую разносілі вестку малыя.

Шчыглова сустрэлі ля варот сям'я і суседзі цэлай грамадой.

Мартынава адразу дамоў ня пусьцілі, хоць і прабаваў ён няпрыкметна ўцячы ў сваю вёску пехатою.

— Хлебам ды сольлю грэшна не пачаставацца,— папракала Мартынава маці Шчыглова.

— Ці многа-ж падаткаў прышлося заплаціць?— пачалася за сталом размова.

— Сельска-гаспадарчага?—запытаў у Мартынава бацька Шчыглова.

— Так.

— З мяне ўзялі зусім мала. Бачыце, калі ў сям'і чырвонаармейца няма работніка, апрача самога чырвонаармейца, то сям'я зусім аслабаняецца ад падаткаў. А ўжо як у нашай сям'і я яшчэ добры работнік, дык з нас узялі толькі палову.

— А як-жа мясцовыя падаткі?

— І з мясцовымі таксама. Аслабаняюць ці зусім, ці напалову.

Бацька Шчыглова быў чалавек яшчэ дужы. Сядыя валасы паказвалі, што яму ўжо мінула поўсотні гадоў.

— А вось я ў маладыя гады бываў у Самарскай г., за Волгаю, там ёсьць гаспадаркі, у якіх ня сеюць, а толькі жывёлаводзтвам займаюцца. Вы мне растлумачце, старому, як з іх—бяруць сельска-гаспадарчы падатак ці не?—зьвярнуўся бацька Шчыглова да сына і матроса Мартынава, якія з апэтытам уплятал і хлеб з маслам і пілі гарбату.

— Я пра гэта чуў у клюбе, раз на дакладзе талкавалі, што калі гаспадаркі ня маюць пасеваў, а зай-

маюцца толькі жывёлаводзтвам, то ў пераліку на буйную рагатую скаціну гаспадаркі, у якіх ня болей пяці галоў скаціны, падаткаў ня плоцяць.

У вокны хаты Шчыглова заглядвалі зацікаўленыя вяскоўцы, сярод каторых надта шмат было дзяўчат.

— Ма-атрос Васіль. Нябось, клёш носіць больш цэбраў нашых,—зрабіла заключэньне адна з дзяўчат.

— Глядзяць, глядзяць,—таемна зашапталіся таварышкі ля акна і шчыльна прыліплі да акон.

— Сяргей удалы які...

— Мне Васіль больш падабаецца, матрос і ўсё такое...

— Не, Сяргей прыгажэйшы, рамянём падцягнуты і, наогул, як сапраўды вайсковы чырвонаармеец.

Дзяўчаты не пасьпелі закончыць сваю спрэчку, як з хаты вышлі Шчыглоў і Мартынаў.

— Дзень добры.

— Добры дзень, калі не жартуеце,—адрэзалі дзяўчаты чырвонаармейцу і матросу.

— Дзе там жартуем, самым сур'ёзным парадкам...

— Ну добра, ведаем—брахаць навучыліся,—зноў перарвала жвавая дзяўчына Мартынава.—Вас выгналі ці што, што гэтак нечакана да нас зьявіліся.

— Каго выганяюць, а каго і ў водпуск пушчаюць,—умяшаўся ў размову Шчыглоў.

Дзяўчаты весела жартавалі. Мартынаў і Шчыглоў былі героямі дня.

Нехта прапанаваў ісьці ў комсамольскую хату-чытальню, дзе ўвечары павінен быў адбыцца вечар-спэктакль.

У хату-чытальню ішлі разам пад моцныя пералівы прыпевак.

Па марам, па марам...
Сёньня тут—заўтра там...

Шчыглову і Мартынаву прыходзілася на кожным кроку вітацца з сялянамі, якія павыходзілі з хат паглядзець прыехаўшых на пабыўку.

Ты-ы ма-рак, прыгожы сам сабою,
Та-а-бе ад ро-о-ду дваццаць год;
Па-а-любі мяне марак...

Дзявочы чысты голас, на зьмярканьні вясковага вечара, раскідваў словы песьні на саламяныя стрэхі хат, па дварох, у лес, за аколіцу вёскі і ў нябесную высь, куды далёка-далёка плыло апошняе цёмнае воблака.

## VIII.

— Павестку дня прыдзецца зьмяніць. Сягоньня ў нас было вызначана заслухаць даклад прадстаўніка комсамолу ў касе ўзаемадапамогі, але дзеля таго, што сягоньня да нас прыбылі з Чырвонай арміі і з комсамольскай Бальтыцкай флёты таварышы Шчыглоў і Мартынаў, то бюро ячэйкі комсамолу прапануе сягоньня заслухаць даклады аб рабоце нашых вяскоўцаў у арміі і флёце.

У раскошнай хаце-чытальні знаходзілася чалавек каля шэсьцьдзесят сялянскай моладзі, якая стрымленым шумам вітала прапанову старшыні сходу.

— Усе згодны?—Усе. Прынята.—Старшыня, малады, кудлаты комсамолец, пераймаў голасам, манэрай гаварыць і рухам правай рукі ў часе выступленьня сакратара комсамольскага павятовага камітэту, які нядаўна быў у в. Дабрынёва і меў вялікі посьпех у сваім выступленьні.

— Слова мае...

Пакуль комсамолец, які вёў сход, быў заняты абгаварваньнем пытаньняў павесткі дня, Шчыглоў і Мартынаў дадумваліся, што трэба сказаць і як сказаць.

— Я-ж ня ўмею гаварыць, Васіль, як-жа гэта дакладваць?

— Каб ня ўмеў гаварыць, ня прышлося-б дакладваць. Я выступаў у нас на караблі, дык нічога. Спачатку як быццам ногі дрыжэлі, а потым праз мінуту прывык. Свае-ж, гэта галоўнае. Тут таксама свае, значыцца, можна...

— Таварыш Мартынаў, вы маеце слова.

Матрос хутка падышоў да стала старшыні.

Уся хата затрэслася ад магутнага выбуху воплескаў, прывітаўшых марака.

— Няхай жыве Савецкая Морская Флёта! Ура!
Крычалі „ўра“ так, што аж шыбы ў вокнах дрыжэлі.
— ...Змычка селяніна і рабочага выходзіць як непарушны саюз у барацьбе з кравапіўцам-кулаком, буржуазіяй, Антантай і нашым папом айцом Панфілаціем.
...Як наша Бальтыцкая флёта стаіць, так сказаць, у Ленінскіх варотах СССР пад самым Ленінградам, то ад імя ўсіх чырвоных маракоў прысягаю ня пушчаць у вароты ніводнай буржуазнай гадзіны...
У канцы прамовы Мартынаву йзноў шмат дасталося воплескаў.
Шчыглоў у чырвонаармейскай шынэлі, акуратна падпаясаны, у шлеме, вышаў перад сходам, як на пост, не хапала толькі баявых прылад.
Уважліва слухалі Шчыглова, які на простай сялянскай мове расказваў пра вучобу і баявую падрыхтоўку другой роты палка імя Ангельскага Пролетарыяту.
Калі Шчыглоў паведаміў аб наказе таварышоў, што грошы рабочага і селяніна на Чырвоную армію не на вецер пускаюцца, а чырвонаармейцы сур'ёзна вучацца і з толкам праходзяць карысную і патрэбную вайсковую і палітычную вучобу, сялянская гушча перашла ад воплескаў да радасных крыкаў, каторыя перашлі ў цэлую буру гарачага захапленьня.
Рэзолюцыя была прынята аднагалосна. Чыталі яе некалькі разоў і, устаўляючы ў яе два ці тры словы, ізноў перачытвалі.
— Заслухаўшы даклад аб рабоце таварыша Мартынава, матроса карабля „Вароўскі“ і чырвонаармейца другой роты палка імя Ангельскага Пролетарыяту...
— Дабаўце: імя Ангельскага Комуністычнага Пролетарыяту.
Па пытаньні дабавіць ці не слова „комуністычнага“ выступіла некалькі чалавек.
— Увесь-жа пролетарыят комуністычны, а што яму галаву зраднікі соцыялістыя і буржуазія дураць, так гэта не яго віна.
Парашылі было ўпісаць, але калі Шчыглоў растлумачыў, што ў яго на адпускным пасьведчаньні ў

назьве палка няма слова „комуністычнага“, парашылі ня ўпісваць.

— Калі там так, то і тут няхай будзе так. Адразу не разьбярэшся. Канец рэзолюцыі быў прыняты ў такім выглядзе: „Заслухаўшы і наўперад абгаварыўшы, пастанавілі: выказаць тавырышам Шчыглову і Мартынаву поўнае давер‘е на адказных пасадах чырвонаармейца і марака СССР, ухваліць іх работу на карысьць працоўных і надалей пажадаць таго-ж. Яшчэ даручаем ім перадаць Чырвонай арміі і Морскай флёце наша бядняцкае спачуваньне ад сялянскай моладзі в. Дабрынёва“.

## IX.

Пятніца ў Кузьнецку—кірмашовы дзень.

На рынак у горад зьяжджаюцца з аколічных вёсак сяляне на вазох з хлебам, з яйцамі, з хатняй жыўнасьцю: курамі, парасятамі.

Галянтарэйныя і мануфактурныя крамы на рынку ў пятніцу выстаўляюць на продаж тавары толькі для сялянскае патрэбы.

Розныя кружавы, бліскучыя грэбяні, нанізаныя на ніткі пацеркі, кавалкі квяцістай матэрыі вабяць да сябе прыгожасьцю з надворнага боку селяніна-пакупніка. Гандляр і яго паслугач ліськлівым голасам заклікаюць да сябе барадатых дзядзькоў, пажылых кабет, якія недаверліва па некалькі разоў шчупаюць тавар. Сялянскія дзяўчаты, прымерываючы на сабе квяцістыя хустачкі ці пярсьцёнкі з фальшывым смарагдам, з дзявоцкім сарамяжлівым захапленьнем слухаюць пахвальбу сваёй прыгожасьці хітрага гандляра і, як дзіця, любуючыся мэталічным пярсьцёнкам з простым шклом, плоцяць трыццаць капеек і ідуць, задаволеныя купленым.

Вялікія з жалезнымі стрэхамі коопэрацыйныя крамы, у якіх важна пахаджвалі каля тавару прадаўцы, трымалі свой тавар скручаны, у парадачку раскладзены на высокіх паліцах. Купец акідваў блукаючымі вачыма паліцы і адыходзіў, нерашуча адказваючы на пытаньні прадаўцоў.—Што вам трэба?

— Ды так... бачыце, я паглядзець... а так мне нічога...

Шчыглоў Сяргей прыехаў на рынак разам з бацькам. Прывезьлі шэсьць мяхоў бульбы. Пяць мяхоў прадалі, застаўся адзін.

Можна-б было варочацца дахаты, тым болей, што ўсё патрэбнае ўжо купілі. Але Шчыглоў прасіў бацьку пачакаць варочацца. Сягоньня Шчыглоў і Мартынаў умовіліся сустрэцца на рынку. Мартынаў, выяжджаючы ад Шчыгловых позна ўвечары пасьля сканчэньня спэктаклю ў хаце-чытальні, абяцаўся абавязкова прыехаць у пятніцу.

— Ня прыехаў і ўсё... Можа, што здарылася, і выехаць ня змог,—стараўся ўгаварыць бацька Шчыглова сына, каб зараз-жа варочацца дахаты,—а то прыедуць сыны на месяц на пабыўку і то ў хаце не сядзяць, а ўсё соўгаюцца па горадзе,—упікнуў стары Сяргея, які чакаў Мартынава для таго, каб застацца на ўвесь кірмашовы дзень у горадзе.

— Дзень у горадзе правядзем—невялікая страта. К вечару вернемся з падарожнымі фурманкамі. А то пойдзем разам з намі ў кіно-тэатр. Бачыў вялікія афішы, паглядзім „Чырвоных партызанаў“. Цікава будзе, сапраўды.

Стары Шчыглоў не пасьпеў адказаць сыну, як да воза, сьпяшаючыся, падышоў матрос Мартынаў і, хутка прывітаўшыся, паведаміў Сяргея.

— Ідзем найхутчэй. Справа неадкладная ёсьць.

— Ідзіце, ідзіце... Моладзь, што з вас яшчэ возьмеш, у тэатры загарэлася... Ідзіце...

— Дзе там у тэатры, больш важная справа ёсьць,—адказаў Мартынаў старому, адходзячы разам з Сяргеем ад воза.

— Да ночы можа вернемся, а можа трохі і пазьней,—мінуўшы ўжо рад вазоў з бульбаю, пракрычэў Шчыглоў бацьку.

— Што ты сьпяшаешся, як на пажар?

Мартынаў ішоў хутка. Шчыглоў ледзьва-ледзьва за ім пасьпяваў.

— Ты памятаеш, у вагоне, калі мы ехалі сюды, з намі прымасьціўся спэкулянт Пушкароў?

— Памятаю.

— Дык я яго бачыў сягоньня тут у чайной.

— Ну дык што-ж, калі бачыў?

— Бачыў і чуў, як ён у размове заікнуўся...

Матрос не дагаварыў да канца; падняўшы руку да шапкі, працягнуў.

— Васілю Пятровічу... Наша вам.

— Добры дзень, добры дзень,—трохі ў замяшаньні вітаўся Пушкароў, які толькі што вышаў з чайной з прыяцелем, з неўспадзеўкі сустрэўшымся быўшым падарожным па вагоне.—Я, ведаеце, Ганьне Сьцяпанавай уладзіў добра. Ёй яшчэ далёка трэба было ехаць, дык я яе перавёў на сваё месца. Выгадней, ведаеце, угары ніхто не патурбуе, а ўнізе ўсё-ж ня тое, ды прытым яшчэ на ніжняй лаўцы лічыцца два месца, а ўгары адно.

— Дык яна паехала?

— Паехала, а як-жа... ёй далёка ехаць, амаль ня ў Крым ці на Каўказ.

— Та-ак,—працягнуў Мартынаў.

— Як-жа яна можа не паехаць,—зьдзіўлена сказаў Пушкароў, настаражыўшыся і пільна сочачы за тварамі Мартынава і Шчыглова. Упэўніўшыся, што матрос і чырвонаармеец кінулі пытаньне выпадкова, Пушкароў далікатна запытаўся, калі кончыцца тэрмін іх водпуску і, разьвітаўшыся, дагнаў свайго прыяцеля, і абое хутка пашлі ўперад.

— Хутчэй за імі, ты па тым баку вуліцы, а я па другім. Ні за што ня спускай з ачэй.

Сяргей Шчыглоў не пасьпеў распытаць таварыша, у чым справа, але, ведаючы Мартынава добра з маленства, Шчыглоў здагадваўся, што творыцца нешта сур'ёзнае, і разумеў, што пакуль няма часу зьвядаць усе акалічнасьці, трэба рабіць так, як загадваў Васіль, каторы ніколі дарма не палезе не ў сваю справу.

Пушкароў з прыяцелем, некалькі разоў азірнуўшыся назад, бачылі, што чырвонаармеец і матрос стаялі на месцы.

Сачыўшыя за Пушкаровым Шчыглоў і Мартынаў прыкмецілі, як абое прыяцелі, уважліва азірнуўшыся навокал, сьлізнулі ў вароты.

Матрос хутка дашоў да варот і ўбачыў, як Пушкароў і яго сябар выходзілі праз другія вароты праходнага двара.

Мартынаў кінуўся бягом праз увесь двор. Выглядваючы з-за поўадчыненай форткі праходнага двара матрос прыкмеціў дом, у які ўвашоў Пушкароў, разьвітаўшыся з сваім прыяцелем. Шчыглоў дагнаў Мартынава ўжо толькі каля форткі.

— Скажы толкам, дзеля чаго нам патрэбен гэты спэкулянт?—запытаўся Шчыглоў у Мартынава, калі той паведаміў, куды ўвашоў Пушкароў.

## X.

Мартынаў толькі цяпер змог расказаць Шчыглову, што ў чайной, выпадкова сеўшы за суседні ад Пушкарова стол, чуў, як гандляр казаў свайму прыяцелю:

— Прыехала разам з дзіцем. Ледзьва-ледзьва ўдалося ўламаць. Здагадвалася яна, што прыемнага чакаць ад нас няма чаго. Толькі і зьлезла ў Кузьнецку таму, што ў яе ўкралі хустку з білетам і грашыма. У заяве я паказаў падазрэньне ў крадзяжы на чырвонаармейца і матроса, якія зьлезьлі на апошняй станцыі перад Кузьнецкам, — перадаваў сапраўдныя словы Пушкарова Мартынаў Шчыглову. Ты разумееш, тут ня йначай, як пра Ганну разгавор ішоў, а заявілі аб крадзяжы на нас.

— У вагоне гэты спэкулянт нешта падазрона сябе вёў. А ты памятаеш, як ён сказаў, што ведае, адкуль Ганна,—у сваю чаргу ўспомніў падрабязгі Шчыглоў.

Мартынаў і Шчыглоў успомнілі ўсе факты падазронага абыходжаньня гандляра і парашылі энэргічна весьці справу.

Двухпаверхавы дом, куды ўвашоў Пушкароў, паглядаў на вуліцу трыма-чатырма дзесяткамі вокан.

— Ня трэба паказвацца перад вокнамі. Нас могуць прыкмеціць,—раіў Шчыглоў.

На дварэ дома матрос і чырвонаармеец сустрэлі жанчыну з мятлой, якая прыбірала двор.

— Скажэце, цётка, ці ня тут жыве Карпава,— зьвярнуўся Шчыглоў.

— Карпава?—перапытала жанчына.

— Так, Карпава.

— Карпавай няма... Такая ня жыве.

— А Пушкароў, Васіль Пятровіч ня тут кватарує?

— Васіль Пятровіч у чацьвертай кватэры жыве па чорным ходзе, вунь лесьніца,—жанчына паказвала ўваход на другі паверх.

— Ня можна-ж у кватэру нам лезьці,—разважалі матрос і чырвонаармеец, распытваючы жанчыну, якая аказалася дворнічыхай.

Раптам на лесьніцы чуваць стаў нейкі шум, шпаркія крокі і гвалт:

— Трымайце, трымайце зладзейку!..

Пад крыкі „зладзейка", бегшая па лесьніцы жанчына з дзіцем на руках павалілася на парозе чорнага ходу і цяжка зарыдала. Матрос кінуўся да жанчыны.

— Ганна Сьцяпанава,—пазнаў Мартынаў.

З лесьніцы бягом спусьціўся Пушкароў і неўспадзеўкі наткнуўся на матроса.

— А! Вось як... і вы тут...—і Пушкароў засунуў ужо правую руку ў заднюю кішэню штаноў, але Мартынаў дагадаўся, чым пагражаў рух рукі спэкулянта, і з усёй моцы ўдарыў Пушкарова кулаком ў твар. Неспадзяваны і моцны ўдар зваліў Пушкарова на зямлю і выбіў з рук яго рэвольвэр, выняты з задняй кішэні. Падасьпеўшы на дапамогу Шчыглоў наваліўся ўсім цяжарам свайго цела на спэкулянта і прыціснуў яго да зямлі.

— Згвалціць хацеў... пагражаў за зладзейку выдаць міліцыі, а сам ашуканствам да сябе завабіў, абяцаўся дапамагчы ў вайсковым камісарыяце дастаць літэр...—скардзілася Ганна Сьцяпанава, захлібваючыся сьлязьмі.

— Трымай яго пакуль што, Сяргей, а вы, цётка, за міліцыянэрам зьбегайце.

Дворнічыха, напалоханая гармідарам, які здарыўся на яе ачох, вопрамецьцю кінулася выконваць просьбу матроса.

На шум у двор выбеглі некалькі чалавек жыхароў, зацікаўлена пазіраўшых, як матрос супакойваў жанчыну, якая рыдала, а чырвонаармеец асьцярожна, як пярынку, падняў гандляра з зямлі, страсянуў яго і з усьмешкаю паставіў яго на ногі.

— Ты што-ж, галубок, за чырвонаармейкамі рашыў стральнуць?

На насьмешлівае пытаньне Шчыглова Пушкароў не адказаў.

— Спалохаўся, нават язык адняло,—вывеў заключэньне з маўчанкі гандляра чырвонаармеец.

— Нічога, як Нарсуд прыпіша спакойнага адпачынку гадкоў пяць, дык супакоіцца і назаўсёды астыне ў яго пал.

Пушкароў спалоханымі вачыма бегаў па тварах Ганны, Мартынава і сабраўшыхся жыхароў.

— Ты ня бойся, не восемнаццаты год, не кранем,—супакойваў Шчыглоў спэкулянта, прымеціўшы, што той спалохаўся,—цяпер цябе спачатку судзіць будуць, а там прыгавар і капут.

Зірнуўшы на вялікі сьціснуты кулак чырвонаармейца, каторы паказваў, які будзе капут, Пушкароў уздрыгнуў і кінуў вачыма на валяўшыся рэвольвэр.

Але Мартынаў папярэдзіў рух спэкулянта, які намерваўся кінуцца да зброі.

— Ня руш... да міліцыянэра не шавяліся, калі хочаш, каб усё ў парадку было.

Пушкароў прымушаны быў чакаць, пакуль прыдзе міліцыянэр.

## XI.

Ганну Карпаву пасьля арышту міліцыяй Пушкарова, Шчыглоў запрасіў да ад‘езду застанавіцца ў яго на вёсцы.

Мужу Ганна паслала тэлеграму аб тым, што яна затрымалася і просіць прыехаць.

На станцыі Ганна з дзіцем, бацька Шчыглова, Сяргей і Мартынаў чакалі прыходу цягніка, з якім павінен быў прыехаць Карпаў. На завароце чыгункі вылез паравоз, гучна прасьвісьцеў і пад шум колаў, якія пераяжджалі стрэлку, падкаціў к пляцформе.

— Ільючок!—кінулася Ганна да чырвонаармейца, які весела ўсьміхаўся, вышаўшы з вагону і трохі кульгаючы на правую нагу.

Сустрэча Карпавых была радасная. Радаваліся і Шчыглоў і Мартынаў.

— Выручылі жонку з бяды, дзякую, таварышы,— у замяшаньні прагаварыў Карпаў, моцна сьціскаючы руку Шчыглова і Мартынава.

— Кінь, браток, ці-ж ты-б не зрабіў, як і мы?

— Заўсёды-б зрабіў.

— Ну, то-то ж.

Аб здарэньні з Ганнай гаварыць кінулі. Стары Шчыглоў цікавіўся, з якой прычыны ранены.

— З-за газэты падстрэлілі.

— Як гэта з-за газэты?

— Пісаў я разы два аб Ардацкім коопэратыве ў губэрскай газэце, як мяне свае паведамілі, што коопэратыў не коопэратыў, а заселі там пад выглядам коопэратыву тры спэкулянты ды пад шумок і варочалі буйнымі опэрацыямі. У крамах коопэратыву селядцы, пудру, цукеркі для людзкога вока трымалі... Рэвізіі бывалі, але толку не дабіваліся, усё шыта і крыта, было добра.

— Іш ты іх, шэльмы,—чэрці якія. Дзе-б соль, мыла прадавалі-б, дык яны пудру,—сьмяяўся стары Шчыглоў.

— Як у газэце я напісаў,—казаў далей Карпаў,— з губэрскага коопэратыву паслалі новых людзей, яны па маёй заметцы і выкрылі ўсе махінацыі спэкулянтаў. Спэкулянты па злабе і падстрэлілі мяне ў губэрскім горадзе. Аднаго злавілі, сазнаўся.

— Забіць маглі,—выказаў думку стары Шчыглоў.

— Вядома рэч,—згадзіўся Мартынаў.

— Чатыры выстралы далі з рэвольвэра. Страляць, прахвосты, ня ўмеюць. Вось гэта шалёная сядзіць,— паказаў Карпаў на сваю правую нагу.

Ехалі ў сяло разам. Карпаў парашыў перачакаць некалькі дзён у Шчыгловых, пакуль Ганна атрымае дазваленьне на ільготны праезд.

— Як-жа там у горадзе ў сям'і жывецца?

— Да што-ж, жывецца аднолькава, што ў горадзе, што і ў вёсцы,—адказаў старому Шчыглову Карпаў,—я месяцаў дзевяць-дзесяць, як прызываўся, а скажу, Ганна ў гаспадарцы спраўляецца і без мяне. Падаткаў за хату і сад, сажняў сто квадратных, не плачу, аслабанён, як чырвонаармеец. Сястру-сірату ўзялі на выхаваньне ў прытулак. Наогул служыць у арміі можна спакойна, ня думаючы надта аб сваёй сям'і.

— Гэта праўда. У нас на вёсцы было нават такое здарэньне... Міронаў, Янка Мікітаў, каб выйсьці з цяжкога становішча, прадаў апошняга каня за поўцаны спэкулянту з Кузьнецку. Усё было зроблена, Міронаў і грошы атрымаў, а з гораду прыехалі і праз суд вярнулі каня Міронаву, а грошы загадалі вярнуць назад. Рад быў Міронаў да сьлёз. Прыціснула патрэба на мінуту, бачыш і вывернуўся, а каня-б то ня было.

— А то як-жа, папрацуй у сялянскай гаспадарцы без каня, шмат не напрацуешся,—падтрымліваў Сяргей бацьку.

— Выходзіць так, што сочаць за тым, каб з чырвонаармейскіх сем'яў не цягнулі барышнікі жылу,—адказаў Ганьне Мартынаў.

— Выканкомы глядзяць, каб ашуканства над працоўным сялянствам ня было і заўсёды памагаюць працоўнаму селяніну, каб не папасьціся ў лапы розных барышнікаў, круцялёў і спэкулянтаў.

У гутарцы час праляцеў няпрыметна аж пакуль прыехалі ў сяло.

У сяле іх чакала навіна.

У хаце Шчыглова знаходзіўся сьледчы і рэдактар Кузьнецкай газэты.

Ва ўсе вушы слухалі Ганна і Ільля Карпавы, уся сям'я Шчыгловых і Мартынаў нечаканых гасьцей.

— Яны, таварыш Карпаў, тонкую і страшную помсту для вас задумалі за тое, што пісалі на іх у газэту. Двое павінны былі забіць вас з рэвольвэра, але яны толькі змаглі раніць. Трэці—Пушкароў, узяў на сябе задачу, пасьля таго, як не ўдалося вас забіць, затрымаць вашу жонку і выклікаць вас з курорту ў Кузьнецк, дзе думалася лягчэй усяго вас забіць. Спроба Пушкарова згвалціць Ганну Сьцяпанаву і сваячасовая дапамога таварышоў Шчыглова і Мартынава выратавалі вас ад замаху ў другі раз на ваша жыцьцё, таварыш Карпаў.

— Вось, скажыце, якую штуку задумалі,—і ўсяго заметка тая дваццаць радкоў мела; прызываецца „Ваўкі ў авечай шкуры на Ардацкай сабачарні“.

— Ваўкі на Ардацкай сабачарні,—крыкнуў Мартынаў.

— Але, ваўкі ў Арда...

— Так і ёсьць. Пушкароў усю дарогу байкай пра ваўкоў у Ардаце галаву нам марочыў, выходзіць, байка сэнс мае,—дагадаўся матрос.

КАСТУСЬ КЛЯГІН

I

# У СУМЛІВУЮ НОЧ

II

# БРАТ

III

# КРОЎ БУНТАРСКАЯ

ПЕРАКЛАД М. КАСЯНКОВА

## У СУМЯТЛІВУЮ НОЧ.

### I.

Васемнаццаты год адлічваў апошнія дні.

У тую пару на Ліскі (станцыя вузловая, што ад Варонежа на дзевяць-дзесяць вёрст) Красноў, генэрал царскі, віхураю наваліўся.

Полк багучарскі—абарона Лісенская, біўся зьверам за ўладу савецкую.

Ужо тады разадраліся Ліскі на дзьве часткі.

Старыя за цара, моладзь за волю вольную.

Сям'я растапырай у розныя бакі.

І вось.

Хіменка бацька—за Краснова, Хіменка сын—за бальшавікоў.

А перад тым было.

Што ні дзень, то Хіменка сын з Хіменкам бацькам—у спрэчку.

Бацька за цара, сын за бальшавікоў.

А нешта раз—лютая спрэчка.

Сварка.

Лаянка.

Узьняўся хмарай гразовай бацька і закрычаў:

— Колысь то було, што-б праваслаўно хрысьцьянство поскудзтвом займалось. Я, стары козак, прысягаў цару і за його душу положу. А ты, бісоў сын, закрой зяўло, не то саблюгой зьнясу паскудну голову.

Сын бацьку—за-грудкі.

Размахнуўся бацька шабляй, а шабля плёткаю зьвісла над галавой і спусьцілася долу.

Застыглі адзін супроць аднаго.

Зазьзялі вочы злосьцю.

Злосьць была адна, а агні гарэлі розныя.

У бацькі за цара, у сына за бальшавікоў.

Адвёў погляд сын і працадзіў скрозь зубы сьціснутыя:

— Ну, добрэ, бацько, бувайтэ здоровэнькы, да не пападайтэсь на шляху...

— Гэць віт'цэля!

— Прошчайтэ,—кінуў Панас і—вон з хаты.

У тую ноч напіраў Красноў, генэрал царскі, на Ліскі.

Багучараўцы паддаліся.

Залачком вышлі з Лісак.

Пашоў з імі й Панас.

II.

Тыдзень Ліскі кідаліся, як мячык.

Ад Краснова—к багучараўцам, ад багучараўцаў—к Краснову.

Запужалі людзей завірухі баявыя.

Змардавалі завірухі зімовыя.

Кожны дзень, з вечару і бадай што да паўдня другога дня, круціць завіруха.

Сёньня.

Эх, як круціць з ранку нягода.

Быццам з прорвы так і сыпе цяжкімі хлапкамі.

За два крокі ня відаць чалавека.

Вые воўкам завея.

Плача дзіцёнкам малым посьвіст драцяны.

Ляціць з прорвы віхурай сумятня.

Сабакі выюць, бабы старыя кажуць—к нябожчыку.

Не зразумець:

Ні-то вечар, ні то ноч.

Цемра—вока выкалі.

Багучараўцы заселі ў вёсцы.

Казакі аселі ў сяле, за Донам.

Ліскі пасярод.

Цяжка сядзець сакалом буяным бяз дзела.

Што ім завіруха!

Што ім сумятня!

Рушылі багучараўцы без разьведкі на сяло за Донам.

Зналі, што там казацтва лампаснае сядзіць, раскашуецца.

Уваліліся з сумятнёй у сяло.

Ды ня драмалі старыя ваўкі,—знаюць, дзе ракі зімуюць.

Не пасьпелі вокам міргнуць багучараўцы, як з усіх бакоў харты Краснова, генэрала царскага, з булатнай шабляй нагола ляцелі.

А там, дзе сярод сяла раскапусьцілася, як тлустая далонь, плошча,—схапіліся.

Вые воўкам завея.

Плача дзіцёнкам малым посьвіст драцяны.

Ляціць віхурай з прорвы сумятня.

Цемра—вока выкалі.

Біліся—сьцяна на сьцяну.

У цемры воку нязручна, цемра вайне ня спрыяе, асабліва ў баі рукапашным.

У поўнач.

Перамяшаліся ў кашу рады.

Б'е рука—не здрыганецца.

Валіцца народ у сумёты, абліваюць сьнег цёплай крывёю.

Растаюць рады.

Тонуць цені ў сумятні.

III.

Па ўскраі поля, што раскінулася над Донам, бег, як духу хапала, Хіменка Панас, багучараўскага палка чырвонаармец, ратаваўся ад палону.

У палоне—сьмерць.

Ведаў гэта Панас.

Цемра—вока выкалі.

Ляціць віхурай з прорвы сумятня.

Засьцілае вочы калючым пылам.

Грузнуць ногі ў сумётах пухкіх.

Зьбіўся з дарогі Хіменка—сумятнёй закруціла.

Стаў.

Прыслухаўся ў муць.

Поплеч рыпеньне санак прарвалася.

—

Бліжэй.
Яшчэ бліжэй.
З павучыны імглы мільганула пляма.
Санкі.
З разьлёту—у іх.
Мякка ў сене.
Ныраюць, прарываюцца, імчацца і зноў ныраюць у сумётах санкі.
Куды імчацца—усё роўна.
Няма дарогі.
Ные цела.
Забірае сон.
Праляцеў з поўвярсты—нехта з разгону кулём у санкі.
— Гух!
Ныраюць санкі ў сумётах.
Ляціць віхурай з прорвы сумятня.
Чуе Хіменка сап.
Рукой па сьпіне.
К шыі.
К плячу.
Пагоны.
Прымёрзла рука.
У галаве—жар.
У вачох агнявыя кругі.
Міг.
— А, сукін сын, красновец!
За горла.
Дужы казак, махам адкінуў Хіменку ўбок.
Хіменка з размаху зноў на казака і зноў за горла.
Хрыпіць, круціць галавой, а ўсё-ткі ўчапіўся, што рак клюшнямі, у Хіменкава горла.
Сьмерць.
Жыцьцё.
Цісьне, як мага, Хіменка акасьцянелымі пальцамі горла казацкае, а чуе—во-во выпусьціць.
Стуліўся.
Напружыў сілы.
Сьціснуў горла.
Яшчэ.

І яшчэ.
Ляціць віхурай з прорвы сумятня.
Імчацца, ныраюць санкі ў сумётах.
Гагоча сьмерць.
Хіменка зубамі скрыгоча—душыць.
Хрыпіць цішэй.
Аслаблі клюшні, рукі казака, павісьлі плёткай і выпусьцілі Хіменкава горла.
Сьмерць казаку.
Імчацца, ныраюць санкі ў сумётах.

IV.

Да вуха даляцеў сабачы брэх.
Часьцей.
Гучней.
Сяло.
Ля першага двара конь спыніўся.
Хіменка кошкай—к акну.
Пазнаў родную хату.
Паляпаў.
— Вітчыні, мамо, цэ я, Панас.
І чуваць было:
Старчы кашаль...
Піск дзьвярэй...
Рыпеньне сьнега.
Расчыніліся вароты.
Увашоў сам конь на двор.
Хіменка—да захутанай матчынай галавы.
Шопатам:
— Прынесы сьвіт, мамо, задушыў я, здаецься, красноўца.
Запалілі ліхтар.
Жоўты прамень асьвяціў:
Твар задушанага...
Шкляныя адкрытыя вочы...
Сівую бараду...
Схапіў Хіменка ліхтар—бліжэй да твару.
Не памыліўся.
А потым.
Адышоўся ад санак і сказаў каротка матцы:

— Бацьку задушыў, мамо...

Абярнуўся да бацькі і цьвёрда:

— Не чуў, бацько, шчо ты гэта, а колы-б і почуў, то не было-б пошчады, усэ едыно. Шляхы скрэстылысь, цісно стало.

Няроўным крокам Хіменка пасунуўся ў хату.

Выла старая.

Выў сабака.

Ляцела віхурай з прорвы сумятня і засыпала сівым пылам нябожчыка, матку, каня.

---

## БРАТ.

### 1.

У дзевятнаццатым годзе нас Шкуро мездрануў здорава, ад палка каўняры адны высталіся, дый то дзіравыя.

Полк прышлося зьбіраць нанова.

Сталі мы ў горад.

Адпрасіўся я тады ў камандзіра на тыдзень дахаты.

Камандзір пусьціў.

Прыехаў.

Бачу—кулацтва бухтарыцца.

Пачулі белых.

А белыя пасуваліся ходка.

Я гэта—ці грэх, ці не—аднаго адправіў у Чаку. Іншых з старшынёй прыпудзілі.

Сьціхлі, толькі чортам на мяне глядзяць.

Сымон, брат большы, ад мяне морду верне.

Баба яго сакочыць:

— Жыцьця цяпер ня будзе праз цябе. Во што. Ты-то змыешся, а за цябе адказвай.

— Трэба вас патрэсьці трохі,—пажартаваў я.

Сымон маўчыць, баба за яго тарабаніць:

— Іш ты які трасун! Трос-бы лепей сваю комунію. Награбавалі дабра. Цягнуць усё вашы абшарпанцы, да-галя забіраюць. А хто мяшаў каму працаваць і абжывацца?

— Так,—кажу,—і трэба. Для агульнае справы аднаго няма чаго шкадаваць.

— Але-ж ты прышоў да гэтага аднаго ды жрэш кожны дзень,—уступіўся Сымон.

— Мы табе зямлю далі.

— Бач ты, зямлю далі. Падавіліся-б вы сваёй зямлёй.

Ну, слова за слова, добра палаяліся.

Сымон пад канец адпаліў.

— Ня брат ты мне раз ты за комунію.

II.

Назаўтрага зранку на вёску атрад—з палка, за хлебам.

Прышлі да Сымона.

— Дай, кажа старэйшы, колькі можаш, чацьверты дзень хлопцы ня жралі нічога.

Сымон ухмыляецца.

— Няма,—кажа,—таварыш, ужо ўсё выбралі. Ня першы ты...

— Слухай,—кажа старэйшы,—загадана дастаць, гібнуць ад сьмерці галоднай абаронцы сусьветнай рэволюцыі.

Сымон толькі ўхмыляецца.

— Іш, дзіва якое, колькі бяруць дабра, а вы галадуеце.

— Несьвядомы ты. На мушку-б цябе.

Сымон толькі ўхмыляецца.

— У горадзе комуністым пайкі даюць, а на вас і забыліся.

Закіпела злосьць ува мне.

Знаў я, што значыць у паходзе ды баёх голад. Знаў я, што значыць усьмешка Сымона.

Знаў я гэта, а таму й рашыў забраць хлеб.

— Пойдзем,—кажу,—хлопцы, разам шукаць.

Сымона нібы абухом хто ляснуў. Кінуўся да мяне, ды штыхі спынілі.

Пакінулі па норме хлеба, рэшту—вон з двара.

Баба выцьцё ўзьняла.

Сымон—да мяне.

— Ты,—кажа,—нас голадам хочаш змарыць, дык пашоў, сукін сын, а то нож у горла ўсаджу.

Прыпудзіў я яго—сьціх.

Толькі пасьля таго быццам прорву хто выкапаў паміж нас.

III.

На трэці дзень, як сьнег на галаву, уначы Шкуро. І дзе праскачыў, дык да гэтага часу невядома.

Кажу Сымону!

— Хавай.

А ён мне:

— Хаваць мне цябе інтарэсу няма. Кожны сам за сябе адказчык.

Добра, схаваўся сам.

Казакі перш-на-перш грабаваць. Быццам комуністых шукаюць, а самі скрыні выпаражняюць.

Прыходзяць да Сымона.

— Ёсьць комуністы?

Сымон замяўся, падумаў і адрэзаў:

— Мой брат—чырвонаармеец.

І паказаў месца, дзе я схаваўся.

Выцягнулі мяне, рукі назад, і павалаклі.

У Сымона вочы шкляныя, злосьцю бліскаюць.

Пацягнулі мяне і проста на гумно.

— Значыць,—думаю,—зямля.

Шчасьце неяк трапілася.

Узьнялася на вуліцы страляніна. Казакі ўцяклі. Я—у капу сена.

Ноччу ў лес.

А на сёмы дзень, ракам дапоўз да сваіх.

Пасьля, як забралі нашу вёску, напісалі мне, што Сымон старастам быў пры белых і з панам адбіраў у сялян рэчы панскія. Шмат каго „пад зямлянск" падвёў. Сам шампаламі засякаў да сьмерці. А як пагналі белых, і Сымон з імі пашоў.

Пашоў—толькі й бачылі.

IV.

Праз год...

Справа занялася з-за вёскі.

З гэтае самае заразы ўсьцяж нам спакою не давалі драздоўцы.

Вёска-то мізэрная, ды вось прымасьцілася яна зручна—голай рукой ня возьмеш.

Камандзір палка ўзлаваўся й сказаў:

— Хлопцы—памры, а вёску дастань.

Ну, раз камандзір сказаў, дык няхай кроў з носу, а зрабі.

Схапіліся ў штыхі.

Што ўжо што, а біліся мы, аж пер'е сыпалася з усіх канцоў.

Ударылі добра.

Вёску забралі, за ёй другую, трэцюю.

Расхадзіліся хлопцы.

Адным словам, к вечару мы прашлі, што трэба, і прыціхлі. Пашлі ўперад павольна.

Каля сяла Ягадкі затрымаліся.

Бой.

Вось тут са мной і здарылася бяда.

Белагвардзейская куля ў назе дзірку пракруціла.

У гарачцы ня прыкмеціў, а як ахамянуўся, дык і сеў на мель.

Далажыў аддзялькому.

— Так і так, значыцца, а хадулі нашы сапсаваліся. Далей несьці службу ня здольны.

Пяхотным парадкам—у тыл.

V.

Дашоў да вёскі, змору пачуў. Дай, думаю, адпачну.

Заходжуся ў адну хату, вінтоўку трымаю за плячмі і порах у сухім выглядзе, на ўсякі выпадак.

У хаце сьветла і сям'я ўся сабраўшыся.

— Ну,—кажу старому,—буду ў цябе начаваць, хадулям рэмонт запатрабаваўся.

— Добрэ, кажа стары, міста хватыць у нас, сынок.

— Добра.

Сьнідаць будзеш, сынок?

— Наконт што да ежы—адмаўляцца ня можам, дзядуля. Давай.

Зьеў, як належыць, усякага дабра. З галадухі— толькі давай.

Пасьля рану прамыў і завязаў.

Глупства, кавалак мяса адарвала.

Папрасіў месца, дзе заначаваць.

Адзначылі мне месца, дзе я мог заначаваць, а месцу гэтаму я быў ня рад з прычыны даволі значнай прысутнасьці блох і іншых стварэньняў.

Тады я падаўся з сваёй вінтоўкай у пуню на сена.

Узьлез на самую гару на трысьцен і вінтоўку зацягнуў з сабой.

Ляжу.

Нудна аднаму ляжаць, прывык з хлопцамі.

Яшчэ паляжаў.

Потым пракалупаў дзірачку ў страсе і адно вока прыладзіў для абгляду мясцовасьці ў шчэлку.

Неба цямней за груґана. Зоркі брыльлянтамі пераліваюцца.

Прыслухаўся.

Цішыня.

Сабакі нават ня брэшуць.

І ляжаў-бы ўжо так, да слова сказаўшы, пакуль і не заснуць, аж не. Чую ў другім кутку шкрабае нехта—нібыццам, як мыш.

Я вуха зайстрыў.

Шкрабае.

Я яшчэ раз.

Шкрабае, правільна.

Памацаў вінтоўку, абмацаў патроны. Усё ў належным парадку.

— Ну,—кажу,—Сялкоў, тупай у куток, справа нядобрая.

У баёх не палохаўся, а тут, шчыра прызнаюся, мурашкі прабеглі па сьпіне да патыліцы.

Ня люблю без прастору біцца, ворага ня відаць.

На хітрыкі трэба брацьʼ.

У назе хворасьці быццам і ня было.

Зараз гэта я машынку, чырк-чырк, засьвяціў,—ды ў куток.

Вінтоўку на перавес.

— Хто тут,—крычу.

Замест адказу, лезе проста на мяне нехта.

— Адлезь,—кажу,—гад, закалю.

Пагасла сьвятло ад машынкі.

У пацёмку палезьлі адзін на аднаго.

Я яму толкам крычу:

— Адлезь, ня руш, патаму калі мне суджана быць жывому, дык табе—зямля.

Трапіўся зручны выпадак, задаў я яму па патыліцы раз і пункт заняў.

Сеў на яго верхам.

— Ну, згодзен, што мая перамога?

VI.

Папёр пасьля я яго ў хату.

Запалілі сьвятло.

— Давай,—кажу,—дакуманты.

Даў.

Толькі гэта я растапырыўся для прагляду, а ён—жыг, і на-ўцёкі.

Я за ім цераз плот, па гароду, па сенажаці, зноў цераз плот.

Днець пачало.

Каля плоту прыціснуў.

Наляцеў каршуном і трымаю за каўнер.

Ды так гэта няўмысьля зірнуў у морду і застыгнуў.

Быццам мяне хто варам абдаў.

Гляджу я на яго, а нічога ня бачу, у вочах мітульга нейкая.

Перадолеў сябе, прыгледзеўся,—брат.

— Сымон! Ты?

— Я. А табе што?—ня гледзячы на мяне, ашчэрыўся ён.

Што нажом па горлу, разануў ён словам сваім. Узлаваўся я і кажу:

— Папаўся?

— Папаўся, кажа.

А ў самога зубы стукаюць і холад па скуры дзярэ. Зірну на яго—ні то брат, ні то вораг. Ня ўцямлю. А роднага нічога няма.

— Пусьці, Янка, брата,—заенчыў Сымон.

— Не, кажу, Сымонка, ня брат ты мне, і пусьціць я цябе не магу. Дрэні ад цябе шмат, а толку мала. Такі час прышоў за рэволюцыяй, ня можна ворага шкадаваць. Пашкадуеш ворага, загінеш сам. Жаласьці не чакай.

— Што-ж, ці заб'еш?

— Заб'ю, сказаў я цьвёрда.

І адступіў на два крокі назад, сьціснуў вінтоўку, вока праз прарэз прыцэла на мушку і—спусьціў курак.

Паваліўся Сымон—і канец.

---

# КРОЎ БУНТАРСКАЯ.

## I.

Грымнула ў Кастрычніку слова такое:

— Інтэрнацыянал.

Хітрае—хітраму й знаць, а Махмэту Мухамідзянаву трудна яго й вымавіць:

— Інтарнасіяналь,—кажа ён.

Чуў Махмэт на мітынгах, у Ніжнім—горадзе на Волзе:

— Вызваліць людзей усіх—Інтэрнацыянал...

Ноччу ляжа на дзяругу ў склепе вільготным дыцёмным, у сялібе татарскай, а заміж сну блукаюць безадказныя думкі ў галаве Махмэта.

Бунтуе ў сэрцы радасьць, быццам прамень барвяны сонца раньняга, а вусны шэпчуць:

— Інтарнасіяналь...

Хітрае—хітраму й знаць...

На вёсцы ў Махмэта бацька, стары Абдул, матка й сястра.

Узімку кінуў іх, на заробак пашоў у Ніжні—горад на Волзе. А пашоў ён таму, што у сьцюдзёны дзень у месяцы сьнежні, за нявыплату царскіх падаткаў, прадаў чыноўнік царскі дзіравую хату і выгнаў вон з наседжанага гнязда.

Плакаў стары Абдул, выла воўкам старая Зарэма, стагнала маладая ды грудастая Зулейка. Прасілі пакінуць хоць хату—не пакінуў.

Увечары, калі мароз, пагрукваючы крышталёвым кіёчкам ды пакрэктваючы, вышаў на вячэрнюю пагулянку, калі ружовае неба цалавала ружовы бязьвінны

сьнег, пашоў Абдул па вёсцы прасіць у добрых людзей Алахавым іменем прытулку.

Праз тыдзень, за кавалак хлеба, наняўся к пузатаму князю—пану Бек Мармачову працаваць стары Абдул, старая Зарэма і грудастая, з цёмным вокам, Зулейка.

Махмэт падаўся ў Ніжні—горад на Волзе, грошы здабываць на хату й гаспадарку.

Дзесяць месяцаў, як адзін дзень, дзесяць месяцаў Абдул і сям'я цягалі сілу ў засекі Бек-Мармачова. Не адзін Абдул, не адна Зарэма, не адна Зулейка, а сотні нявольнікаў цягалі, як пчолы мёд у вулей, сілу ў засекі Бек Мармачова.

Багаты татарын—князь, што хацеў, то й рабіў.

А апрача ўсіх свавольяў, любіў князь дзевак грудастых класьці з сабой начамі спаць.

Бек-Мармачову прывозіў дзевак здалёку касавокі і гарбаты, ростам з аршын, Ібрагім.

## II.

Сягоньня, у першы раз, Бек Мармачоў убачыў разьюшаную працай Зулейку. Замасьліліся яго вочы, забрыгалі жыўчыкі на шчоках, цмокнуў Бек-Мармачоў і ножкай скрабануў.

— Ух, якая харошая!

Позна ўвечары, калі Абдул, Зарэма й Зулейка спалі ў сваёй каморцы, прышоў з ліхтаром касавокі і гарбаты, ростам з аршын, Ібрагім і сказаў патарску:

— Зулейка, ты сёньня будзеш у князя пасьцельнаю жонкай.

Зулейка вытрашчыла вочы, не зразумела Ібрагіма, але нешта страшнае прачытала яна ў яго вялікіх вачох.

— Ібрагім,—закрычала яна,—я не хачу быць пасьцельнай жонкай князя!

— А ў цябе пра гэта ня пытаюцца. Князь хоча. Раз князь хоча, дык і ты хочаш.

Ібрагім не сказаў больш ніводнага слова. Моўчкі схапіў за валасы Зулейку і пацягнуў вон з каморкі.

Завыла Зулейка, завыла Зарэма, закрычаў стары Абдул.

Сабраліся нявольнікі, і гора сваё расказаў Абдул народу.

Загудзелі, закалыхаліся, быццам хвалі ў ноч нявідушчую, нявольнікі і не хацелі даць князю Зулейку.

Тады касавокі і ґарбаты, ростам з аршын, Ібрагім закрычаў басам.

Страшна было слухаць маленькага чалавека, які гаворыць басам.

Ён сказаў мала—кожнае слова сьвінец у сэрца.

— Маўчаць! Ну, па мясцох, быдла!

Нявольнікі сьціхлі, але не пашлі па мясцох.

Тады стары, дужа стары, татарын сказаў:

— Ідзі, Зулейка, ідзі. Сказана нездарма—сіла саломy ломіць. Наш дзень наперадзе. Ідзі, Зулейка, хай благаславіць цябе Алах!

І Зулейка пашла.

Натоўп моўчкі разламіўся папалам і распусьціўся ў цемры.

Ібрагім пальцамі—клюшня ракава—сьціснуў касу і павёў Зулейку ў палацы князя.

І стала ціха, так ціха, быццам глуш прыціснула двор.

Толькі круцілася ваўчком старая Зарэма, доўга грызла зямлю, сьлязьмі абліваючыся.

Залачком павесілася.

— Цяжкія часы,—сказаў стары, дужа стары татарын.

У Кастрычніку трывога—дэкрэт:

— Зямля панская—народу.

Атрымаў Абдул зямлю, атрымаў хату, чакае Махмэта.

Махмэт цьвіце, як бант пунсовы, што гваздом прымайстраваў да грудзей, буяніць радасьць у сэрцы.

Сьпяшаецца ў родную вёску.

З усходам сонца, з променем барвяным, прыпёр Махмэт да хаты.

Не на радасьць...

Вядома ўжо...

Была ў Абдула зямля, была ў Абдула хата, але ня было ў Абдула Зарэмы й Зулейкі.

Глядзіць Махмэт, не пазнае хаты. Пуста ў ёй. Пацукі навыперадкі бегаюць. Павучыньне куты зацягнула. Печка ашчэрылася.

Стары Абдул шаптаў.

— Мушынае жыцьцё было, праклятае жыцьцё.

І расказаў Абдул праўду пра сьмерць маткі і пра сьмерць Зулейкі.

Памёрла Зулейка ад панскай хваробы й журбы.

У Махмэта загаралася злосьць.

Полымем тады ўжо насіўся агонь па панскіх сялібах.

Махане скрыдлам чырвоным, залапоча іскрою, узьляціць дымам чорным у муць нёба—і пашла куламеса.

Паліў народ і панскае дабро ў агні бязьмежным. Агнём толькі й злосьць спаганяў.

Махмэт гарэў, як бант пунсовы, што гваздом прымайстраваў да грудзей.

Вочы—агонь. Думкі—агонь. Сам—жалеза.

З князём расквітацца рашыў, на дарогу вывесьці яго і расквітацца.

— А-а-а, князь!

Махмэт ценем бродзіць. Махмэт думае. Махмэт з князём хоча расквітацца.

— А-а-а, князь!

У бязвокую ноч, калі ня відаць было зоркі, калі хліпаў асеньні дождж, а гразь цьвякала,—комам гудучым прыпёр да князёвай сялібы вольны народ і растаў у бяздонных сховах дабра.

Махмэт кумельгам—у палац.

Доўга шукаў князя,—не знашоў.

У князя добрыя коні.

Князь уцёк.

Пашоў віхурай гнеў народны па цемры ночы.

Запылаў груд пазалочанай мэблі сярод двара.

І жарка было ад гэтага вогнішча, і смагла глытала халоднае неба зарава.

Народ гагатаў.

Махмэт бегаў па пакоях. А пакоі гулі, дзьверы ды вокны ашчэрыўшы.

Махмэт шукаў князя, у Махмэта з князём свой інтэрас, але князя Махмэт не знашоў. Як няпрытомны, Махмэт біў люстры й лямпы кручкастаю палкай.

Канец князёвай раскошы.

Весела было народу вольнаму, што гарыць вароньняе гнязло.

Стогадовы палац адкархваў дым і кідаў кархавіньне ў неба.

Дым...

Агонь...

Зарава...

Ізноў дым, ізноў агонь і зарава да ранку.

Махмэт не расквітаўся з князём. Махмэт са злосьці зламіў кручкастую палку. У Махмэта ў грудзёх—дым і агонь.

Раньнем у сялібе князёвай ляжалі груды попелу—шэрага і маўклівага, як асеньні золак.

Разышліся па хатах пахмурыя людзі, пахмурыя, як асеньняе раньне.

Не пасьпелі забыцца на старога князя,—прыехаў князь, малады князь, дамоў.

Але ня было ў князя палацу,—было вугальле ды пустое месца.

Увечары князя злавілі.

— А-а-а, князёк, давай з табой паквітаемся.

І калі-б стары, дужа стары татарын ня спыніў грамаду—капут-бы князьку.

У Махмэта загарэлася вока, Махмэт хацеў сьмерці князю, у яго за бацьку рахункі з ім асобныя, але Махмэту не далі забіць князя.

— Кроў ліць ня трэба,—сказаў пануры дзед Габідулін.

Князя сьцераглі старыя, дужа старыя татары і ўначы завязьлі на худых шаўлюжках на станцыю.

— Едзь, ня месца табе тут, князь.

Князь паехаў.

Ураньні Махмэт сказаў:

— Знойдзем князя,—заб'ём князя.

III.

Бачыць Махмэт, што няма чаго рабіць яму на вёсцы, і зноў у Ніжні—горад на Волзе.

Ляцелі дні куляй.

Было...

Узьняліся войскам на бальшавікоў паны, з усіх канцоў гадзюкамі павыпаўзалі, колам іржавым сьціснулі.

Бальшавікі—улада мужыцкая і рабочая—крыкнулі:

— Э-гэй, хто ня хоча прыгону, ідзі ўладу пролетарскую бараніць!

Папёр мужык, папёр рабочы, прышоў і Махмэт.

Вінтоўку за плечы—і гайда на фронт.

Біўся пад Казаньню, біўся пад Уфой.

Калі Махмэту куля белагвардзейская прабіла руку, пад Уфой тады біліся—папаў у палон.

У тую самую ноч у хаце, засалены дымам і смуродам самагонным афіцэр, брызгаючы брыдкай сьлінай, лаяўся мацерна і дапытваў Махмэта.

Быццам не разумеў слоў афіцэра Махмэт і не адказваў на пытаньні.

Афіцэр зноў задаваў пытаньні, і зноў Махмэт маўчаў.

І зноў пытаньне, і зноў маўчаньне, каменнае маўчаньне.

Людзі з касымі вачмі па загаду афіцэра схапілі Махмэта і пацягнулі ў хлеў.

Там.

Разьдзелі да голага.

Павалілі на дол.

Селі: адзін на ногі, другі на галаву, а двое лазой з калючкамі, соладка, здаволена цмокаючы, білі худы зад і сьпіну татарскую.

Завыў ад болю на дваццатым удары Махмэт.

Касыя людзі захіхікалі, сьпіну і зад абсыпалі сольлю ды зноў білі.

Угрызалася сабакай соль у мяса. Ад болю Махмэт выў.

Касыя людзі хіхікалі і зноў абсыпалі сольлю, і зноў білі.

Ахамянуўся Махмэт, калі сонца пратачвалася скрозь шчыліны хлева.

Нікога ўжо ня было.

Доўга Махмэт ня мог зразумець, у чым справа.

Успомнілася.

На трыццатым удары рашыў,—сьмерць яму. Потым пашоў ён у блакітны стэп з залацістым пяском. Бачыў блакітнае неба і яркае, як агонь, сонца. Зморавы, ён заснуў сярод стэпу, у цяньку пад кустом. Сьніліся дзіўныя сны.

А цяпер...

Ціха ў поўзмроку хлева. Спакойна ў грудзёх, толькі цела ные і просіцца на мяккі ложак.

Паляжаў.

Паглядзеў у шчылінку на неба.

Ад болю гарэла галава, садніла сьпіна і зад. А думкі былі мутныя, як брага.

Успомніўся сабачы рогат касых людзей.

Здрыгануўся.

А потым мутнае нешта паплыло, і Махмэт растаў у муці.

Калі ня было сонца, калі зьбіралася засыпаць зямля, калі пыльнае неба заміргала зоркамі,—уляцеў атрад з гойканьнем і чырвоным сьцягам.

Фуражыр палка, Афонкін, уначы знашоў Махмэта напоўжывога...

За тыдзень, што праляжаў у шпіталі, Махмэт шмат аб чым перадумаў.

Цяпер да таго, што ён знаў пра паноў, прыдалася яшчэ праўда пра лазу.

## IV.

Пад Арлом Дэнікін стаяў, пад Казаньню Калчак, Расію душылі вош і голад.

Узбунтавалася кроў татарская, затуманіўся погляд.

Загаілася рана.

Раніцай доктару:

— Хочам біцца, хочам ратаваць бальшавікоў, хочам ратаваць інтарнасіяналь.

Ня ведаў Махмэт таямніцы мудронага слова.

Хітрае—хітраму й знаць...

Праз тры дні ў палку.

А там.

У першы дзень, як прыехаў Махмэт, выклікалі ў штаб дывізіі ахвотнікаў для справы сакрэтнай.

Першы крыкнуў Махмэт:

— Запышыш нас.

Гужам пацягнуліся дванаццаць чалавек.

У штабе ўзнаў Махмэт, што ў лясох банда зялёных нікае і што гэтай бандай кіруе Бек-Мармачоў, капітан дэнікінскай арміі.

Махмэт глуха падсьвіснуў. Загарэлася вока ў Махмэта. Задрыжэў Махмэт, засіпеў:

— Бек-Мармачоў! Бек-Мармачоў! А! Князь! А-а-а, князь! Знойдзем князя—заб'ём князя.

Махмэт сьціснуў вінтоўку—вострыя кіпці ўпіліся ў далонь. Болю Махмэт ня чуў.

— Знойдзем князя—заб'ём князя.

Стаіць моўчкі Махмэт, толькі бровы то ўніз, то ўгору рухаюцца.

Прымета, што злы.

Начальнік атраду, узводны Сямёнаў, задачу атрымаў.

Падаліся ў дарогу.

Пашоў і Махмэт, сьціснуўшы бровы і сэрца.

Пра заслугі Сямёнава, рабочага сормаўскага заводу, знали ўсе, ня знаў Махмэт.

— Добры таварыш,—гаварыў аб ім Пскоўскай губэрні чырвонаармеец,—у крыўду ня дасьць рэволюцыю. Панаеліся ад яго солі белякі. На Уфу бадай што ня скора забудуцца. Адно слова—свой брат.

Махмэт прыжмурыў вока... Махмэт думаў пра сваё... У Махмэта каменем думка лягла.

— Знойдзем князя—заб'ём князя. Заб'ём усіх князёў.

— З чырвонаармейцамі разам,—гаварыў далей чырвонаармеец,—з беляком б'ецца адважна. Літасьці няма, усім—капут. Ратуе, адным словам, рэволюцыю, а нам іншага й ня трэба.

Махмэт поглядам у мутную далеч.

Махмэт усьміхнуўся.

V.

На раздарожжы, каля пералеску быццам з зямлі вырасьлі казакі.

І на Карасёва, што ў бок адышоўся, на разьведчыка хвацкага наваліліся.

Згледзеў Сямёнаў і, як бач,—да Карасёва.

Бягучы, стрэліў.

Раз...

Два...

Тры...

Дзьве праляцелі, а трэцяя казаку—у вуха.

Пахіснуўся казак і грымнуўся на дол.

Другі—на ўцёкі.

Бяжыць Сямёнаў.

І вось.

Ляцелі людзі, на конях хударлявых, вірам ляцелі на Сямёнава.

У Махмэта baрознамі зморшчыўся лоб, сышліся бровы вачэй касавокіх, злосьць закіпела ў грудзёх.

— Братва, ратуй камандзіра!—крыкнуў ён.

І першы—на казакоў.

Расьсекла вострая шабля плячо Сямёнаву.

Паваліўся.

Моцная правая рука апошнія кулі пускае з нагана.

Сьмерць.

У Махмэта вочы—агонь, у Махмэта радасьць буяніць, Махмэт хоча паквітацца з князём.

Махмэт кінуўся на дапамогу.

Позна...

Раптам...

Як вокам міргнуць—казакі абручом абкружылі Махмэта.

Не ўцякаў Махмэт, знаў—няма ратунку. Застыгнуў на месцы і сьмела наперад глядзіць.

Схапілі татарына казакі п'яныя і—у лес.

У лесе.

Павялі Махмэта па равох, па лагчынах, у гушчар непраходны.

Ідзе Махмэт, а ногі нібы ў багну ўгрузаюць.

Знаў Махмэт—канец яму. Ды цьвёрды быў Махмэт, верыў у справу сваю, а таму сьмерці не баяўся.

Адно мучыла Махмэта:

Не знашоў князя, не забіў князя.

На палянцы, дзе зялёны аксаміт пераліваўся смарагдавым бляскам, Махмэту загадалі спыніцца.

Стаў.

Насустрэчу йшоў малады князь Бек-Мармачоў.

Махмэт—проста на князя.

Князь—проста на Махмэта.

Стрэліся вачмі і замлелі.

Доўга глядзелі адзін на аднаго.

Засіпелі:

— А-а-а, падла!

— А-а-а, князь!

Загарэліся вочы злосьцю спрадвечнай, закалыхалася сэрца, б'е крыніцай кроў бунтарская.

— Знашоў князя! А-а-а, князь!

Бек-Мармачоў допыт:

— За што ваюеш, пролетарская морда?

— Самі знаем—за што.

— А ну, Ахрыменка, спытай,—закрычаў Бек-Мармачоў.

Спытаў Ахрыменка бізуном.

Заскрыгаталі зубы татарскія і скрозь іх:

— За інтарнасіяналь.

Пакаціўся гучнявы сьмех—і раз, і два.

— Дам вось я табе інтарнасіяналь,—ураз з галавы выб'ю заразу. Паноў біць, зямлёй уладаць! Пастой, пакажу я табе!

Засьвішчэў сьмяротную песьню князёўскі бізун і прыстаў шчытна да сьпіны Махмэтавай.

Сыпяць агні вочы Махмэтавы, а рот маўчыць.

— За што ваюеш?

— За інтарнасіяналь!!!

Не пасьпеў яшчэ раз замахнуць бізуном князь,— кошкай упіўся Махмэт у горла і паваліў на зямлю шчуплага Бек-Мармачова.

— Знашоў князя—заб'ём князя!—ляцела з горла Махмэта глухім стогнам.

Дужыя казакі кінуліся на ратунак.

Быццам урос у князёва горла Махмэт... Не адарваць.

Махмэт расквітваецца з князем за кроў, пралітую бацькамі й дзядамі, за зьдзекі адвечныя, за матку й Зулейку.

Сьцёбаюць па сьпіне татарскай бізуны, б'юць боты ў бакі.

Не адарваць.

Бек-Мармачоў захрыпеў.

Тады з серабрыстым вусам вахмістр ірвануў шаблю з нажны, расьсек бляскам паветра і разьбіў галаву Махмэта адным махам.

Пацякла кроў бунтарская лужынкай у канаўку, што вясной нясе воды бурныя ў буяную рэчку, матку-Волгу. А рукі князёвага горла ня выпусьцілі, рукі задушылі князя...

---

# СЯРГЕЙ КАРАГА.

Цёплая летняя ноч павольна апускалася на зямлю і ўсё гусьцей і гусьцей цярушыла над ёю, як-бы прасяючы скрозь танчэйшае сіта малюпасенькія крупінкі мроку. Рэзка вызначаныя абрысы лясоў і ўзгоркаў трацілі сваю форму і зьнікалі ў гэтым мроку. Летняе неба, здавалася, ніжэй зьвесілася над зямлёю і ўзіралася ў яе тысячамі бліскучых вачэй. Але на зямлі ў гэты момант было пуста й ціха,—так ціха, што ад гэтае цішыні патыхала нейкаю жудкасьцю, бо яна, гэтая цішыня, была так нязвычайна, так няпрывычна. І небу, як відаць, не хацелася паверыць, што там, на зямлі, і сапраўды спакойна, бо яно зараз-жа выслала з-за цёмнага краю зямлі яшчэ аднаго дазорцу—крывава-чырвоны, сьцяты баханец-месячык. Чуць падняўшыся над дубоваю кудзеркаю лесу, што стаяла па той бок Псла, крыху павесялеўшы месячык зараз-жа нырнуў у хмарку. Відаць, гэта проста была яго ваяцкая хітрасьць, і гэтую хітрасьць запазычыў ён ад людзей, бо ў гэтым месцы зямлі яны якраз ваявалі. І чуць толькі закрыў ён свой твар у цёмнай хмарцы, як у гэты-ж момант адтуль, з-пад кудзеркі дубовага лесу, гукнула гармата. Глуха здрыганулася цёмнае паветра, і водгульле-гром пакацілася па Пслу, па глыбокіх ярох, як грознае суладзьдзе хору віхроў.

— А, такі адгукнуўся,—ціха прамовіў Сяргей Карага, і яму стала чамусь весялей.

Чаму?

Ён проста не задумаўся над гэтым пытаньнем, але ў яго цяпер было такое пачуваньне, што ён не адзін, што дзесь там таксама ёсьць людзі. Праўда,

тыя людзі—заклятыя ворагі яго. Ён ведае, што там позыцыі карнілаўскіх палкоў, самых заядлых, самых заўзятых і самых моцных з усяе дэнікінскае армады.

З другога-ж боку, гэты самы гук, драпежны й злосны, памагаў яму крыху аглядзецца і больш-менш пэўна вызначыць сваё палажэньне, бо ён заблутаўся ў незнаёмай мясцовасьці, згубіў сувязь з сваёю разьведкаю і колькі гадзін блукаў па гэтых дзікіх ярох, заросшых грушамі-самасейкамі і купчастымі буйнымі кустамі маладога дубняку. Гэта блутаніна была так няпрыемна, а горш усяго гэта глуш, гэтае бязьлюдзьдзе і гэтае чаканьне на кожным кроку небясьпекі. Ён прысеў на родную мяжу пад кустом быльняку. Вакол ляжала маўклівае пустое поле.

Сяргей Карага стаў узірацца ў тое месца, адкуль толькі што грымнула гармата. Сьледам за першым гукам бліснула зарніца.

„Раз, два, тры, чатыры, пяць“... пачаў ён лічыць хвілінкі, каб па іх вызначыць адлегласьць да таго месца, адкуль стралялі гарматы. Як толькі ён налічыў „дваццаць адзін“, пачуўся другі стрэл, больш густы і моцны. „Шэсьць з палавінаю вёрст“,—вылічыў Сяргей Карага і пачаў штось вырахоўваць, як чалавек, добра знаёмы з вайсковаю абстаноўкаю. Вынікам усяго гэтага вырахаваньня было заключэньне, што тут дзесь недалёка павінны быць дэнікінскія дазорцы.

Сяргей Карага ніжэй прынік да зямлі і стаў аглядаць месца. Перш за ўсё, ён зьвярнуў увагу на тое, што ён сядзіць на самым высокім месцы поля і можа, дзякуючы гэтаму, добра адбівацца на сьветлым небе, калі пазіраць на гэты ўзгорак з нізоў. Яшчэ больш пасьвятлеўшы месячык ізноў выплыў з-за хмаркі. Пужліва-варожы мрок крыху растуліўся, парадзеў, і перад Сяргеем Карагаю вызначылася цёмная палоска—шлях яру. У гэты момант вочы яго мімавольна, як-бы самі глянулі ўперад. Па целе маладога разьведчыка прабегла дрыготка: ня больш, як у сту кроках ад яго, як-бы з зямлі вырасьлі тры цені.

„А можа гэта бур‘яны?..“

Карага не дадумаў да канца свае думкі: гэта прадпалажэньне аказалася памылковым у той момант, калі белавата-сіні водблеск месяца сьлізгануў па стальным сьцябле аднаго з гэтых „бур‘янаў“.

Ясна, што гэта дазорцы, і таксама было ясна, што гэта—дазорцы дэнікінскія.

„Замецілі яны мяне, ці не?“

Сьвідравала мозг гэтая страшная думка, і ў той-жа час у галаве яго борзда, борзда складаўся плян дзеяньня. У момант зьмерыў ён вачыма адлегласьць да яру.

„Эх, дапаўзьці-б да кустоў, дабрацца-б да яру“, была цяпер у яго толькі гэта адна думка. Аб тым, што будзе там далей, Карага цяпер ня думаў. Але яр быў шмат далей, чым гэтыя тры фігуры, якія павolі, бяз шуму йшлі якраз на яго.

„Замецілі, замецілі, сволачы!..“

Паварушыцца ў гэту мінуту Карага лічыў сьмяртэльнаю небясьпекаю. Ён прыліп да мяжы, як-бы сама зямля трымала яго сваімі моцнымі рукамі.

Ён рашыў сядзець моўчкі, бо ў яго была ўсё-ж такі надзея, што яны яго ня бачаць.

А калі ўжо прыдзецца так, што дзявацца будзе некуды, тады...

Карага моцна сьціснуў у руках сваю вінтоўку. Цяпер яна адна-аднютка ў цэлым сьвеце, хто можа за яго заступіцца і пастаяць. Аддавацца-ж жывым Карага ня думаў, бо там верная сьмерць і зьверскія кпіны.

І ў яго галаве вынікнуў цэлы клубок уражаньняў гэтага дня: час выхаду на разьведку, школа, дзе застанавіўся штаб іх палка, таварышы і нейкія абрыўкі зьявы нядаўна-мінулага ваяцкага жыцьця,—усё гэта вынікла ў адзін момант, як-бы прад яго вачыма на міг вывесілі нейкі многавобразны, але пераблутаны малюнак. І яшчэ адна зьява, што так глыбока запала ў душу Сяргея і так моцна ўскалыхнула яе,—гэта сьмерць камандзіра іх батарэі. Яна, дапраўды, варта таго, каб яе адзначыць.

Бой, што называецца, кіпеў. Адны рады байцоў скошваліся, іх месца заступалі новыя і новыя радыланцугі.

Дэнікінцы лезьлі назойліва, лезьлі ўпарта, як раненыя драпежныя зьвяры, і нічога не магло іх стрымаць, бо тая позыцыя, якую займалі чырвоныя, была нязвычайна важна. Батарэя, якою камандаваў быўшы афіцэр, штабс-капітан Ваганаў,—чалавек нязвычайнае моцы душы, пустошыла рады насядаўшых дзянікінцаў. Сюды, на гэту батарэю, быў наведзен агонь з трох бранявікоў і палявое батарэі. Але Ваганаў так умеў паставіць свае гарматы і так спрытна мяняў іх месцы, што агонь праціўнікаў не рабіў ніякае шкоды. К рашучаму моманту бою былі расстрэлены ўсе снарады, і гэта батарэя была прымушана змоўкнуць. „Братцы“! сказаў тады Ваганаў салдатам: „цяпер тут няма чаго рабіць. Трэба выратаваць гарматы!“

Але дэнікінцы былі ўжо блізка і некалі было вывозіць гарматы. Перапалоханыя чырвонаармейцы кінуліся наўцекі.

— Прашчайце, таварышы!—гукнуў ім Ваганаў, а сам сеў на гарачае яшчэ цела гарматы. Сеў, вынуў партабак і закурыў. Сядзіць спакойна, аб чымсі думае і пускае тонкія клубочкі сіняватага дыму. Разьяраныя афіцэры-карнілаўцы ўварваліся на батарэю. Бачаць—на гармаце камандзір сядзіць, курыць, кудысь у прасторы глядзіць і іх не прымячае.

— Вы—камандзір батарэі?—Я,—спакойна адказвае той.—Вы прымушаны былі так метка страляць, ці вы гэта рабілі ад чыстага сэрца?—злосьмешна запытаў карнілавец.—Мяне ніхто ня можа прымусіць, калі я гэтага не захачу сам,—чаканячы кожнае слова, прамовіў Ваганаў.

— Ты—комуністы?—ужо груба і злосна прамовіў паручык-карнілавец.

— Я—салдат Чырвонай арміі.

— Чаму-ж не ўцякаў ты, жыдоўскі найміч, разам са сваім збродам?

— Прашу быць вежлівым! Я з вамі на грабяжы не хадзіў, гэта раз! А другое—я хацеў паказаць яшчэ

нястойкім салдатам Чырвонае арміі, як павінен умірацць чэсны салдат.

— Зраднік!..

Паручык-карнілавец выхваціў шаблю й са ўсяго размаху секануў яго па галаве. Падскочылі другія карнілаўцы. Абліты крывёю Ваганаў бяз слова, бяз зыку асунуўся пад калёсы гарматы.

Вось гэты вобраз штабс-капітана Ваганава й яго сьмерць нязвычайна яскрава ўявіліся цяпер перад вачыма Сяргея Карагі і паддалі сілы яго духу.

Ён пачаў разважаць больш спакойна.

Адвёўшы на момант свае вочы ў бок яру, а гэты яр, тым ня меней, усё больш і больш займаў думкі Сяргея Карагі,—ён зноў зірнуў перад сабою... Што за чартоўшчына: перад ім нікагутка ня было.

„Што за праява“, падумаў Сяргей і пачуў, як па яго сьпіне захадзілі мурашкі. „Напэўна замысьлілі штосьць і, відаць, палеглі на зямлю“. Усё цела яго сажмалася; ён пачуў боль з боку лба, як-бы ў гэта месца вось-вось паляціць куля, бо Сяргей чакаў, што ў яго пачнуць страляць. Але момант прашоў і нічога такога ня здарылася.

„Куды-ж яны дзеліся?“ круціў галаву Сяргей, і нейкі невядомы страх агарнуў яго душу. Ён пачуў, што ня можа больш аставацца тут. „Трэба прабірацца к яру“, і яго вочы йзноў пазіралі на яр. Ён ціхенька ссунуўся з мяжы ў разору.

„А слаўная разорка!“ падумаў Сяргей.

Над гэтаю разоркаю якраз выступала досыць высокая мяжа, абросшая травою і, такім чынам, рабіла яго незаметным. І ён папоўз,—папоўз ціха, лоўка, як вуж, як-бы паўзуном ён і на сьвет радзіўся. Крыху замінала вінтоўка, але скора прыстасаваўся паўзьці і з вінтоўкаю. Адпоўзшыся колькі крокаў, ён спыняўся, аглядваўся, прыслухваўся. Палавіну разоры ён ужо прасунуўся. Жаданы яр ужо недалёка. Ён прапоўз яшчэ крокаў сорак. Разора кончылася. Перад ім быў голы ўзгорак, а па гэтым узгорку йшла дарога каля яру. „Вось гэта ўжо горай!“ Ён яшчэ раз азірнуўся й папоўз на дарогу.

— Стой! Хто?—Сяргей так і абамлеў: каля яру, крокаў пяцьдзесят ад яго, хадзіў часавы і аклікаў яго. І не пасьпеў Сяргей зрабіць і аднаго руху, як на яго ззаду навалілася нейчае, як дуб, крэпкае цела, і жалезныя рукі, як абцугі, здушылі яму плечы і рукі.— Хто?—ізноў крыкнуў часавы.—Не страляць, Ягадкін! Бягай сюды!—хрыпла крычаў невядомы і мацней сьціскаў Карагу. Між імі пачалася барацьба. Сяргей таксама быў нязвычайна крэпкі хлопец. У вадзін момант ускінуў ён плячыма і перавярнуўся тварам к свайму сьмяртэльнаму ворагу, стараючыся вызваліць рукі. Ён адпіхаў яго нагамі, гатовы рваць і грызьці свайго ворага.—Не, дудкі, ня выкруцішся, брат!— хрыпеў гэты вораг.

Колькі хвілін, зьвіўшыся ў клубок, качаліся яны па зямлі, але жалезныя рукі, так нагла напаўшага праціўніка, не слабелі і здушвалі ўсё крапчэй.

Падбег часавы, сюды-ж зьбягаліся яшчэ салдаты.—Здаравецкі, сукін сын, як бык! Чуць-чуць нявырваўся,—казаў дэнікінскі старшы унцер-афіцэр, трымаючы Карагу.—Круці і зьвязвай яму рукі!

— Эх, вы, салдаты, салдаты! На ляжачага напалі, гуртом набеглі, ды яшчэ рукі зьвязваеце,—з насьмешкаю прамовіў Сяргей.—Так, брат, будзе спакайней,—адказаў салдат, скручваючы рэменем яму рукі.— Ты надта, брат, спрыцен, ня ў прыклад другім чырвоным. Ці ня будзеш ты часамі комуністы? Давай свае кішэні!—з нядобрым сьмехам казаў унцер-афіцэр.

„Прапала, усё прапала,“ думаў Сяргей Карага. „І так падурному, так неразумна папаўся!“

Сяргей Карага ведаў, як ветла тут сустракаюць комуністых і быў асьцярожным: усё, што магло так ці йначай давесьці, што ён комуністы, ён зьніштожыў яшчэ загадзя.

Яго абшукалі,ператрэсьлі ўсе кішэні вельмі ўважліва, пераглядзелі ўсе паперачкі, якія ў яго знашліся, забралі ўсе грошы, якія, праўда, цаны для іх ня мелі, апрача колькі дзесяткаў рублёў царскіх грошай.

— Адвядзеце яго да комэнданта,—скамандаваў унцер-афіцэр,—і далажэце яму, што гэтага малойчыка трэба добра распытаць.

— Ты, Булякін, будзь старшым. З табою пойдуць Ахрэменка і Пятручок... Марш!

— Ну, марш!—скамандаваў Булякін.

Уперадзе ішоў Ахрэменка, за ім Сяргей Карага, а Булякін з Пятручком ішлі па бакох.

На першых часох, покі не адышліся з вачэй начальства, Булякін пакрыкваў, як начальнік, каб паказаць, што ён і сапраўды службу спаўняе і свае абавязкі выконвае строга. Потым ён прымоўк, і некаторы час усе ішлі моўчкі.

Неба на ўсходзе пачынала сьвятлець.

Павеяла ранішнім халадком. Акропленае расою поле пахла сырасьцю. Пачуліся сям-там галасы раньніх жаўранкаў. Вакол было ціха і лагодна. Дзе-ні-дзе з прадрасьветнага змроку вынікалі вёскі з сваімі ветракамі. Ветракі, як грозныя часавыя-вартаўнікі, узьняўшы свае рукі, стаялі каля гэтых вёсак.

Сяргей Карага, шчыльна сажмаўшы губы і ссунуўшы бровы, думаў свае невясёлыя думкі. Яго душу ахоплівала нейкая злосьць і ненавісьць ад аднае толькі думкі, што яму прыдзецца стаяць перад афіцэрамі, якія будуць яго распытваць, зьбіраць весткі аб тым, дзе іх войска, хто ён сам і г. д.

А даведаюцца, што ён комуністы... тады капут! І яму нязвычайна моцна хацелася жыць, хацелася быць сьведкаю тых вынікаў жыцьця, якія прынясуць з сабою комуністыя, і тых формаў новага будаўніцтва, у якія выльлецца гэтае жыцьцё. Дый само-па-сабе гэтае жыцьцё так цікава. А ён, па-праўдзе сказаць, яшчэ й ня жыў. То бадзяньні па астрогах у царскія часы, то работа ў партыі, то гэтая вайна... Ніколі раней ня думаў ён аб сьмерці, а вось цяпер яна ўспомнілася.

Ён колькі раз скоса аглядаў сваіх канвойнікаў, незаметна паварушваў зьвязанымі рукамі, пробуючы, як моцна яны зьвязаны; і акідаў вачыма гэтыя, такія

мілыя, такія павабныя далі, што больш і больш вырысоўваліся і асьвятляліся ясным усьмехам новага дня...

„Эх, умелымі рукамі зьвязаны яго рукі! І трудна ўцякаць цяпер... Не,. лепш пачакаць, а можа добрае здарэньне падвернецца яму. Ня можа быць, каб ён яшчэ не пажыў на сьвеце“.

Дадаўшы больш вясёлую выразу свайму твару, Сяргей сказаў:—Эх, братцы, курнуць бы, эх, курнуць!

— Да гэта бадай што і не пашкодзіла-б,—прамовіў старшы Булякін.

Перад імі ўперадзе стаяла старая разложыстая вярба. Параўняўшыся з ёю, Булякін весела, жартліва скамандаваў:—Стой! аправіцца, пакурыць!

— О, гэта голас!—прамовіў Пятручок. Канвойнікі і іх пал.ньнік спыніліся пад вярбою, зараз-жа падаставалі кісеты і пачалі вярцець папяросы. Карага сядзеў са зьвязанымі рукамі, чакаючы, што будзе далей. Самаму яму не хацелася прасіць, каб яму разьвязалі рукі.

— А ты чаму ня робіш папяросы?—зьбіваючы на на украінску мову, спытаў яго Ахрэменка,—ня то, каб пасьмяяцца, ня то, каб зьвярнуць агульную ўвагу на зьвязаныя рукі Карагі.

— Дзівак ты,—адказаў яму Пятручок:—ці-ж ты ня бачыш, што ў яго рукі зьвязаны?.. То як-жа ён закурыць?—пытаньнем адказаў Ахрэменка. Ахрэменка й Пятручок зірнулі на Булякіна.

Булякін чуў, што слова цяпер за ім. Яму крыху і падабалася, што ён тут мае найбольшую вагу, але ён таксама не забываў, што ён старшы, якому даручаны злоўлены комуністы.

— А ты ўцякаць ня будзеш?—запытаў Булякін Карагу.

— Куды ён тут ўцячэ?—адказаў за Карагу Ахрэменка:—І дзесяць крокаў не прабяжыць, як я пасаджу яго на мушку. Ня трэба забываць, што я на сто крокаў зьніжу варону, ня то, што чалавека,—на ўсякі выпадак дадаў Ахрэменка.

— Вас тут трое, а я адзін; у вас вінтоўкі, а ў мяне голыя рукі, д..й то цяпер зьвязаныя,—сказаў Карага.

— У іх такія справы вырашаюцца галасамі,— зьвярнуўся Булякін да канвойнікаў:—давайце хіба, і мы пагаласуем. Хто за тое, каб разьвязаць яму рукі?

Ахрэменка й Пятручок разам паднялі высока рукі.

— Большасьцю галасоў пастаноўлена разьвязаць табе рукі.

Не чакаючы прыказу, Пятручок кінуўся разьвязваць Сяргею рукі. Ахрэменка падкінуў яму бліжэй кісет з махоркаю.

— Ты-ж, брат, глядзі ў мяне,—зьвярнуўся да Карагі Булякін,—і не памыкайся ўцякаць. Мы таксама служым і службу сваю знаем, а нашых шампалоў на сваёй сьпіне ты не панясеш!

Скруцілі папяросы. Успыхнула запалка ў руках Пятручка бледна-чырвоным выбухам полымя,—і скора сінія клубочкі махорачнага дыму павольна сталі паднімацца ўгору, пад галіны старой вярбы, і агоньчыкі ад папярос, як зорачкі, паблісквалі то ў таго, то ў другога салдата, як сымболі спакою й згоды.

— Уцячэш,—у нейкім задуменьні, як-бы ў тон сваім уласным думкам пачаў Ахрэменка: — ці мала блутаецца цяпер нашага брата?—Вось і вашы чырвоныя, —іх тут усякі дзень спаткаеш, ідзе бяз усякага табе канвою... Там дрэнна, тут дрэнна. Цьфу!—Ахрэменка вылаяўся моцным салдацкім словам і махнуў рукою.

— Вайна, брат,—уставіў слова Карага.

— Гэта — вайна? — зьняважліва спытаў Пятручок:—каму патрэбна такая вайна? Табе, Булякін, патрэбна яна? Табе, Ахрэменка, ці мне яна патрэбна?.. Да прападзі яна пропадам, халера-б іх паела! Усе яны за народ ідуць: Мікалай, пішучы свае маніфэсты, казаў, што яму вельмі блізка сэрцу дабро народу; Керанскі выступіў за народ, Карнілаў ішоў за народ, Дэнікін ідзе за народ, і Ленін і Троцкі ідуць за народ. Здаецца-б, гэтаму народу і паміраць ня трэба. А гэты народ гноіць сваёю крывёю і касьцямі зямлю, корміць вошы, дохне з голаду, з тыфусу

і сам сябе зьніштажае, і водзім мы самі сябе, як арыштантаў. Сёньня цябе злавілі, вядуць пад штыхамі, заўтра—мяне... Эх, браткі, каб мая Горадзеншчына да была бліжэй! Паляцеў-бы я туды. У лесбы зашыуся, ніякіх чартоў не хацеў-бы знаць, ядры тваю качалку!

— Так, брат, ці ня так?—зьвярнуўся Пятручок да Сяргея Карагі, а потым, як-бы схамянуўшыся, дадаў:

— Ты, можа, з якіх там важных паноў, сам, можа, якое начальства, дык табе магло і не спадабацца штось з таго, што я сказаў. Кажы, брат: я абвяшчаю поўную свабоду слова пад гэтаю вярбою!

Карага слухаў, што гаварыў Пятручок, і хмурыўся. А калі той скончыў сваю прамову, ён значна павесялеў.

— Не, браток, я не з паноў і не з начальства. Я—сын будачніка, і бацька мой—мужык, служыў у сваім часе на жалезнай дарозе, а дзе ён цяпер—ня ведаю; і ты, брат, відаць, ня ведаеш аб сваёй радні. Я вельмі рады, што мы з табою чуць-чуць не землякі, бо бацька мой жыў на пятай будцы ад Пінску, туды, к Брэсту, а сам я быў рабочы ў жалезнадарожных майстэрнях на станцыі Пінск.

— То й я-ж адтуль блізка,—прамовіў Ахрэменка,—я з Валыні!

— Дык вось мы дзе спазналіся: пад гэтай вярбою!—весела прамовіў Карага. Добры настрой яго шмат падняўся, а надзея на палепшаньне яго справы мацней адчулася ў сэрцы.—А можа й старшы, калі не зямляк, то блізкі наш сусед?

— Я—курскі,—адказаў Булякін.

— Ён ні хахол, ні кацап, а проста курскае „каё“,—дапоўніў Ахрэменка.—І чакае, покі дойдзе да Псяльца, а ён тут, ужо ня вельмі і далёка.

— А ад Псяльца ён болей не ваяка,—дадаў Пятручок і засьмяяўся.

— Псялец...—прамовіў Карага. У яго чуць-чуць не сарвалася няўмысьля, што там стаіць штаб іх дывізіі.

Абстаноўка, як відаць, складаецца прыхільна для яго.

Памаўчалі.

Дакурылі папяросы.

Ахрэменка, Пятручок і Карага адразу пачуліся, што ў іх ёсьць нешта такое, што злучала іх і рабіла блізкімі па душы, ня гледзячы на розпасьць іх характараў і на тыя дарогі іх жыцьця, па якіх яны йшлі дагэтуль і якімі хацелі-б пайсьці далей.

Карага сядзеў, апусьціўшы галаву, і штось думаў. А потым ускінуў погляд на сваіх таварышоў-канвойнікаў, правёў рукою па лобе, усё яшчэ разважаючы аб тым, ці варта даваць адказ на прамову Пятручка, дзе так пуката вызначылася неразуменьне і няўменьне разьбірацца ў грамадзянскіх пытаньнях, ці лепей памаўчаць. Але ўсё казала за тое, што выказацца трэба, каб аб ім судзілі болей справядліва і каб не пазіралі на яго, як на нейкае страшыдла з вывескаю „комуністы".

Таксама важна і тое, каб яны на гэту вайну глянулі з другога боку.

— Так, братцы мае,—пачаў Карага нясьмела,— вайна наогул дрэнная рэч, ніхто яе ня хоча, кожны яе праклінае, і тым ня меней мы ваюем. Чаму-ж гэта так вышла? Ваявалі з немцамі, з аўстрыякамі, з туркамі, з баўгарамі, а цяпер вось самі з сабой ваюем. Калі пачыналі першую вайну, то не запыталіся ў мяне з вамі, хочам мы гэту вайну, ці не. Нас проста пагналі, як жывёлу, пад нямецкія і аўстрыяцкія кулі. А хто пагнаў? Нас пагнаў капітал,—наш і чужаземны; нас пагналі буржуі, багатыры, дваране, тыя самыя прадстаўнікі багатых кляс, у чыіх руках была ўлада, тыя самыя драпежнікі, што выцягалі з нас жылы й без вайны. Яны не пагадзіліся між сабою, кінулі свае народы, сялянства і рабочых у гэту крывавую калатушу. Але ня вытрымалі мы. За часы вайны прасьвятлелі нашы вочы, мы зрабілі рэволюцыю, скінулі цара. Зьявіўся Керанскі. Ён ішоў ад імя народу і нібы бараніў яго інтарэсы. Але Керанскі схаўрусаваўся, увашоў у згоду з тымі-ж драпежнікамі, езьдзіў па

фронце, агітуючы войска за вайну, за гэту непатрэбную нам вайну, вайну за інтарэсы буржуяў. Вось тады, таварышы, падала свой голас наша партыя, партыя бальшавікоў. Яна сказала: „Далоў Керанскага! Далоў вайну за інтарэсы купцоў і дваранства!“ Улада перашла ў рукі нашае партыі. Але ці маглі з гэтым пагадзіцца багацеі—царскія генэралы? І вось, апіраючыся на чужаземны капітал, часткаю самых на сябе, часткаю на несьвядомы свой народ, выступілі яны з усіх канцоў проціў бальшавікоў, каб вярнуць сабе ўладу, каб пасадзіць нас ізноў на ланцуг. Але ў шырокіх слаёх народу не знаходзілі яны сабе падтрыманьня. Не павязло Карнілаву, не павязло Калчаку, Юдэнічу. Знашоўся Дэнікін, у чыіх радох і вы, таварышы. Хіба-ж вы сьляпыя, таварышы? Ня бачыце, што нясе Дэнікін народу? У тых мясьцінах, якія захапіў ён, адбудоўваецца стары царскі парадак, прыходзіць старая поліцыя, за ёю цягнецца густы шэраг зямляўласьнікаў. Як галоднае крумкаччо на трупы, зьлятаюцца яны на свае старыя гнёзды, разбураныя рэволюцыяй, і пачынаюць пры шчырай дапамозе поліцыі, зьбіраць свае растрачаныя манаткі, высечаныя ў іх лесе дубкі і розную надобу. Сялян б'юць шампаламі, расстрэльваюць, а пра комуністых і гаварыць ня прыходзіцца. Хіба-ж, таварышы, люба вам гэта ўлада, гэты парадак? Я—комуністы, я ня буду таіцца ад вас! Калі-ж вы знаходзіце, што я ваш вораг, то скажэце пра гэта таму, да каго вы мяне вядзіцё, і мяне застрэліць бяз суду першы ваш афіцэр, як толькі ўбачыць перад сабою чалавека з гэтым ненавісным яму імем.

Апошнія словы Сяргея Карагі зрабілі моцнае ўражаньне на канвойнікаў.

Булякін пачухаў патыліцу, хацеў штось прамовіць, але, зірнуўшы назад, ён увесь здрыгануўся: ззаду па тэй-жа дарозе ехаў верхавы.

— Афіцэр! Ну! Хлопцы, жыва на ногі!—сказаў Булякін і падняўся. За ім моўчкі падняліся ўсе, пастроіліся і пашлі далей. Хвілін праз колькі іх дагнаў коньнік.

— Каго вядзіцё?—спытаў афіцэр, параўняўшыся з імі. Сэрца ў Караґі апала. Не чакаючы адказу Булякіна, ён сам прамовіў:

— Перабежчык!

— Ну, валяй!—скамандаваў афіцэр і паімчаўся далей.

— Маладзец ты, брат, знашоўся, што сказаць,— пахваліў Карагу Булякін.

— Так мы й будзем цябе тут называць,—дадаў Пятручок.

— Ты, брат, ня бойся, скажам: перабежчыка прывялі,—аклікнуўся Ахрэменка.

Сяргей Карага пачуў, што яго канвойнікі будуць трымаць яго руку і што яны, ва ўсякім разе, ня ворагі яго.

А на гэтай вайне перабежчыкі як з аднаго, так і з другога боку—звычайная зьява, і імі з начальства мала хто цікавіўся.

— Толькі вось што, братцы,—сказаў Пятручок:— ці не пакажацца гэта падазрэнным, што перабежчыка тры салдаты вядуць?

Сяргею і самому здавалася ня зусім добрым, што яго вядуць пад такім канвоем. Казаць-жа аб гэтым раней ён не адважыўся, ня ведаючы, што за людзі гэтыя хлопцы.

Цяпер гэтае пытаньне было разгледжана агульна, і пастаноўлена было так: Булякін павядзе да комэнданта адзін, а Ахрэменка і Пятручок проста куды-небудзь схаваюцца.

Ужо пачынала ўсходзіць сонца, калі яны падыходзілі да станцыі жалезнае дарогі, дзе і быў комэндант, да якога вялі Карагу.

Уся станцыя была забіта вагонамі і цягнікамі. Зірнуўшы на гэту станцыю, Карага адразу пачуў, што тут зусім другая абстаноўка. То з таго, то з другога вагона выходзілі ў наплечніках афіцэры, і ўсё напамінала так ясна, так яскрава абстаноўку царскіх часоў, ад якіх Карага даўно ўжо адвык, і нейкая варожасьць ахапіла яго душу, і ён пачуў тут страшэннае адзіноцтва.

„Толькі-б адбыць гэты налог, скарэй-бы разьвязацца“, думаў Карага, а ў галаве яго складаўся плян пабегу адгэтуль у сваю сям‘ю, к сваім таварышам.

Ён нават пацяшаў сябе думкаю, што можа не адзін ён вернецца ў свой полк, а з таварышамі, якіх ён ужо знашоў тут.

Эх, і будзе-ж аб чым пагаварыць!

Ахрэменка з Пятручком адсталі, а ён з Булякіным ішоў яшчэ некаторы час па станцыі. Гэта хада паказалася яму нязвычайна доўгаю. Часамі сустракаліся афіцэры, і некаторыя з іх, кінуўшы кароткі погляд на Карагу, казалі:

— Іш ты, зашчытнік Троцкага!

Прашлі міма бранявіка. На бранявіку красаваўся надпіс „Слава афіцэру“.

Успомнілася, што гэты бранявік меў частыя стычкі з іх бранявіком „Чорнаморац“. Аб гэтых стычках многа было гутарак у іх палку.

Станцыя канчалася. На запаснай пуціне, ужо недалёка ад сэмафору, стаяў вагон з надпісам „Комэндант“.

Тут Булякін здаў свайго палоньніка дзяжурнаму салдату.

— Перабежчык! Прыказана адвясьці да комэнданта.

Салдат прыняў Карагу, а Булякін вярнуўся назад.

Комэндант, малады падпаручык, сядзеў за сталом і, ссунуўшы бровы, зірнуў на Карагу. Тут-жа, у вагоне, у кутку каля вакна стаяў яшчэ салдат, як відаць, веставы.

Карага не зьвярнуў на яго ўвагі. Затое-ж гэты салдат паглядзеў на Карагу вельмі ўважліва.

— Адкуль прыбыў?

— З трыццаць чацьвертага палка.

— Ня ўмееш адказваць афіцэру!—напусьціўся на яго комэндант.

— Таварыш комэндант, адказваю, як умею.

— Што? Таварыш! Які я табе таварыш?—гнеўна бліснуў вачыма комэндант і аж падскочыў.

Карага стаяў, як ашпараны кіпенем.

— Шампалоў захацеў? Прывыклі там „тавар іс-
каць“, сукіныя сыны! Ты комуністы? Што-та тваё рыла нячыстым здаецца мне!

Карага стаяў, а там, у сярэдзіне, усё траслося ў ім, бурліла.

Ды тут здарылася нешта такое, чаго ніяк не чакаў Карага.

З кутка вагона салдацкім крокам выступіў салдат. Гэта быў праўдзівы перабежчык з трыццаць чацьвертага палка і з тае самае роты, у якой быў і Карага.

Узяўшы пад казырок, ён прамовіў:

— Гаспадзін комэндант, дазвольце сказаць: ён комуністы і ёсьць!

І пацямнела ў ваччу Сяргея. Увесь белы сьвет з яго малюнкамі, зямля, неба, лес і яры, якія ён яшчэ нядаўна бачыў, завярцеліся, крутнуліся ў яго вачох. Ня помнячы нічога, не даючы сабе яснага адказу і, паддаючыся аднаму ахапіўшаму яго пачуцьцю, моцнаму, стыхійнаму, ён у момант згарнуў кулакі і рынуўся на комэнданта. Салдат штаўхануў яго ў бок, і толькі па версе галавы комэнданта сьлізгануў кулак Сяргея Карагі і зьбіў яму шапку.

Разьюшаны комэндант выхапіў рэвольвэр, выстраліў два разы. Убег дзяжурны салдат.

Сяргей Карага бледны, з памутнелымі вачамі, стаяў прыпёршыся да сьцяны і праваю рукою трымаўся за левы бок, адкуль біла кроў.

— Дастрэльвай-жа, памешчыцкі прахвост, бо скора ў цябе і гэтага ня будзе здаваленьня,—усьпеў прамовіць Сяргей Карага і асунуўся на падлогу.

Назаўтра досьвіткам Пятручок і Ахрэменка прынесьлі з сабою ў стан чырвоных вестку аб тым, што сталася з Сяргеем Карагаю.

---

## ДАЧАКАЎСЯ.

Раман Шулдзяк толькі што адпрог з плуга каня і пусьціў яго папасьвіцца ў маладым дубняку над ярам, а сам разьлёгся пад ценем разьвіслага дуба.

Эх, люба ты, часіна супачынку, пасьля працы! А Раман такі папрацаваў: ужо па полі ходзячы за плугам, спаткаў ён усход сонца. Спачатку работа ня ладзілася—проста ня было ахвоты працаваць, бо яго надзел быў самы горшы. Але як гэты надзел дастаўся яму па жэраб'і, то й ня было на каго наракаць. Ды ўсё-ж такі трэба было спагнаць сваю злосьць хоць на чым ці на кім-небудзь. І праўда, Раман, праводзячы першыя барозны, кіпеў злосьцю на новыя парадкі, а больш за ўсё на гэту „камунію", бо вельмі-ж было крыўдна, што яна лічыла яго кулаком; асабліва гэты басяк, Кандратаў Хведзька, дапякаў яму. Ну, хоць-бы чалавек, а то проста лодыр, прагуляў сваю зямлю яшчэ да вайны, а потым пашоў бадзяцца па капальнях, нідзе не затрымаўся, у Сібір пераехаў і там не асеўся, а цяпер, вось, вярнуўся, засеў у панскім доме і крычыць: „Я—пролетары, а вы—кулакі, забралі ўсё і смокчаце маю кроў!" Падабраў сабе хаўрусьнікаў, зрабіўся прадсядацелем „камітэту беднаты"; сам нічога ня робіць, толькі ходзіць са сваёй кампаніяй па заможных гаспадарох, каб дзе што ўзяць і заткнуць сваё паганае горла. Нябось, ваяваць за камунію ня хоча йсьці. „Мы, кажа, больш патрэбны тут, у тылу, чым на фронце".

Дадумаўшы свае думкі аб Кандратавым Хведзьку да таго моманту яго жыцьця, калі гэты самы Хведзька папаўся на хабарох і з гэтае самае прычыны быў

скінут з пасады „прадсядацеля“ і адданы пад суд, Раман крыху заспакоіўся. Работа памалу ўцягнула яго ў сваю абладу. Ён шпарка хадзіў за плугам і толькі на заваротах выціраў свой мокры лоб, адсоўваючы на патыліцу шапку. І толькі тады, калі сонца ўгрэла, як мае быць, а конь і сам ён парадкам натаміліся, ён выпраг каня, каб пахадзіў па траве, і сам прылёг пад гэтым дубам.

Дзень быў ясны, цёплы.

На полі зачыналі ўжо зацьвітаць грэчкі.

Колькі моманту Раман ляжаў нярухліва, адчуваючы прыемнасьць і асалоду сапачынку, ляжаў, заплюшчыўшы вочы. Проста не хацелася нават і паварушыцца. Але нярухомасьць цела прышлося ўсё-ж такі парушыць: чуваць было, як ціснулі аборы, уядаючыся ў яго стомленыя, ацёкшыя ад хады ногі. Раман прысеў, каб разуцца.

Павольна, не сьпяшаючыся, разьвязаў ён аборкі, зьняў з ног цяжкія вяровачныя лапці, якія чамусь называліся „керанскімі“, вытрас з іх чорныя грудкі зямлі і шпурнуў на сонца прасушыцца. Цяпер было зусім добра, вольна.

Рамана марыў сон. Ён глянуў на каня санлівымі вачамі, як-бы штось разважаючы. Конік весела згрызаў маладую пахучую траўку і громка пырхаў.

— Здароў, малы,—адказаў Раман на гэтае пырханьне і лёг сьпіною на зялёны дзірван, выцягнуўшыся ва ўсю даўжыню свайго здаравецкага цела.

Ён заплюшчыў вочы і ўжо пачынаў драмаць. Як нейкія цені, у галаве яго прасунуліся ўспаміны, вобразы даўно перабытых часоў. Прасунуліся і зьніклі.

— Гу-у-ур-р!

Дзесь далёка, як-бы з-за зямлі, да вушэй Рамана данёсься нейкі глухі гром.

— Няўжо ўстае хмара і зьбіраецца дождж?—падумалася Раману.

Паварушыцца і паглядзець на неба яму не хацелася, бо так добра было ляжаць. Ён зноў сьцішыўся, гатовы заснуць.

Ґром пракаціўся яшчэ раз і ціха скалыхнуў паветра. Цяпер гэты гук быў многа выразьнейшы. Раман пачуў, што яго нешта як-бы штурханула з сярэдзіны, бо ў голасе гэтага грому пачулася штось новае і страшнае.

Ён прысеў і прыслухаўся. Неба было яснае, спакойнае. Там-сям на небе стаялі камячкі белаватых хмурынак, як адзнакі добрае пагоды. Зрэдка павяваў невялічкі паўднёвы ветрык, ціха калышучы лісьцё дуба. Раман прыслухоўваўся нядоўга: таемны гук грымнуў і ў трэці і ў чацьверты раз.

Ну, цяпер ясна: гэта грымелі гарматы, і гук іх данасіўся якраз з поўдня.

Сон разьбіўся. Раман сядзеў і слухаў, як грымелі далёкія стрэлы гармат, і ў яго душы падымаліся нейкія хвалі многалучнага пачуцьця і нейкага нявыразнага настрою. Перш за ўсё, адчуваўся страх, але разам з тым было і штось прыгожа-павабнае ў гэтым далёкім грукатаньні, і нейкая няясная надзея калыхала сэрца Рамана. Якая гэта была надзея, на што накіроўвалася яна, якая яе была істота—Раман ня мог разабрацца. У яго выабражэньні пачалі выяўляцца малюнкі вайны, ён стараўся вызначыць тое месца, дзе грымелі гарматы, і ўжо пачаў вылічаць, калі да іх ціхага сяла дакоціцца хваля вайны.

А страшныя гукі, так моцна калышучы душу, усё грымелі і грымелі, то кароткія, то працяжныя. Яны парушалі звычайную плынь жыцьця Рамана, яны прыносілі новыя пачуцьці і выклікалі цэлы шэраг новых пытаньняў.

Раману хацелася падзяліцца з кім-небудзь сваімі ўражаньнямі, сваімі думкамі.

Ён абвёў вачамі поле. На полі было ціха і пуста, ні душы. Яму здавалася, што поле і гэтыя яры з іх хмызьнякамі і дзікімі грушамі, і гэтыя невялічкія ляскі, раскіданыя сям-там цёмна-сінімі кудзеркамі, таксама мелі цяпер нейкую нязвычайную выразу, як-бы іх засмуціла зусім новае і неспадзяванае пытаньне. Вярсты дзьве, па той бок яру, стаяла іх сяло, а з аднаго і з другога боку—цэлы рад ветракоў з занямелымі крыль-

лямі. Вецер заспакоіўся, і некаму было вярцець іх крыльлі, хоць у вапошнія часы і пры добрым ветры стаялі яны нярухома, бо ня было чаго малоць.

Раману было маркотна. Ён падняўся, падышоў да коніка. Конь старанна згрызаў сакаўную траву, аганяючы хвастом надаедную заедзь. Убачыўшы каля сябе гаспадара, ён прыветна падняў галаву, хрумстаючы траву. Раман зьлёгка, з любасьцю патрапаў па шыі коніка і прамовіў:

— Эх, ты, конік, мой конік! Дурны ты, брат! Там гарматы гудуць, а ты нічога не разумееш і вухам не вядзеш. Скаціна ты, скажу табе, неразумная!

Конік шаргануў разоў два галавою аб руку гаспадара ды зноў пачаў скубсьці траву. Раман яшчэ пастаяў трохі каля свайго коніка, пазіраючы на яго, і чагось уздыхнуў, а потым запыніўся за разложыстым арэхавым кустом, дзе гук гарматных стрэлаў адбіваўся яшчэ выразьней.

— І здарава-ж бухаюць,—ціха прамовіў Раман і сам сабе паківаў галавою.

Па сьцежачцы, што вілася напрасткі ад лесу і бегла праз гэтае поле, павольна пасоўваліся якраз сюды дзьве чалавечыя фігуры. Сьцежачка злучала сяло Ліпавец з воласьцю. Да воласьці адгэтуль было ня больш, як чатыры вярсты і, заўважыўшы людзей, Раман ажывіўся і значна павесялеў. Там, у воласьці, напэўна дачуліся яны якіх-небудзь навін. Цікава будзе пагаманіць з людзьмі і абсудзіць гэтае новае палажэньне рэчаў, аб якім так грозна загаварылі гарматы, бо толькі такім чынам, шляхам агульна-грамадзкага высьвятленьня пытаньня, складаецца сталая грамадзянская думка. Раман прызіраўся, стараючыся згадаць, хто гэтыя людзі. Аднаго ён ужо пазнаў: то быў недалёкі сусед, сталяр Пятро Мазалеўскі. Праўда, і пазнаць яго было ня трудна, бо ня было другога такога чалавека ва ўсім Ліпаўцы так бедна адзетага і наогул такога горкага бедака, як гэты сталяр Пятро. Яго аблезлая, круглая шапка даўно ўжо страціла ня толькі свой былы надворны выгляд, але згубіла і самую гісторыю свайго пахаджэньня. Яна нязьменна сядзела на

ґалаве свайго ўладцы, зрабіўшыся як-бы часткаю гэтае галавы. Кароткі кажушок, калісь меўшы белы колер, цяпер быў зямліста-шэры, аблеплены латкамі рознае велічыні, гатунку і формы. Тут былі латкі палатняныя, кажурынкавыя, суконныя, раменныя. Полы кажушка сканчваліся пашматованымі, абтрэпанымі лахманамі, якія пры хадзе і пры ветры рабілі вельмі сьмешныя і замыславатыя рухі. І трэба зазначыць, што ва ўсім сяле ня было другога чалавека, такога прыхільніка да новае ўлады, як Пятро. Ня гледзячы на тое, што рэволюцыя падсекла яму крыльлі, зьнішчыўшы яго грошы, якія зарабіў ён сваёю сталяркаю, жывучы дзесь у Кацярынаславе, і палажыў іх на кніжку, Пятро зусім не наракаў за гэта на рэволюцыю. Гэта прыхільнасьць да новае ўлады выплывала ў яго ад бескарыснага сэрца, яна паланіла, захапляла яго велічнам і хараством ідэі, калі людзі будуць мець роўнае права на карыстаньне дабрабытам, калі ня будзе гэтага абіраньня чалавекам чалавека і зьнікне гэта векавечнае прыгнячэньне багатым беднага.

Дык што значаць яго прапаўшыя грошы ў параўнаньні з тым новым ладам жыцьця, які зараджаўся на яго ачох і якому пагражалі тысячы ворагаў з усіх бакоў і пад рознымі лёзунгамі.

Хіба ў такія моманты можна думаць аб гэтых грошах? Да будзь яны тры разы пракляты!

У хаце Пятра была страшэнная беднасьць. Дзеці сядзелі на печы голыя, босыя. Аб хлебе і гаварыць ня прыходзілася. Хлеб замяняўся бульбаю, просам. Ня было нават дроў, і ў той час, калі сяляне, меўшыя коні, вазілі і завальвалі дубамі свае двары, Пятро мусіў на ўласных плечах насіць дровы. Але з лесу іх многа не наносіш, бо лес быў далёка. Прыходзілася проста адкопваць з-пад сьнегу пні, каб нашчапаць сабе дроў.

Прабаваў зьвярнуцца за дапамогаю да Хведзькі Кандратава, каб паджыцца хлебам. Але хіба то быў чалавек? Хіба меў ён спагаду, сумленнасьць? Сам то ён еў хлеб, сеяны на самае тонкае сіта, а для Пятра не знаходзілася ні аднаго пудзіка.

З гэтым Пятро яшчэ пагадзіўся-б, бо што рабіць, калі хлеба няма, калі сама Масква, дзе жыве душа і мозг рэволюцыі,—галадуе. Туды трэба даваць хлеб, трэба падтрымаць тых, у чыіх руках знаходзіліся лёсы рэволюцыі. Але куды-ж ішоў хлеб, рэквізаваны ў багатых гаспадароў? Ён расходзіўся па руках спэкулянтаў, яго адвозілі ў Рыбінскія Буды і выменьвалі на самагон. І ўсё гэта рабілася з ведама Хведзькі Кандратава. І гэта называецца камітэт беднаты!

— Вось хто капае магілу Савецкай уладзе,—у вабурэньні душы казаў Пятро:—такіх сволачай трэба гнаць, расстрэльваць такіх гадаў!

Спадарожны Пятра быў Захар Палянскі, мужык сярэдніх гадоў, досыць заможны гаспадар.

Раман сядзеў пад дубам, то прыслухоўваючыся да грому гармат, то паглядаючы на падарожных. І цікава: у тыя моманты, калі заціхалі гарматы і доўга ня чуваць было іх грому, Раман чагось маркоціўся, як-бы для яго нешта трацілася; калі-ж іх грукат зноў дрыгацеў у паветры, калышучы і поўнячы яго грознаю музыкаю зьнішчэньня, Раману зноў рабілася страшна і разам з тым і прыемна, бо ў гэтым грукаце чуецца нейкая моц, ёсьць бура жыцьця, а кожная бура і палохае і захапляе.

## II.

Пятро і Захар ужо былі недалёка. Раман разьвязаў кісет у той надзеі, што ўжо адзін выгляд гасьцінна разьвязанага кісета зьверне на сябе ўвагу падарожных і паслужыць яшчэ аднэю зачэпкаю для таго, каб Захар з Пятром прыселі тут, тым болей, што тутун меўся ня ў кожнага, бо трудна было даставаць яго.

І ён не памыліўся. Пятро і Захар падыходзілі сюды, сур'ёзныя і задумлёныя.

— Чуеце, як грукоча?—такім запытаньнем спаткаў Раман падарожных.

— Здорава жараць,—адказаў Захар, здароўкаючыся з Раманам.

Пятро, пануры, заклапочаны, моўчкі апусьціўся на дол.

— І дзе-б гэта магло быць?—запытаў Раман.

— А ўжо на гэты бок Белграду,—прамовіў Захар.

— Белград ужо забралі?!—у нязвычайным зьдзіўленьні аж крыкнуў Раман.

— Гэ, Белград! Ужо вёрст на пятнаццаць сюды за Белград прасунуліся.

— А-а-а!—зьдзіўляўся Раман:—Мусіць-жа вялікая, брат, яго сіла—столькі гарадоў забраў!

— Афіцар‘ё азьвярэлае прэцца,—глуха прамовіў Пятро:—Ня могуць яны пагадзіцца з новым парадкам; ім патрэбен цар, ім хочацца зноў пасадзіць сваё дваранства на нашу шыю.

— А ці ня ўсё табе роўна, хто будзе на табе езьдзіць?—адказаў Раман.—Наўперад езьдзіў пан, а цяпер езьдзяць Хведзькі Кандратавы. У мяне, к прыкладу, забралі дваццаць пяць пудоў; многа табе з іх далі? Як сядзеў, дык і сядзіш бяз хлеба. Даўней хоць мог зарабіць і жыць, як чалавек. А цяпер што? Заработкаў няма, народ зноў пазьбіваўся па вёсках. Забаранілі гандаль, няможна двух пудоў хлеба прывезьці з Украіны. А ў яго, кажуць, вольная таргоўля.

— Там, брат, таргуюць. Хлеба белага, хоць заваліся. Былі там. Вось нядаўна вярнуўся з Украіны Родзечка з Гахава, каваля нашага сват. Запынілі яго дэнікінцы ў адным месцы. Распыталі, адкуль і пусьцілі. Толькі кажуць: „Глядзі, каб свае не абабралі. Мы, кажа, праз месяц усю вашу Куршчыну ачысьцім ад вашых камітэтаў“.

— Дык яны, значыцца, народу ня крыўдзяць?—запытаўся Раман.

— Не, не чапаюць. З комуністымі і камітэтамі, праўда, распраўляюцца. Зловяць, дык ужо і ведай порцыю: адлічаць табе дваццаць пяць шомпалаў ды ідзі. А хто паважней—расстрэл!

— Знашоў дурань чарапок і сьмяецца,—з горкаю ўсьмешкаю азваўся Пятро:—Слухаю вас, хлопцы,

і дзіўлюся: чаму вы радуецеся?!—раптам мяняючы тон, накінуўся Пятро:—Таму, што будуць вас біць шомпаламі? Галовы-ж вы капусьцяныя: як гэта вы ня можаце зразумець, што Дэнікін, царскі генэрал, нясе вам ланцуг, нагайкі, паліцыю і крывавую расправу.

— А за што ён будзе са мною распраўляцца?—запытаў сярдзіта Раман.—Разумеецца, тым не паздаровіцца, хто нарэзаў сабе пасаду ў садох Харланавых, Мархаўцоў і іншых.

Пятро зразумеў, на што ківаў Раман: і яму, Пятру, адвялі кусок саду Харланава для будаваньня.

— А ты-ж сам сьвяты?—пытаньнем адказаў Пятро:—А дубы, якімі пазавальвалі вы свае двары і выганы, адкуль вы бралі? А хто паразвалакаў маёнткі, павыдзіраў апошнія юшкі ў печах? Што-ж ты думаеш: той пан, які прыдзе з Дэнікіным, падаруе вам гэта? Сам прынясеш яму апошні гвозд, што выдралі са сьцяны панскага дому, ды ў ногі будзеш яму кланяцца. Але справа ня ў гэтым. Ты кажаш: „Наўперад езьдзіў на нас пан, а цяпер езьдзяць Хведзькі“. Што пан езьдзіў, будзе езьдзіць, калі прыдзе Дэнікін,—гэта шчырая праўда. А Хведзька многа наезьдзіў? Хто стаўляе пана і хто ставіў Хведзьку? Як-жа ты гэтага ня можаш зразумець? Хведзька аказаўся—дрэнь, яго выкінулі, як гнілую падэшву, гадзіны лішняе не аставаўся, пад суд аддалі. А пана ты зьменіш? Ды што гаварыць! Адна справа, калі над табою гаспадараць, а другая, калі ты сам гаспадарыш. Вы пачулі пра шомпалы і ўзрадаваліся, даведаліся аб белым хлебе і ўсьцешыліся! Шомпалаў то яны вам дадуць, а вось белым хлебам не пакормяць і гаспадарыць самі і біць будуць вас па мардасах, бо вас можна купіць за белую булку, бо вы няздольны быць гаспадарамі свайго жыцьця... Народ, народ!

Пятро яшчэ штось хацеў сказаць, але яму было так горка і крыўдна, а яго слухачы так далёка былі ад таго, што ён ім казаў, што Пятро ня мог далей гаварыць, падняўся, уздыхнуў і пашоў па сьцежачцы. Праз колькі крокаў сьцежачка зьбягала ў яр, густа заросшы кустамі і травою, а ў гэтых кустох разам

са сьцежачкаю схавалася і акрытая лахманамі фігура Пятра.

Захар нейкі час яшчэ сядзеў і гутарыў з Раманам. Яны ўжо не зварачалі ўвагі на тое, што гарматы грымелі і рабілі там нейкую справу. Цяпер Захар казаў аб навінах, якія чуў ён у воласьці. Першая і самая грунтоўная навіна—у іх воласьць гэтымі днямі прыдзе дывізія войска, якое, разумеецца, будзе стаяць па вёсках. У іх-жа Ліпавец прыгоняць цэлых два палкі. Дачуўшыся аб гэтым, Раман моцна задумаўся і яшчэ мацней пачухаў патыліцу. Лёгка сказаць—два палкі! Гэта значыцца, паставяць у двор па 10—15 чалавек і трэба іх карміць. Ну, але раз трэба, то трэба—нідзе ты ня дзенешся. Дрэнна толькі тое, што салдат любіць часамі і ў пограб зазірнуць, і ў кубелец з салам залезьці. Таксама не адкіне ён і мёду, а ў Рамана быў добры пчольнік, вульлёў на сорак. Усё гэта моцна засмучала Рамана. Апрача таго, па вёсках пачалі зьяўляцца вайсковыя атрады і вясьці строгую расправу з дэзэртырамі. Забіралі каровы, коні з тых двароў, дзе былі гэтыя дэзэртыры, бо становішча для рэспублікі стваралася небясьпечнае, прыходзілася прымаць надзвычайна строгія меры.

І тут трэба было Раману паламаць галаву: яго Іванька таксама дэзэртыр.

— Эх, галоўка ты мая!—уздыхаў Раман.—Калі-ж гэта людзі прыдуць да чаго-небудзь аднаго? Калі скончыцца ўся гэта суматоха?

— Як-небудзь, брат, будзем жыць,—разважаў Захар,—а там відаць будзе. Ня можа-ж быць: будзе які-небудзь парадак, а там і вайна гэтая скончыцца, хто-небудзь, а возьме верх. А наша, брат, дзела што? Мікалай быў—мы зямлюаралі; зьявіўся Керанскі—аралі, пры бальшавікох—таксама аром; Дэнікін прыдзе, чорт, д'ябал,—мы ўсё будзем у зямлі капацца.

Захар падняўся і пашоў да сяла, а Раман яшчэ крыху пасядзеў пад дубам, а потым пашоў да сваіх калесень, зьбіраючыся ехаць дадому.

Новы клопат, новыя думкі агарнулі Рамана.

А гарматы, прыціхшы на нейкі час, зноў грымелі грозна і страшна. Цяпер іх размова для Рамана мела больш вызначаны сэнс. На душы было неспакойна, трывожна. Прынесеныя Захарам навіны моцна засмучалі Рамана. А горш за ўсё, гэтыя атрады. Ужо даўно цягнецца гэта гісторыя з дэзэртырамі. Многа разоў прысылаліся грозныя прыказы з ваенных камісарыятаў аб дэзэртырах. Многа раз хадзілі ваякі ў павет і зноў варочаліся дадому праз месяц ці колькі нядзель. Цяпер-жа, відаць, цьвёрда паложана зрабіць канец дэзэртырству.

„Наскочыць атрад, захопіць Івана, тады прахам пойдзе твая гаспадарка“, думаў Раман: „трэба штонебудзь думаць, бо йначай—бяда“.

Раман запрог каня, палажыў на драбінкі плуг і мернаю ступою паехаў паўскрай яру.

Дарога, агібаючы яр, забірала ў поле, потым зноў павярнула канец свае дугі ўбок сяла. Перад самым сялом цягнуўся роўны, прасторны выган. Каля платоў па выгане віднеліся высокія круглыя кучы наваленага гною. У вапошнія годы гаспадары перасталі вазіць яго на поле. „Што вазіць яго“, разважалі яны: „я ўгнаю поле, а на другі год ім будзе карыстацца другі“.

Так і валяўся гной па выгане бяз усякае карысьці. На гэтым-жа выгане стаялі ветракі, спыніўшы свае крыльлі. Раман таксама меў вятрак. Раманаў вятрак стаяў зусім блізка ад дарогі і меў вельмі прыгожы выгляд. Асабліва многа хараства прыдаваў яму самы верх, накрыты чырвоным жалезам. Але ў гэту мінуту ён ня цешыў Рамана і меў таксама смутную выразу свайго аблічча, як-бы ён спагадаў свайму гаспадару.

Праехаўшы крыху выганам, Раман зьвярнуў да свае клуні. Каля клуні быў Іван. Іван моўчкі стаў выпрагаць каня. Колькі мінут бацька і сын маўчалі.

Раман скоса, украдкам паглядаў на сына. Яму хацелася пагаварыць з ім, аб тым, што ён дэзэртыр і якія вынікі можа мець гэта дэзэртырства для іх гаспадаркі. Выпраглі каня. Прывязалі каля „кармушкі“. Іван вынес з клуні ў кашалі сечкі.

— Чуў?—зьвярнуўся Раман да сына:—дэнікінцы ўжо Белград забралі.

— Па гарматах чуваць, што па гэты бок Белграду бой ідзе,—адказаў Іван, высокі шырокаплечы дзяцюк, адзеты напалавіну ў казённае.

Раман пачухаў патыліцу.

— Але вось што, Іванькя,—вымаўляючы слова „Іванька“ на курскі лад, сказаў Раман:—па вёсках, кажуць, зьяўляюцца вайсковыя атрады, ловяць дэзэртыраў, а гаспадарку іх нішчаць, не захапілі-б і цябе.

— Такія выпадкі ўжо былі,—панура адказаў Іван:—на Данскім хутары з трох двароў пабралі каровы і коні; дзядзя Кандрат сказываў.

— Пабралі?—апаўшым голасам спытаў Раман:—бач ты, якія дзяла.

Памаўчалі.

— Нічога, баця, не паробіш, а йсьці-та трэба.

Раман уздыхнуў.

— Ах, ты грэх які! э-хэ-хэ!—цмакаў Раман і чухаў патыліцу.

— А ты, Іванькя, глядзі, з розумам рабі: убачыш, што дзела ня выходзіць, дык ты... таго.

— Ведаю, баця, вайсковую службу,—усьміхаючыся, адказаў Іван:—варон страляць ня буду, а „прымяніцца да меснасьці“, як вучыць салдацкая мудрасьць, здарэньня не прапушчу.

Так разважаючы, бацька і сын чулі нейкую фальш і стараліся не глядзець адзін другому ў вочы.

— Якая гэта вайна,—стараўся Раман знайсьці якое-небудзь апраўданьне:—хіба гэта вайна?

У хаце за сталом яшчэ пагутарылі аб тым, што Івану трэба йсьці на службу. Бабка Параска, жонка Рамана, трохі плакала па Іване, але ня моцна, бо ўжо прывыкла да яго частых мобілізацый. „Маладайка“ Матрона, Іванава жонка, была маўклівая. Іван толькі зімою пажаніўся з ёю, і жылі яны надта згодна. Матрона была высокая, стройная, прыгожая жанчына. Відаць, яна вельмі маркоцілася, што Іван заўтра пойдзе. Яны часта заставаліся ўдваіх і ціханька перакідваліся словамі. Меншыя браты й сёстры Івана, папа-

луднаваўшы, пашлі на вуліцу. А на вуліцы было так цікава. Сталыя мужчыны зьбіраліся ў гурткі і разважалі аб вайне, якая насоўвалася на іх. Тут-жа расказваліся вельмі цікавыя навіны, падымаліся гарачыя спрэчкі, наогул жыцьцё біла з кожнага кута. Па сяле хадзілі самыя нясклaдзістыя чуткі.

III.

На другі дзень раніцаю, чуць толькі паказалася сонца з-за таго лесу, што стаяў каля воласьці, Іван быў ужо гатовы да паходу. Цяпер ён зусім выглядаў салдатам. За плячамі ў яго быў досыць пакоўны мяшок з хлебам і скорамам, прыладжаны на палаценцы. Яго спадарожныя, тры таварышы, такія-ж, як ён, вaякі, ужо пастукалі ў акно, клічучы Івана да свае кампаніі.

— Я даганю вас, хлопцы: ідзеце памалу,—сказаў Іван. Папрашчаўся з бацькамі; Раман, Параска і Матрона правялі яго на двор. Ісьці вуліцаю было нейк нялоўка. Іван пашоў дваром каля клуні. Тут яшчэ затрымаліся, а Раман сказаў на дарогу сыну колькі слоў, сэнс якіх зводзіўся да таго, каб усё рабіць з розумом.

— Ну, шчасьліва,—промовіў апошнія словы Раман і павярнуў у клуню. Маці стаяла яшчэ колькі мінут і пазірала на Івана, Матрона пашла з Іванам.

— Падыйду з табою да гэтага лесу,—сказала яна, заглядаючы з любасьцю ў вочы Івану.

Агародамі вышлі яны на выган і павярнулі па дарожачцы, што йшла каля плоту.

— Не даюць нам, Іванька, спакойна жыць. Хоцьбы дзянёк таго спакою. І дома ты, а сэрца не на месцы. А пойдзеш—і таго горай.

У Івана таксама на душы было цяжка, а ў галаве варушыліся цэлым роем думкі. І хацелася сказаць маладой жонцы і нават думкі добрыя былі, толькі слоў незнаходзілася адпаведных. І Іван ішоў радам з Матронаю, заглядаў ёй у вочы і толькі вачамі і сьмехам выказваў ёй свае думкі.

Дашлі да лесу. Лес, праўда, пачынаўся недалёка ад выгану. Праўду кажучы, гэта і ня лес быў, а проста так зваўся па старой памяці.

— Глядзі-ж ты, Матрона, ня вельмі-та па вуліцах вечарамі разгульвай,—сказаў, прыпыніўшыся, Іван.

— Ну, што ты, Іванька! Як-жа я, мужняя жонка, гуляць пайду?

І паглядзела на Івана з такім дакорам.

Іван абняў яе моцна; моцна і крэпка пацалаваў у сьвежыя і сакаўныя губы.

Пацалаваў і шырокімі крокамі пусьціўся даганяць сяброў.

Матрона, смутная, пастаяла трохі, покі не схавалася фігура Івана за выступам яру, куды павярнула дарога, а потым пашла на свой агарод зьбіраць зельле, падаткнуўшы спадніцу.

Шкода было Раману сына, але-ж затое было і шмат спакайней. Бяз пэўнае думкі, расчыніў ён у клуню вароты, вашоў туды, аглядзеў сьцены, зірнуў на кучы саломы і вышаў на двор. Крыху пастаяў, зашоў у пчольнік, прашоўся між вульлёў. Ніякае работы на гэты дзень ён яшчэ не назначыў сабе. Дый ахвота нейк адпала за дзела брацца. Яго пацягнула на вуліцу. На тым баку, пасярэдзіне сяла, цягнуўся глыбокі і шырокі яр; з вуліцы чуўся гоман. Раман ужо хацеў пакіравацца туды, але так добра знаёмы са ўчарашняга дня гук зноў пачуўся Раману. Ён зашоў за клуню і стаў слухаць. Грозны гук паўтарыўся грозна і выразна. Ціхае і вільготнае паветра раніцы прыдавала яму яшчэ большую сілу. Здавалася, што гарматы грымелі цяпер шмат бліжэй.

Каля бажковай клуні таксама стаяў і Пятро Мазалеўскі. Свае клуні Пятро ня меў.

Раман пашоў да Пятра паздароўкацца.

— Мне здаецца, што сёньня гарматы як-бы аддаліліся,—прамовіў Пятро.

— Дзе ты бачыў, аддаліліся,—зусім блізка грукацяць.

Як-бы прыпыняючы іх спрэчку, пракаціўся густы, выразны, акруглены гук.

— Чуеш?—сказаў Раман.

— Што-ж,—прамовіў Пятро:—пры стычках усяк бывае. Зарвецца дзе іх банда, вось і выбіваюць.

— Банда, то банда, але глядзі, куды дашлі... Нічога, мусіць, брат, ня будзе, калі ў іх парадак моцны, дысцыпліна, бранявікі, танкі і ўсё, што хочаш.

— Ну, бранявікі! А ў нас, ты думаеш, бранявікоў няма? Прагналі-ж Калчака. Цяпер з таго фронту сюды гоняць войска. Яшчэ, брат, рана ім казырыцца, яшчэ ўсё можа быць.

— Не, Пятро,—круціў Раман галавою:—штось на гэта не паказвае. Чуткі ёсьць, што ўжо і Курск вывозіцца. Трудна, брат, з імі змагацца.

Пятро маўчаў. Дый што тут казаць. Хіба ты яго пераканаеш. Радуецца кулаччо, бо не па нораву яму новая ўлада.

Раман пашоў на вёску паслухаць, што гавораць людзі. Пятро таксама павярнуў у свой двор. Стаяць на вуліцы і слухаць гэту кулацкую гутарку яму было прыкра.

„Ах, вы жылы, жылы!“ разважаў сам з сабою Пятро: „чакаеце Дэнікіна, ня люба вам, што бедната галаву падняла. Каб часам-жа і самі не заплакалі!“

Нявесела было на душы ў Пятруся. Перш быў за дзела ўзяўся, плот паставіў на сваім надзеле, падгатаўляў мясьціну, каб перанесьці туды сваю хату. Думаў пачаць памалу будавацца. Цяпер-жа ўсё гэта спынілася.

„Задушаць, усё задушаць і зьнішчыць могуць, сволачы!“

Так і спыніў сваю работу Пятро, бо нашто рабіць? Калі прыдуць дэнікінцы, то ўсё будзе зьнішчана ды яшчэ і самога калаціць будуць. Але ня гэта страшна,—страшна, што стары парадак можа вярнуцца. Заможнае сялянства пачало падымаць галаву. То там, то сям стаялі гурткі заможнікаў, якія так ці йначай лічылі сябе пакрыўджанымі беднатою і ў глыбі душы, хоць аб гэтым яшчэ не адважваліся казаць уголас пры ўсіх, былі рады прыходу Дэнікіна. Цішком перадавалі адзін аднаму аб добрых зьменах жыцьця,

якія будуць тады, калі ня будзе ўлады чырвоных. Раман колькі разоў абменьваўся думкамі з людзьмі і яшчэ болей праконваўся ў тым, што верх возьме Дэнікін, і ўжо пачынаў чакаць яго. Тымчасам прыбліжэньне фронту і сур'ёзнасьць палажэньня адчувалася моцна. Прыходзіла войска, разьмяркоўвалася на больш-менш доўгі час, а праз дзень-другі, яно кудысь выходзіла. Прыбывалі новыя вайсковыя часьці, але доўга не затрымліваліся і перакідваліся то на адзін, то на другі пункт фронту.

А гарматы грукацелі бліжэй.

Раман чутка прыслухоўваўся да ўсяго, што рабілася вакол. Вайна была ўпартая, і часта фронт хістаўся то ў адзін, то ў другі бок, а разам з гэтым то падымаліся, то ніклі надзеі заможнікаў і беднаты. Калі ўдача была ў чырвоных—ажывала бедната і паказвалася на вуліцы. Тады можна было пабачыць і Пятра. Ён выхадзіў на вуліцу, шырока расстаўляў ногі і казаў:

— Не, брат, зьбілі Калчака—таксама далёка зашоў—саб'юць і Дэнікіна. Усяго народу не ашукаеш і за белы хлеб ня купіш... Што тут талкаваць? Рана вам радвацца,—і Пятро кідаў вочы на крытыя пад жалеза хаты заможнікаў.

Пры спатканьні з Раманам, Пятро ня мінаў казаць:

— А гарматы ледзь-ледзь ужо чуваць.

Раман дыплёматычна адказваў:

І дзякуй богу! Ты-ж думаеш, добра было-б, каб фронт прашоў праз наша сяло?

Так казаў Пятру, а сам думаў ня тое і адчуваў засмучэньне, асабліва пасьля таго, калі яго залучылі ў абоз чырвоныя і патрымалі яго з тыдзень, а ў гэты час невядомыя ласуны крыху пахадзілі каля вульлёў без дазволу Рамана.

Раман зноў зьбіраў навіны і нават заходзіў да бацюшкі пагутарыць аб справах вайны.

Бацюшка стаяў у самым асяродку навін і на справу пазіраў сьветлаглядна.

— Думаеш, яго сілаю прымусіш адыйсьціся?—казаў бацюшка:—сам адступіў, бо правае крыло на фронце Ўрангеля адстала, а левае залішне высунулася.

Але туды паслалі генэрала Шкуро. Гэта, брат, генэрал! Другі Сувораў!

Раман весялеў—што значыць вучоны чалавек!

Такое хістаньне вайны цягнулася колькі месяцаў. Раман проста змучыўся, чакаючы рашучых вынікаў вайны. Паміж заможнікаў злажыўся нават погляд, што Дэнікін ня йдзе проста дзеля таго, каб даць людзям сабраць з палёў.

Раз, пад канец лета, калі гармат колькі дзён зусім ня было чуваць, Раман пачуў, як яны зноў ажылі і загрымелі часта і моцна.

Убачыўшы Пятруся, ён сказаў:

— А чуеш, як блізка зноў грукацяць?

— А мне здаецца,—адказаў Пятрусь,—што яны ўсё на адным месцы.

Але выраза твару Пятруся казала за тое, што гарматы ня вельмі далёка.

Пад вечар таго-ж самага дня стала вядома, што Дэнікін прашоў раку Псёл, а да Псла адгэтуль было ня болей, як дваццаць вёрст. Гарматы грымелі ўжо так, што зямля дрыжала. Блізкасьць вайны адчувалася цяпер усімі. Сярод вайсковых часьцей замячаўся нязвычайны рух. Відаць было, што чырвоныя войскі адыходзілі. Цэлы шэраг фурманак пацягнуўся на поўнач у кірунку на Курск; за фурманкамі праз нейкі час адыходзілі і баявыя ланцугі. Палажэньне станавілася вельмі напружаным. Дзесь, ня вельмі далёка, тухкалі кулямёты, а на горцы ў полі пачалі ўздымацца высокія слупы дыму і пылу. Гэта—выбухі ад снарадаў. Людзі пахаваліся: сяло, здавалася, апусьцела.

Раман чуў, як нейкі страх агарнуў яго душу. На яго вачох выяўлялася разьвязка вялікага змаганьня, сэнс якога ён ня мог ахапіць розумам, але ў сэрца закрадвалася цёмная трывога.

Змоўклі гарматы, сьціхла частае тухканьне кулямётаў. Зрабілася ціха і пуста. Чырвоных ужо ня было, а белыя яшчэ не паказваліся.

Раман стаў разглядацца і патрошкі прыходзіць у сваю звычайную плынь жыцьця. Ён вышаў на двор,

аглядаючы свой будынак і сваю гаспадарку. Зрэдка грукацелі гарматы, але ўжо з боку і ў другім месцы. Абярнуўся Раман назад і абамлеў: з вуліцы ў двор уварвалася нейкая, яшчэ ня бачаная ім, банда ўзброеных людзей. Не спадзяючыся нічога добрага, Раман, моцна перапалоханы, падаўся ў патайны кут двара. Сэрца яго крэпка забілася.

У хаце была жонка і нявестка Матрона.

Банда ўвалілася ў хату. Матрона забілася ў цёмны куток сяней і ўся дрыжала.

— Балшавік няма?—пытаўся адзін з шайкі нейкаю ломанаю моваю, а вочы бегалі, як у злодзея.

— Няма, няма,—запэўняла перапалоханая гаспадыня.

Банда борзда крутнулася па хаце, акідаючы поглядам куты і набытак, потым вышла ў сені. У сенях стаяла скрыня Матроны. У гэтай скрыні былі схаваны яе лепшыя рэчы: адзеньне, палотны, абрусы, залатыя пярсьцёнкі, рублёў дваццаць срэбра і дзьве залатыя пяцёркі.

Адзін з шайкі, чорны, калматы, як зьвер, узламаў шабляю скрыню і пачаў перабіраць і выкідаць з скрыні тыя рэчы, якія яму больш падабаліся, а больш дробныя і каштоўныя—клаў у кішэню. Другія падбіралі з зямлі хусткі, абрусы.

— Што вы, падлякі, робіце?—крыкнула Матрона і выскачыла з кутка.

Грабежнікі зьнячэўку прышлі ў замяшаньне. Чорны, акінуўшы Матрону вачамі, расплыўся ў нядобрую ўсьмешку.

— Карош баба! Карош баба!

Ён кінуў скрыню, падышоў да Матроны і раптам абняў яе крэпкімі рукамі.

Матрона ў гневе, у страсе стала крычаць, адбівацца, але чорны трымаў яе моцна.

— Пайдэм, дюша мая, пайдэм!—і павалок маладзіцу ў глыб двара.

Матрона баранілася з усіх сіл, біла яго па твары, чаплялася рукамі ў яго бараду, крычала, клікала людзей, але ніхто не паказваўся і ня йшоў бараніць.

— Нічаво, нічаво, ны бойся!—казаў чорны, а вочы яго гарэлі дзікім агнём.

Ён згроб яе на рукі і панёс у клуню. Матрона змаглася і самлела. Чорны нагою адчыніў клуню і панёс маладзіцу туды.

Раман ня мог болей хавацца. Ён схапіў вілы і кінуўся ў клуню, як зьвер, ратаваць сваю нявестку.

— Погань разбойная, што ты робіш?!—наляцеў Раман з віламі, гатовы прасадзіць яго.

Грабежнік, кінуў Матрону, выхапіў шаблю і спрытна адбіў удар, пры гэтым расьсек Раману пальцы.

На яго шчасьце пачалі зьбягацца людзі, падняўся крык, лямант. Чорны, дзіка азірнуўшыся, моцна таўхануў Рамана ў грудзі, зьбіў яго з ног і, махаючы шабляю, пабег да свае банды. Аграбіўшы Раманаву хату, банда пашла на другі бок сяла праз яр.

Прашло з месяц часу. Сялянства на ўласных гарбох адчула ўсю асалоду дэнікінскіх парадкаў. Не па аднэй сьпіне згуляла поліцэйская нагайка. Зямляўласьнікі шчыра сталі зьбіраць свой набытак, адбіралі ад сялян кароў, коняй, цягалі іх па судох за сьсечаны лес.

І вось, калі зноў пачуліся стрэлы гармат, на гэты раз ужо з поўначы, а Раман і Пятро стаялі і слухалі іх, і калі Пятро сказаў:

— А ці не здаецца табе, што гэтыя стрэлы разпа-раз чуюцца бліжэй?

Тады Раман з сьвятлеючым тварам і ад шчырага сэрца адказаў:

— Так, так: гром прыбліжаецца!

---

## КАМБАТ ТРЫ.

Растапырыла сонца агнявыя лапы ў бязхмарным небе і ўткнулася ў край зямлі. Здаецца, на спакой зьбіраецца.

Змоўк стэп, змоўкла поле, лень ветру варухнуць коласам або травой.

Пыхае пылам саша, вунь тая, што да вёскі вядзе.

У блакіт апранаецца лес сасновы і здаецца, што ён кудысьці плыве далёка-далёка бяз канца.

Гоўтаецца ў калысцы падвячорак і грэецца на сонцы.

Закурлыкаў жалейкай луг пахучы, падперазаў сябе стужкай туманнай. Пацягнула халадком з багныбалота, уздыхнуў апошні прамень сонца й замёр.

Паўзе шызы змрок на неба.

Вечар.

Пракаціліся рэхам апошнія грымоты.

Ня гаўкаюць гарматы, не ласкоча кулямёт, ня енчыць вінтоўка,—скончан бой.

* *
*

Пяты дзень к канцу прышоў. Пяты бой сьціх...

Калі схавала сонца апошні асклётак крывавага лапішча, батальён тры палка Багучарскага рыхтаваўся на начлег.

А стаяў батальён тры ў вёсцы Гулькі.

Рыхтуецца батальён на начлег, а каб спакойна спалася, наперад атрад вартоўны паслаў, да на ўсякі выпадак кожнай роце позыцыя паказана.

Цямнела.

Эх, як прыемна зьняць боты і цяжар амунічную, выпрастацца на сене пахучым і разьвінуць костачкі.

Не пазнаць Гулькі: роем снуе народ, гудам-гудзіць вуліца, двары, задворкі.

Тут гутарка, сьмех, жарты, там скігоча вал калодзежа сьцюдзёнага, таляшчыць двухколка, ірзуць коні.

Спрытныя хлопцы вар сагрэлі.

На краю сяла—штаб.

Распаўзьліся ад штабу к ротам жылкі чорныя—правады.

Скача гуд тэлефонны і цярэбіць вуха.

І вось.

Хвацкая галава Васільлеў, кравец маскоўскі, тэлефоністы—да камбата.

Камбат—да тэлефону. Праз жылку чорную, па тэлефону значыць, ад камандзіра палка загад.

Патрэбна цяжкая артылерыя... падвезьці можна па сашы цераз Балабіна...

На сьвітаньні ўзяць Балабіна... Правей другі батальён...

Доўга яшчэ рыпелі словы загаду ў трубцы.

Камбат толькі і гаварыў:

— Слухаю.

Канец...

Трубку-тэлефаністаму.

А сам...

Карту—на стол, зірк—па карце.

Мінута моўчкі.

Хропнуў палец, зышліся бровы, вочы ў адну кропку.

Гукнуў пасыльных і выразна:

— Паклікаць камандзіраў рот. З сёмай—шэсьць разьведчыкаў і старэйшага, з восьмай—адно стралковае, адно кулямётнае з камандзірамі ўзводу, Хомкіна і Адмычку асобна.

Хлопцы сякерай сякуць паўтор.

І сказаў камбат:

— Ну, сып гарохам, ды не пагубляй дарогаю.

Чмыхнуў Васільлеў носам і зьнік, а Гур'ева ўжо і сьлед прастыў.

Да тэлефону.

Запішчэў тэлефон, як муха ў павучыне.

Трубку—к вуху.

Загад тэлефоністаму старэйшаму:

Кабэлю тры вярсты, адзін тэлефон нарыхтаваць, цягнуць зараз-жа да вартуючага ўзводу сёмай роты к ляску, адтуль за ўзводам восьмай роты, куды пакажуць...

І зноў.

Вачмі па карце. Зірк—у кропку.

Ціха сказаў камбат тры:

—Будзе справа, відаць па ўсім.

Эх няма адпачынку на вайне!

Дзень бой ці паход, а ў ночы глядзі ва ўсе вочы: ноччу вораг хітрэй, ноч і справу для раньня рыхтуе. І зрок у ворага ў цемры вастрэй, як сыч, кожную іскарку бачыць, і вуха востра—кожны шорах чуе.

Зблышыў—канец.

Сьпіць народ,—няма сну на вайне!

Ціха. Толькі курлыкае луг пахучы.

* *
*

Паляглі хлопцы, першаўзводнікі восьмае роты, на сене пахучым, задралі гэтак сабе насы ды ногі ўгару, толькі пасьміхваюцца.

— Янка, а Янка,—прыстае Ягоркін да Янкі Адмычкі,—збрахні што-небудзь.

— Чаго збрахні, хіба ў мяне праўды мала.

— Добра, валі праўду.

— Янка, збрахні...

Ахвоч Янка Адмычка да апавяданьняў розных. Толькі напамяні.

— Ну, добра, збрахну.

Хлопцы сьціхлі.

А Адмычка расказваць.

— Пашлі мы ў даведку.

Іду я гэта, значыць, сьпераду ўсіх і назад не аглядваюся, шпару я нацянькі, як галка. Трэба было прайсьці лясок. Ну, не пяршыня вераб'ю пад страху лезьці. Зашоў. Тут-то і заўважыў, што згубіў хлап-

цоў. Крыкнуць небясьпечна—выдасі сябе. А ў лесе цемра страшэнная—вока выкаль. Ну, думаю,—магіла. Добра. Прыкладу вуха да зямлі—гудзіць маці сырая зямля дый толькі таго. Іду. Свой шорах чужым здаецца. А за каўнер быццам хто ваду сьцюдзёную лье. Далей. Праз дрэвы заблішчэла зоркамі неба. Узрадаваўся. Поле—ня лес, дарогу адшукаеш. Ды вось не зрабіў двух крокаў, здалося замком нехта шчаўкануў. Замёр. Бачу—цэліцца проста ў мяне з вінтоўкі. Я гэта, нядоўга думаючы, на яго і штыхом—раз. Штых уторкнуўся, а назад ня лезе. Што за штука? Агледзеўся. Памацаў ворага—аж цэлае дрэва.

— Брэшаш!

— Каб я так жыў!

Пакаціўся сьмех шалёны з глотак маладых.

— І так я прырос да дрэва, што ніяк не адляплюся і...

Ня скончыў байкі Адмычка. Уляцеў пасыльны і кулямётам:

— Таварыш узводны,—да ротнага.

Сьціх сьмех.

Эх, няма адпачынку па вайне...

Узводны вярнуўся, і загад.

— Першае стралковае аддзяленьне і лёгка-кулямётнае ўзяць карабіны.

Пойдзем да батальённага.

Мінута...

Хлопцы гатовы.

Падміргвае Адмычка Васюткіну.

— Тупаем, значыць.

— Значыць,—кінуў Васюткін.

Закурыўся пыл пад нагамі, закалыхаліся цені, пашлі даведчыкі ўдоўж сяла.

* * *

Месяц шырокі, як медны таз, павіс над змрокам, а вось там ружовая бліскавіца засьмяялася, ад хат і дрэў лёг на зямлю цень...

Хлопцы бывалыя ў справах баявых, з вінтоўкамі на рэмень ішлі ў штаб.

Сялом, загуменьнем...

У канцы сяла ў хаце—штаб.

На ганках,—камбат, таварыш Іваноў, царскай арміі унцер.

Вожыкам падстрыжаныя валасы, закручаныя пярсьцёнкам вусы, старая выпраўка, церабіла левая, а трох пальцах рука,—знак немца.

Камбат гаварыў ротным:

— Загадана ўзяць Балабіна... Першы батальён сёньня біўся зьверам...

Шмат хлопцаў лягло, камбата паранілі, а Балабіна не ўзялі... Моцны палкоўнік Лутавінаў—голай рукой ня возьмеш.

Ротныя сказалі:

— Так.

Ціха.

Боўтаецца месяц—медны таз.

Засеў калом у Балабіне палкоўнік Лутавінаў і агрызаецца воўкам.

Злы воўк, калі чуе сьмяротную гадзіну.

Хіцер воўк—чалавек хітрэй.

Не ашукаць ваўку чалавека.

Камбат тры, таварыш Іваноў, воч ня зводзіць з дарогі, што ўецца стужкай на Балабіна. Уткнуўся зрок, а думкі, як чарвяк, капошацца.

Калі царкоўны вартаўнік баўкнуў дзевяць разоў у стары звон, ухмыльнуўся камбат, шчаўкануў пальцамі і прасіпеў:

— Пастой, палкоўнік, наладжу я табе пастку!

* *
*

Сідоркін далажыў, што прышлі. Камбат прывітаўся і пільна паглядзеў у вочы Сідоркіну, а пасьля:

— Як хлопцы?

— Бывалыя.

— Ведаюць справу?

— Ведаюць.

— Ну, заходзь у хату.

Зашлі ротныя, Сідоркін, зашлі даведчыкі старэйшыя, зашоў Хомкін, зашоў Адмычка.

Камбат адрыўкамі:

— Моцна ў Балабіне заселі белыя і ў лесе на поўнач... Мінулую ноч дасталі языка, расказаў што якое.

Дзьве тысячы ў Лутавінава... Падабраныя людзі...

На сьвітаньні полк ідзе ў атаку...

Батальёну нашаму браць Балабіна.. Правей на лес другі ідзе. Пойдзем у атаку зьлева... Перахопім бальшак на Пакроўскае... Сёмая рота йдзе проста на сяло... Восьмая з поўдня ахапляе...

Да даведчыка старэйшага Ярошкіна:

— Чулі, што будзем рабіць?

— Так точна.

— Слухайце задачу...

Іsьці на вышыню з гаем, далей удоўж дарогі на Балабіна... Пралезьці праз варту... Даведацца, дзе акопы і як разьмешчаны... Даведку скончыць да сьвітаньня... Вярнуцца на вышыню з хаткай... Данясеньне цераз камандзіра ўзводу... Лявей нашы даведчыкі, управа другога батальёну.

Сказаў і паўтор слухае.

А пасьля Хомкіну і Адмычцы:

— Прабрацца ў Балабіна... Зьведаць, дзе штаб і рэзэрва. .

Пільна паглядзеў камбат на Адмычку і гаварыў далей.

— Ня ўсё яшчэ самае галоўнае.—Камбат сказаў шэптам.—Хату, дзе штаб, падпаліць.

Ёсьць,—сказаў Адмычка

— Так,—адсек камбат.—Міг...

— Стралковаму аддзяленьню ісьці на вышыню з хаткаю, далей на Пакроўскае, што лявей і ззаду Балабіна... Зьведаць, дзе канец крыла.

Як прарвяцёся—паднімай сумятню, хай пастраляюць белякі, каб зьведаць, дзе акопы. Бяз гэтага ўзнаеце—яшчэ лепей. Разьведку скончыць да сьвітаньня... Вярнуцца туды-ж, куды й Ярошкіну. Данясеньне цераз камандзіра ўзводу... Зразумеў?

Чыбісаў (аддзялком) зморшчыў лоб,—падумаў значыць,—і адразу:

— Так точна.

— Так, адсек камбат.

Міг...

Камандзіру ўзводу Сідоркіну:

— Вам дасягнуць вышыні з хаткаю...

Паставіць тэлефон...

Абараняць кулямётным аддзяленьнем... У выпадку патрэбы падтрымаць першае аддзяленьне... Зьбіраць зьвесткі і мне—па тэлефону. Усё.

— Ёсьць,—сказаў Сідоркін.

— Ну, гайда, хлопцы, да глядзі не падгадзь,—сказаў камбат тры.

— Не пяршыня,—сказаў Адмычка.

* *
*

З ганак, сялом, прасёлкам—да лесу.

Лес.

Ціха.

Парагатаў сыч і змоўк. Шапаціць лісьце, павольна нырае ў белым сьвеце месяца. Храпаціць поваль.

Нехта здрыгануўся, нехта плюнуў.

Сьпіць народ, няма сну на вайне.

У лесе узвод вартоўны сустрэлі.

На хаду гутарку Адмычка з прыяцелем завёў.

— На сьвітаньні Балабіна будзем браць.

— Ага, учора нюхаўку набілі, сёньня морду расквасяць.

— Раз на раз не нападзе. На то і вайна, каб нюхаўку білі.

— Справа гэта,—усьцяж сур'ёзная.

— Ды куды ўжо—мазгом праца.

— Добра, наярывай...

Пашлі.

Ярошкін з даведчыкамі, Хомкін з Адмычкай па дарозе, што ўецца ў муць, на вышыні з гаем.

Чыбісаў напрамак трымае на вышыню з хаткай.

Зашуршэла трава пад нагой, упілося вока ў далеч серабрыстую, пацягнуліся хлопцы вілкамі па ўзьлесьсі. Па лугу рассыпаліся. Ціхенька па траве

луговай. Запусьцілі дазоры ўправа, запусьцілі ўлева, наперад,—ці не застраў хто.

* * *

Ярошкін з даведчыкамі праз курган з гаем,—на дарогую таптаную балабінцамі.

Гэта калісьці.

А цяпер тэй дарогай і зьвер не прабяжыць. Баі ідуць жорсткія.

Народ сялянскі забыў шлях-дарогу, а дарога травой-лебядой зарастаць пачала.

А дарога гладкая і відаць па ёй далёка.

Ведаў гэта Ярошкін, а дзеля таго хлопцаў спадзейных паслаў на курган па дарозе, на разьнюх, значыць,—ці можна мухай прасьлізнуць.

Паміж балота і гаю, што праходзіў Чыбісаў, ёсьць курган—могілка татарская часоў даўных, часоў мамаеўскіх. Шмат дабра закапвалася ў могілку, а за тым і зямлі насыпалася многа.

Ведала арда свае могілкі—берагла іх, а рассыпалася арда—могілкі быльлем зарасьлі, і народ назваў могілкі курганамі.

* * *

Адмычка ды Хомкін—у гаі.

Прыхіліліся да хвоі віхрастай і мяркуюць аб сур'ёзнай.

Дзе пачатак, дзе канец...

Раптам ня скочыш, ня блыха.

А трэба мухай няпрыкметнай прабрацца ў тыл.

Ну й задача.

Жмурыць вока Адмычка на месяц—медны таз, быццам дапамогі шукае. Месяц маўчыць, маўчаць воблакі і плывуць кудысьці.

Уздумалі.

Недалёчка роў, па ім,—у балота, а там ёсьць пралаз—зайчы сьлед. На чэраве прапоўзьці з вярсту, потым кустамі вярбы непакойнай—к задворкам.

Вырашана.

З гаю вон.

Мышай нячутнай—па раўку.

Па балоце на чэраве—яшчаркай.

Вока напружыў—усё бачыць. Вось і канец балоту і...

Вось тут улева, крокаў сто ня больш, шчамялём зазьвінела куля. Адна, другая—больш, часьцей.

— Слухай, Адмычка, пэўна наша братва нарвалася.

Ці не даць наўцёкі.

— Зачыні ляпу. Дай мазгамі ўзварухнуць.

Мінута маўчанкі.

— Стой, Хомкін, гэта нашаму козыру ў масьць. Хай больш страляюць.

Ухмыльнуўся Адмычка. Ухмыльнуўся месяц—медны таз.

А кулі ветрам выюць—значыць справа загарэлася.

Заст..глі хлопцы.

Цішэй вады, ніжэй травы ляжаць Адмычка і Хомкін ня дыхаючы.

Ціха, толькі курлыкае луг пахучы.

Сьпіць народ, няма сну на вайне.

Пяць мінут годам цягнуліся.

Вызірнуць—нікога, а боязна.

Яшчэ.

А пасьля адважыліся.

Нячутна кошкай—скок і замёрлі.

К кусту.

У кусьце ляжыць салдат з вінтоўкай.

Мурашкі па сьпіне.

Што за дзіва,—салдат не варушыцца.

Адмычка да яго—не шаволіцца.

— Ага, вось што—нябожчык. Відаць, сёньня шпэкнулі.

Адмычка вытрас з шынэлі нябожчыка—шынэль на сябе, а Хомкін-сарочку—і шась у кусты.

У кустох ратунак.

Па кустах вярбы непакойнай—ваўком. Глядзяць сьпераду—акоп. Паўзком павербах управа. Каля завароту акоп скончыўся.

Паўзком—па траве. Яшчаркай—да задворкаў. Па вуліцах—вольным крокам, як свае.

* * *

А да таго было так:

Дазор, што выправіў Ярошкін, наткнуўся на вартаўніка і на падвартовага.

Ад нечаканасьці Аўласаў, дазорны значыць,—бах і выстраліў.

Вартаўнік таксама,—на падмогу прышоў каравул – і пашла сыпаць.

Ярошкін прыліп з хлапцамі да зямлі, а пад шумок справу робіць—мігам адправіў Гур'ева ды Сёмкіна ўправа і загадаў ім:

— Прабрацца цераз варту, зьведаць, дзе акопы. Я за вамі.

Мішкіна да тэлефону.

— Далажы,—на ўзгорку з дрэвам пост. Я з хлопцамі далей іду.

І схаваўшыся ў цень, што ад месячнага сьвятла, мышай няпрыкметнай з хлопцамі далей.

Няма сну на вайне.

Белякі, адно, паляць.

Выцягнуліся вілкамі хлопцы—па траве чарвяком...

Да хмыз няку...

Дазор белагвардзейскі.

— Хто йдзе?!

Хлопцы ў нітку выцягнуліся.

Мінута...

Яшчэ лявей і ціха чарвяком...

Далей...

А праз гадзіну...

Цярэбіць вуха гуд тэлефонны—даносіць узводны камбату тры.

— Улева і ўправа ад сашы акопы. Канчаюцца каля дарогі цераз Балабіна.

* * *

Амаль што каля самай царквы, у хаце стары Якавенка дачку сватаў.

Ну і народу—поўна хата!

Адмычка і Хомкін ужо зубы вышчараюць з дзеўкамі, бабамі ды мужыкамі, а самі, між слоў, што трэба выпытваюць.

Просты народ сялянскі, асабліва бабы ўсё раскажуць, па прастаце душэўнай, што і як, дзе і чаму. Язык—памяло.

Даведаліся Адмычка і Хомкін, дзе штаб.

Хіцер вораг, востра вуха ў яго.

Вусаты фэльдфэбаль, наляту злавіў пытаньне адно—стары воўк.

Да Адмычкі.

— А ты хто такі будзеш?

— Я, значыцца? Тутэйшыя мы, драздоўскія, выпаліў Адмычка, а ў самога душа ў пяткі.

— А чаго шляешся тут?

— Э-э-э, гаспадзін фэльдфэбаль, вядома чаго—за дзеўкамі.

А сам, на ўсякі выпадак, дарогу прыглядае.

Дзеўкі схапілі і закарагодзілі фэльдфэбаля.

Адмычка ды Хомкін пераглянуліся, і к задворкам.

Там.

Нядоўга цягнулася нарада—і так усё ясна.

* *
*

Праз гадзіну гудзеў звон трывогі—баламуціў народ сялянскі, вяшчаваў аб няшчасьці вялікім, аб пажары.

Гарэў дом кулака Замяціна, што прытуліў штаб палка Драздоўскай дывізіі.

Сноўдаліся з боку ў бок заспаныя салдаты, лаяліся злосна афіцэры.

Раўлі каровы, блекаталі авечкі, ірзалі коні.

Валілася дабро ў кучу.

Гармідар.

Гудзіць звон трывогі, баламуціць народ сялянскі.

У сяле гармідар, у палку гармідар.

Лезе ў вышыню клубок агню, далёка відаць ён...

* *
*

Чыбісаў з аддзяленьнем нячутна па траве луговай паўзуць.

Дазор сьпераду—Кузьмін і Васюткін.

Часта Кузьмін вуха да зямлі прыкладвае—старая прымета—па зямлі гоман чуцен.

Ды ўсё нічога ня чуваць.

Яшчэ бліжэй...

Гоман затоены.

— Ага!

Яшчэ бліжэй...

З-за купіны бяляк выглядае—салдат белагвардзейскі—і пяліць вачышчы...

Васюткін да Чыбісава...

Выслухаў Чыбісаў і шэптам:

— Слухай, хлопцы, давай-ка здымем варту. Толькі чур—не латашыць.

Хлопцы, як адзін, згодны.

— Васюткін, вазьмі Ягоркіна і ўтрох—на вартаўніка і падвартавога, я з астальнымі—на варту. Кідацца разам-па знаку—я сьвісну (мастак сьвістаць Чыбісаў, як салавей-разбойнік). Ну, тупаем.

Ляжыць калодай Кузькін, чакае Васюткіна.

А мінуты даўгія, як вёрсты, быццам няма ім канца.

Але няма справы без канца.

Прыпаўзьлі Васюткін і Ягоркін.

Паведамілі Кузькіна.

Чакаюць.

Бяляк у бок глядзіць, другі прылёг, мабыць упэўніліся, што здаўся шорах.

Цішыня—стукат сэрца чуцен.

— Ту-ку, ту-ку, ту-ку.

Хлопцы гоп на белякоў, рот у жменю, калена ў грудзі—і квіт.

Цішыня.

Чыбісаў хлопцаў наперад і загад ім:

— Чакаць мяне там.

У левы бок дазор—Кузькіна і Васюткіна.

— Ці няма там якога камуфэльта?

І прыслаў Кузькін адказ:

— Няма.

— Ага, сьвіснуў Чыбісаў, на крыло наскочылі! Жывём хлопцы!

Узводнаму аб здарэньні вестку паслаў, а сам вока вострыць на Пакроўскае.

Яшчэ паўзьлі. Яшчэ пасылалі дазоры.

Курлыкае луг пахучы, гоўтаецца месяц—медны таз, цягне халадком з балот.

Сьпіць народ—няма сну на вайне.

Чыбісаў ціха, ледзь чутна:

— Кузькін, Васюткін,—да мяне.

Прыпаўзьлі.

— Работа ёсьць. Смалі да вёскі, вось той, што цямнеецца, Пакроўскае завецца, а мы тут памацаем, дзе акопы.

Хлопцы шчамялём загудзелі.

— Ціха, нячысьцікі. Вось. Шпар да вёскі, глядзі ў дзьве плюскаўкі, наторкнешся—не страляй. Вынюхай усё ня псуючы пораху.

* *
*

Яшчаркай хлопцы на задворкі.

Вось і гумно.

Сенам пахне. Месяц—медны таз так пакалыхваецца і вельмі спакусьліва міргае.

Прыслухаліся—цішыня.

Сьпіць народ, няма сну на вайне.

Кузькін мышай у стог, Васюткін за ім.

Ляглі.

Вуха навастрылі—ціха.

Месяц у вочы—сена ў нос.

Добра ў сене.

— Эх ты, ядрыт тваю папалам, што цяпер робіць Дуня?

Летась вось, так-жа ад вока людзкога хаваючыся, ляжаў я на сене з Дуняй. Э-э-эх, і моцна-ж цалаваліся!

Заскакала, замігацела ў ваччу. Сена морам, здавалася, плыве кудысьці, а месяц у скокі пусьціўся і гэтак адшпандорвае трапака. Сьмешная баба.

Васюткін у бок.

— Тупаем далей.

Здрыгануўся Кузькін і моўчкі далей.

Выбраліся на вуліцу...

* * *

У той час загудзеў звон трывожны—у сяле Балабіне, загарэлася на бяздонным небе сьвечка, узбухторылася Пакроўскае—абоз там стаяў.

Кузькін і Васюткін да сьцяны прыліплі, гаворку слухаюць.

У абозе куламеса—абоз пяты падмазвае на ўцёкі.

— На Прасянае едзем, кінуў нехта.

Мігам на задворкі, на гумно, гародамі—да Чыбісава. Далажылі, што чулі, далажылі аб пажары.

Той Кузькіна—да ўзводнага.

Заёрзалі словы ў трубцы, пабеглі па чорных жылках правадоў у штаб батальёну.

Далей у дарогу.

* * *

Ноч, пахілая бабулька, зморана цягнулася на адпачынак.

Зялёная паласа на ўсходзе крывянілася.

Бляднелі зоркі і загасалі.

Неба блакітам бралася.

Сьвітаньне...

Чорныя стужкі акопа зьмяёй выгінаюцца, відаць, як на далоні.

Чыбісаў па паперы: чырк, чырк,—плян гатоў, і йзноў да ўзводнага.

Зноў заёрзалі словы ў трубцы, пабеглі па чорных жылках правадоў у штаб батальёну тры.

* * *

Ня спаў у тую ноч камбат, таварыш Іваноў, не звадзіў вачэй з захаду, дзе Балабіна, і толькі атрымаў апошнюю вестку, што хлопцы справу выканалі,—загад:

— На Балабіна батальён!

Загаўкала артылерыя, ірваліся знарады каля дома кулака Замяціна, як сьвечкі.

Пабеглі салдаты, пабеглі афіцэры, пабег і народ сялянскі.

Гудзіць трывога.

Куламеса.

Гэта ў Балабіне...

* * *

У Пакроўскім...

Ірвануўся абоз да Прасянай, ірвануўся, як духу хапала. Думаў—ратунак там, не ча лў, што ў хмызьняку, які па дарозе раскінуўся воўнай, сядзіць узвод даведчыкаў конных з пасткай кулямётнай.

Вопрамецьцю ляціць.

Бліжэй...

Яшчэ-яшчэ бліжэй...

— А-а а а!

Заірзалі коні ад болю сьмяротнага, завылі людзі. Фурманкі набок людзі па і іх, коні ўбок.

А кулямёты:

— Тра-та-та та!

Мяшаліся ў сьмяротным страху людзі, коні і мёртвыя валі ліся.

У Балабіне гармідар ня сьціхаў.

* * *

Адмычка і Хомкін, як толькі падпалілі штаб—на задворкі. Мышаю нячутнай - да хмызьняку, ваўком— па хмызьняку, яшчаркай -па балоце.

Але нешта вельмі доўгае стала балота, здавалася канца яму праклятаму няма.

— Здаецца ўлева трэба Адмычка, відаць, мы ня туды цэлім.

— Не пяршыня! Бачыш, вось лес.

Да лесу яшчэ: вачам—рукой падаць, а нагам— рот разьзявіш.

З гадзіну паўзьлі.

Вось і лес.

Занудзіла хлопцаў.

Быў тады дваццаты год, год сьмяротны і галодны. Калі тараны і хлеб аўсяны і то не заўсёды. З голаду занудзіла.

— Слухай, Хомкін, жраць хачу, аж нутро падшчаміла і сіл ніякіх няма.

А Хомкін ціха:

— А ты закуры, як рукой здыме, забудзешся і на шамоўку.

Ногі - камні пяціпудовыя—ня рушацца, рукі—трохсажнёвымі сталі, не паднімаюцца.

Цяжка.

— І сапраўды, закурым.

Ня думалі хлопцы аб ворагу, спадзяваліся, што свае блізка, а Адмычка быццам і дрэва прыкметнае знашоў.

Селі на корч, скруцілі па цыгарцы з махры пайковай, цішком закурылі і раскурыліся.

Дрэміцца...

— Ну, Хомкін, пойдзем.

І толькі ўсталі, дыму ня справіліся выпусьціць пасьля зацяжкі,—куля.

Дзын!

Ці мала гэтых шалёных лётае!

Хлопцы навастрыліся і далей.

І вось.

Быццам з зямлі вырасьлі салдаты.

Хлопцы—бегчы.

— Чырвоныя, гэй-гэй чырвоныя!—пачуліся галасы.

— Чыр-во-о-ны-я, пакацілася водгульле па лесе.

Запстрыкалі, заскакалі кулі і дражняцца:

— Дзын, дзын...

Шмат праляцела міма, а адна Адмычку ў патыліцу. Выпрастаўся жабаю—і канец.

Хомкін уцякаў.

Але нядоўга бег Хомкін, зьбіла і яго куля варожая.

* *
*

Была на золку справа гарачая.

Ня раз схадзіліся ў рукапашную.

На сьвітаньні ўзялі Балабіна, узялі Пакроўскае, узялі Крутаярскае.

У Крутаярскім загад:

— Затрымацца і абараняць Крутаярскае—пункт апорны.

Застанавіліся.

* *
*

Раніцаю, калі яскравае сонца золатам мільгацела ў празрыстых хмарках, калі бліскучая раса, сьлёзы зямлі, частымі кропелькамі ападала на траву, а лес, балота і луг ад туману курыліся, падлічвалі жывых.

Шмат каго не далічыліся.

Не далічыліся Адмычкі, не далічыліся Хомкіна.

* *
*

Камбат паклікаў да сябе хлопцаў, якія ў Балабіне пажар учынілі, але хлопцаў не знашлі.

Тады камбат тры сказаў:

— Адшукаць і даставіць жывых ці мёртвых!

Загад камбата, што сталь.

У поўдзень даставілі мёртвых.

Далажылі.

Вышаў камбат, таварыш Іваноў, цьвёрдай ступою падышоў к мерцьвякам і пільна паглядзеў так, як і ў хаце, у вочы і моўчкі пацалаваў вяснушчаты лоб Адмычкі.

А потым ціха адышоўся ўбок, цяжка апусьціўся на лаўку, а з воч капалі звонкія кроплі на зямлю.

Была цішыня.

Адмычку і Хомкіну капалі магілку.

Пахла зямлёю сьвежай з ямы.

---

Л. МІТНІЦКІ

# 6 ЧЫРВОНААРМЕЙСКІХ АПАВЯДАНЬНЯУ

ПЕРАКЛАД МІХ. КАЛЕНТЫ

## ЛІСТ.

Аднаго чырвонаармейца звалі Іваноў, другога—Пятроў.

Пятроў быў да граматы вельмі ахвотны. Іваноў ад ўсяго адвільваў.

— Добра, кажа, яшчэ ўпраўлюся, няма куды сьпяшацца!

Пятроў усю пісьменнасьць здолеў: і чытаць, і пісаць, і ліст дадому паслаць. А Іваноў—ні ў зуб.

Аднак, і ў Іванова сваякі былі, і ў Іванова сэрца сваяцкае ў грудзёх захована. Хочацца Іванову бацьку з мамкаю пра сваё жыцьцё напісаць, а ён ня толькі ліст надрапаць, але й пяра ў руках як сьлед трымаць ня ўмее.

Зьвярнуўся тут Іваноў да Пятрова.

— Дружа, зрабі ласку, падмажы! Я чалавек няпісьменны, зрабі таварыскую паслугу: напішы маім бацьком, што я ёсьць жывы і здаровы, жыву ў чыстаце, у ашчадзе, службу па справядлівасьці выпаўняю і іншае такое.

Абмакнуў Пятроў пяро ў атрамант, прамову Іванова поўнасьцю выслухаў і заскроб на бумазе паштовай вось што:

„Дарагія мае бацькі, пішу я вам, сын ваш Іваноў, не самастойна, таму што я абібок і гультай. Таварыш мой, Пятроў, такі-ж самы чырвонаармеец, як і я, пісьменнасьць усю здолеў, чытаць і пісаць навучыўся, а я панюхаў, ды й вычхаў. І ёсьць я такі-ж самы цёмны, якім і на службу савецкую пашоў“.

Напісаў гэта ўсё грамацей Пятроў, адрас хатні Іванова на конвэрце вывеў і ў Іваноўскія краі адправіў.

Прашло колькі часу і атрымаў Іваноў ад бацькоў ліст у вадказ:

„Сын наш Янка! Як нам вядома—ты ад пісьменнасьці адвільваеш. Такім-жа лайдаком хочаш быць, як і быў. Дарма ты гэта робіш. Мы хоць і на вёсцы жывём, а і то карысьць пісьменнасьці разумеем".

Прачытаў зноў такі Пятроў Іванову бацькаўскі ліст і расхадзіўся Іваноў.

— Дык вось справа якая! Усім бацьком маім вядома. Адкуль-бы гэта? Глядзі, што цераз іх і да нявесты маёй дойдзе.

Ах ты... Эх ты...

І вось справа якая: узяўся Іваноў усур'ёз за кніжкі, у школу першым бяжыць, на сшытках ад няпрывычкі плямы садзіць, але стараецца ва-ўсю.

Падналёг, вучыўся і вывучыўся. Сеў гэта ён, у чарніліьніцу пяро абмакнуў і ліст застрачыў.

„Дарагія мае бацькі, як я ўжо розуму абучаны, пісьменнасьці наўчоны, дык шлю ўласнаручным пісаньнем вам прывітаньне. З тым і падпісваюся сын ваш каханы Янка Іваноў".

І адрас рукою цьвёрдаю вывеў на конвэрце.

---

## ІНВАЛІД БАЛАЛАЙКІН.

Увосень вечарам зьбіраюцца вясковыя хлопцы ў хату інваліда Балалайкіна, рассаджваюцца хто на лаўцы, а хто на курпачках каля печы.

Агортвае ўсіх вячэрняя імгла.

Бабка Балалайкіна запальвае сьвятло,—ад сьвету інвалід жмурыцца.

— Што, хлопцы, нудна? На пасядзелкі да мяне ці што?

— Да цябе Балалайкін!

— Чым жа вас, браткі, пазабавіць? Ёсьць у мяне гармошка добрая, трохрадная, але аднэй рукой многа не награеш. Ішлі-б вы, таварышы, лепш да дзяўчат!

Гудуць хлопцы, як шмялі.

— Ану іх, дзяўчат гэтых, пасьпеем яшчэ, раскажы нам лепш, дружа, аб тваіх справах вайсковых

што-небудзь... Усё такі бяз рукі застаўся. Ёсьць аб чым успомніць!

— Яно то ёсьць!—нехаця пачынае Балалайкін,— ёсьць яно, разумеецца, ёсьць, як ня быць. Ну што з вамі зробіш, так і быць—слухайце ўжо, толькі не перабіваць, каб дысцыпліна!

— Добра, апавядай!

— Гісторыя гэта далёкая. Пачынаецца акурат з таго часу, калі мяне на службу царскую забралі. Нямецкая вайна тады была, і хоць нас, навабранцаў, сьмяротным боем муштравалі, але нядоўга.

Павезьлі нашу братву пад канвоем ваяваць. Двое ў дарозе выскачылі, ды не ўцяклі. Затрымаўся эшалон сярод дарогі і канвой у ваблаву на гэтых уцекачоў, як на медзьвядзёў усё роўна. Злавілі абодвых і на другой станцыі пры ўсім народзе па сьпінах адхлясталі.

Так.

Прыехалі мы на фронт акурат к зіме. Сядзім, самі ня ведаем за што, за калючымі загародкамі, сьмерці чакаем і не дачакаеш ніяк. Вайна зімою, вядома—пазіцыонная, у вакопах, з вашыма—бяз вылазу. А там, між іншага, злавілі нашы разьведчыкі іхны сакрэт. Прывялі палонных. Глядзім: салдатня—ну ўсё роўна, што нашы тамбоўскія. Нічога ў іх, немцах, шкоднага няма. І зусім незразумела нам стала—за што іх ворагамі лічым?

Так... добра... акурат вясна падышла і чуваць,— рэволюцыя. Што й як—яшчэ невядома. Але толькі акурат выходзіць—цару адмовілі ў пасадзе. Туды і дарога. Хопіць. Папіў. Другім дарогу давай, а вайну— пабаку!

Як стаялі мы на лініі супроць немцаў, так усім палком—штыхі ў зямлю, а немцам—пісульку:

— Браткі, далоў вайну. Ніхт, ніхт, вайна скончана!

— Гут!—крычаць немцы.

Тут у нас панябрацтва пашло. Зышліся мы з немцамі нос к носу. Мы цукер ім тычам, а яны нам цыгары капусныя.

Даведаліся пра гэтыя справы ў нашай дывізіі. Зьнялі наш полк з лініі перадавой, штабнога палкоў-

ніка прыслалі. Вусы—дык проста за вушы закладваць можна. І вось пачаў ён нам хвасты круціць:

— Цар царом, ня наш раўня—божы памазанік, вайна вайною, ня вам развважаць, а калі вы, сукіны сыны!..“

Адарвалі між іншага тут палкоўніку адзін вус, памялі яго трохі.

Наогул рух пачаўся.

Бачу, што толку тут ня будзе, і пусьціўся я проста без перасядкі ў самавольную адлучку. Толькі йшоў я ня простай дарогаю, а ўсё бокам. Заблытаўся ў лясных гарах, сьнегам карміўся, пад ёлкамі начаваў—насілу выбраўся і рознымі хітрасьцямі да Масквы даехаў. Паглядзеў я з налёту—і ў Маскве бесталковіца. Што ні крок, дык мітынгі, проста праходу няма.

Прыслухаўся я—галосяць за наступленьне. Гляджу—хто галосіць? Плюгаўства, шляпы, сырога пораху ня нюхалі. Смаркачы!

Пераначаваў я ў казарме, пусьцілі. Раніцою чую, фэтфэбаль крычыць:

— А ну, таварышы, выходзь на праверку, хто хоча!

Пастаяў, пасьвістаў фэтфэбаль—бачыць, што ніхто ня выходзіць, плюнуў дый пашоў.

— Ну, думаю, усюды плёвае дзела. Пашоў я на станцыю, Гаўрылу плячом адтаўхнуў, улез у вагон і—дзёру ў родныя мясьціны!

Прыехаў дамоў, прыглядзеўся, бачу—і тут каша.

— Можа для каго—на сходах гавораць—і воля, ды толькі мы тут ні прычым. Якога тут чорта воля, калі замест цара заварачваюць намі паны ды фабрыканты. Хамут, выходзіць, прамянялі на аглоблі!

І то праўда—сьцяміў я: таўстапузаму і бяз волі вольна, а нашаму брату, працоўнаму чалавеку, куды ні ступі, дык магіла.

Акурат прыяжджаў у нашу вёску агітатар бальшавіцкі, як пашоў ён высьвятляць пра зямлю, пра папоўскую брахню і фабрычныя зачэпкі—расчырванеўся ўвесь, а знай, рубцуе:

— Уся ўлада саветам. Гарнізуйце савецкую ўладу, якая адзіная рабоча-сялянская... Вура.

Ну, вура дык і вура. Для добрай справы горла ня шкода.

— Вура за ўладу саветаў!

Акурат тут восень падышла, таўстапузую ўладу скінулі і тут ужо такая справа выперла: з старой арміі я ўцекачом выбыў, а тут вось маеце добраахвотна ў Чырвоную рабочую гвардыю ўступаю.

Падперазаўся кулямётнаю істужкаю, вінтоўка за плячыма, на дзягу яек некалькі, што ўзрываюцца.

— Даволі, напіліся. Цяпер наша ўзяло!

Хаджу гэта я козырам, хаця, праўду кажучы, форма наша якая была—самая бясформенная. Хто ў чым: хто ў лапцёх, хто ў дзіравых боціках і зброя таксама ў каго якая. У таго наган афіцэрскі, у гэтага бярданка, там шабля іржавая.

Тут справа ўжо пачалася. Што ні павет—фронт. Контр-рэволюцыя на нас, а мы ўсе гуртам на яе. Толькі слабая наша гайка была без дысцыпліны, вядома, кожны свае правы ўводзіць.

Далей сталі патроху гайку прыкручваць. Досыць, браткі, наганы за поясам, як бандыты, насіць, досыць пехацінцу шпорамі званіць ды кулі ў паветра выстрэльваць.

Узялі нашу партызанскую братву патроху ў шпоры, каб, значыць, дысцыпліну сьвядомую ўвесьці. Хадзіць—дык у ногу. На чыгунцы ехаць—па літару, а калі рукі чэшуцца, душа ў атаку просіцца, дык без галоўнага загаду ня май правоў.

Папаўся я тады ў коньніцу. Конік гняды быў у мяне. Павазіў ён мяне на сваёй сьпіне і шагам, і рысьсю, і наўскачкі ўзадышку, аж да мыла даходзіла.

Трэба сказаць, што й я даглядаў яго: сам не даем, а каню дастану харчы.

Разлучыліся мы з гнядым ужо на польскім фронце, зваліўся пад агнём кулямётным мой конік, ногі выцягнуў, зубы вышчарыў,—сканаў!

Жаль мяне ахапіў: нагнуўся да сябра свайго вернага і не ў галаве мне, што нашы далёка ўжо ад‘ехалі. Глянуў—аж на—палякі акружаюць.

— Эх вы, чэрці, слугі панскія. Дарам ня дамся!

Прыцэліўся і ну смаліць. Потым гляджу—хапае мяне ззаду за каўнер. Тут папаўся я ў палон. Што будзеш рабіць. Вядуць мяне пад вялікаю вартаю і чысьцяць паіхнему:

— Пшэклёнты бульшэвік. Мы пакажам табе, дзе чырвоныя ракі зімуюць. Пачастуюць цябе юхаю папольскі!

А я ім:

— Эх вы несьвядомыя, каго абараняеце? Паноў сваіх ды шляхтаў-беларучак. Хто-ж павашаму да вас бліжэй, наш бядняк, ці ваш пан таўстапузы?

Збавілі крок.

— То так, але-ж война!

— Вайна,—кажу,—вайною, а ці зразумелі вы, на якога д‘ябла вы ваюеце, свайго брата працоўнага губіце?

Задумаліся яны.

— То бардзо добжэ сказана, а ты чаму страляў у нас?

— Эге,—кажу,—браткі, тут зусім справа іншая, тут палітыка замежная; я ня ў вас цэліўся, а ў польскіх наймітаў, а вы што? Адразу відаць, што нашага галаштаннага поля ягада.

Тут яны затрымаліся.

— Слухай, пан бульшэвік, ідзі сабе схавайся да ночы, а там ужо да сваіх дабірайся.

— Дзякуй,—кажу,—польскія браты і прывітаньне вам ад імя працоўнай Рэспублікі за ваша міжнароднае спачуваньне!

Пакінулі мяне польскія салдаты каля бярозавага гаю за ўзгоркам, назад рукою паказалі:

— Туды, пан, нанач падавайся, ды правей бярыся!

Прытаіўся я ў гаі, а надвячоркам трушком-бяжком да сваіх зьявіўся.

Якраз у той час нашу часьць пераводзілі ў Сівашы, супроць белага барона. Пагрузіліся мы ў цяплушкі:

— Што-ж, даёш белых, душа з іх вон! Не прывыкаць нам і з белымі змагацца.

Прыехалі Справу пачалі, ваюем. Яны вылезуць на нас, націснуць, мы адыйдзем, ды на іх навалімся. Адпачывалі і чакалі рашучай бойкі.

Быў я ў конным разьезьдзе паміж флангаў. Цёмна, месяц за хмары па вушы схаваўся. Глядзім—ідуць да нас з варожага боку.

— Стой, хто такія?

— Свае!

— Хто свае?

— Перабежчыкі!

— Так. Куды-ж вы, напрыклад, накіраваліся?

— А ў штаб вашай стралковай брыгады, тут нашы штодзень пераходзяць да вас.

Усьміхнуліся мы.

— Добра, праходзьце, госьцьмі будзеце. Зброю, якая ёсьць, здавайце.

— Ніякай у нас зброі,—кажуць,—няма, а захапілі з сабою арматурныя сьпісы на прадмет поўнай фармальнасьці!

З галавою хлопцы.

І так да самай восені, пакуль позыцыю трымалі, цэлымі батальёнамі да нас яны пераходзілі:

— Прыміце,—кажуць,—і выбачайце, абдумаліся!

— Ну, вядома, калі ласка, ім не адмаўлялі.

Потым, як сьнег выпаў, справы пашлі канчатковыя: даёш, залатапагоньнікі, Крым, бярош дно марское!

Такая тут, браткі, гарачка пашла—пекла проста. Нічога пханулі іх, пагналі. Белыя з крыму—бяз задніх ног, драла наўцекі. Вось тады на ростані, у канчатковых баёх—мне левую руку—фіць... і няма... Жыві, Балалайкін, з аднэй рукою і так добра будзе!

— Добра-то добра,—адгукнуўся хлапец з гасьцей Балалайкіна, - а на вайну ўжо не гадзішся болей!

— Гэта я не гаджуся?—усхапіўся Балалайкін,—заткніся, малы, яшчэ ў выпадку чаго, так паваюем, што небу горача стане. Гэта, каб ня левую руку яшчэ, ну, тады, разумеецца, а правай, браткі мае, яшчэ так секану,—сьвіньню напалам, буржуя на кавалкі...

Знай Балалайкіна. Трымайся!!

---

## ЗМЫЧКА З ПАВЕТРАМ.

Было іх тры сябры розных радоў зброі: пехацінец—змазьлівы, прысадзісты. Хадзіў са скрыпам, прысьвістваў, гармошку пры баку насіў. Парцянкамі ногі абгорне, схавае ў боты дый пашоў падашвамі зямлю мерацьбпадковамі іскры з каменьня красаць.

Бывалы хлапец, у кішэні мяшок з махоркаю, такую казіную ножку заверне, што і неразьвернеш ніколі.

Другі сябра—марак, казіных ножак не прызнае, з люлькаю не разлучаецца ніколі. Ходзіць, дымком з люлькі пыхкае, нібы паравоз па стрэлках манэўруе. Здорава прадуты морскім ветрам грудзі матроскія. Ня грудзі, а гранітная скала. Усіх браточкамі заве, „гадкамі“ плюе ня бліжэй, як на сажань. А пачне ўспамінаць розныя здарэньні грамадзянскай вайны, дык месяц краем за сонца зачэпіцца, дзень у надвячоркі пяройдзе, надвячоркі ў ноч... Неба ўжо золкам вочы праціраеbа мой марак жменяю з памяці ўсё болей чэрпае:

— Наш бранявік—яго бранявік. Лоб аб лоб... Разумееш ты? Душа з іх вон—даеш і ніякіх гваздоў... Толькі, разумееш ты, гэтакая справа...

І пашоў, і пашоў.

А слухаў яго болей за ўсіх трэці сябра—шофэр скураны. Спэцыяльны быў чалавек: куртка—скура, штаны—скура, акуляры круглыя, ногі здаровыя, не сагнеш нават. Грузавіком заварачваў. Як запусьціць сваю машыну па вуліцах—трамваі пудзяцца, шклы ў вокнах дрыжаць, старыя, седзячы ў хатах, толькі дзіву даюцца.

— Ня было такога. Ні плямачкі на небе. Адкуль-жа гром узяўся? – кажуць яны.

А мой шофэр зухам сядзіць на рулю і гудкі такія дае, ажна вушы разьдзіраюцца. Здаралася, што грузавік сапсуецца ў дарозе, увапрэцца шынамі ў камяні дый стаіць.

Тут шофэр руль убок, шрубы праверыць, злучэньні ўсе агледзіць і пад машыну падлезе. Ляжыць на сьпіне, што сапсавалася, выглядае. І знойдзе. Чвэрці гадзіны ня пройдзе, а грузавік ужо—гу-гу... ды як загрыміць, загрукоча па вуліцах, дык аж страх бярэ.

Такія вось тры сябры былі: пехацінец, марак і шофэр. Службу розную нясуць, а як зьбяруцца, дык колькі разгавораў, апавяданьняў пра мінулае, пра сучаснае.

Чаргу на разгаворы ня йначай, як завясьці трэба, таму што кожны раней пра сваё хоча расказаць.

Толькі раз пехацінец і гаворыць:

— Быў я, таварышы, у рознай пераправе і розным становішчы... Але на птушыным становішчы ня быў!

— Гэта ты, уласьціва кажучы, адносна чаго?

— А адносна авіацыі. Усё, разумееш, спрабаваў, але на самалёце не паднімаўся!

Трахануў істужкаю марак.

— Вось-жа, гадок, і я не лятаў. Ужо чаго, здаецца, не прабаваў. Восемнаццаць штормаў, аб дамбы грукаліся, шрубы ламалі... Ну й чаго толькі ня было! А не лятаў!

— Ну ўжо нашто я!—адгукнуўся шофэр.—Мэханіку ўсю здолеў, а таксама ў паветры ня быў... Адзін раз, праўда, было з легкавой машыны паляцеў, і то дагары нагамі...

— Ха-ха-ха!

— Хо-хо-хо!

— Вось што, браткі!—прапанаваў пехацінец,—тут у мяне адзін зямляк у лётчыках састаіць. Сам-та я яго ня ведаю, але пісалі з дому пра яго і адрас прыслалі. Найсьці яго ўсё роўна, што плюнуць.

— Даёш паветра!—сказаў марак.—Разань-Казань абкружынілі, белых у труну загналі, даёш цяпер паветра!

Павайсковаму сказана—зроблена. Пашлі нашы сябры земляка пехацінцавага шукаць.

Нашлі ўстанову і канцэлярыю.

— Вам што, таварышы?

— Так і гэтак, таварыша аднаго шукаем, пісалі аб ім з вёскі Касавокаўкі, Кручыхінскай валасьці.

— А прозьвішча яго як?

— Кучарэнка!

— А-а, Кучарэнка, ёсьць такі... Вось пропуск. Ідзіце на аэродром, там Кучарэнку ўгледзіце!

Прышлі сябры на аэродром. Аглядаюцца.

— Вам каго?—спыталіся ў іх.

— Лётчыка Кучарэнку!

— Кучарэнку? Зараз прыдзе!

— А ці далёка ён пашоў?

— Не, не асабліва, мэтраў на тысячу, прыблізна.

І пальцам у паветра ткнулі, дзе самалёт птушкаю насіўся.

Ну, вось, спусьціўся ўніз па паветры апарат, зямлю коламі шарпануў, падскочыў, як квактуха, стаў.

Падышлі сябры да лётчыка.

— Выбачайце, ці ня вы, часам, будзеце Кучарэнка?

— Я сам!

— Мы, значыцца, да вас!

— А што? На паветра хочацца?

— Не, мы наконт зямляцтва. Але-ж, напрыклад, калі можна палятаць, дык чаму-б і ня так?

— Чаму-ж не? Мы тут якраз седакоў чакаем. Пакуль прыбудуць, паднімемся.

— Ну, што-ж, таварышы!—адставіў нагу пехацінец. - Хоць я, прыкладам, чалавек земляны, сялянскага пахаджэньня, аднак, палятаць можна. Ляцім—і ніякіх гваздоў?

— Даёш неба,—загуў марак, даёш бога з бажанятамі.

— Прашу,—паказаў рукою лётчык і сябры ўціснуліся ў кабіну.

Зірнулі наўкола—ну проста табе трамвай. Крэслы адкідныя, аксамітныя, акенцы направа й налева. Проста хоць заказвай чай з каваю і пі, колькі ўлезе.

— Ну, што, селі?—спытаў лётчык.

— Ёсьць!

— Зараз!

Прашоў уперад, да носу апарата. Загуў, завыў мотор. Крапчэй, аж у вушах тарахціць. Рушыў самалёт—самакатам, скок-скок і... нібы зямлю згубіў—пакацілася ўніз, распаўзлася, раздрабілася на сотні азёр, канаў, рэк. Там саша, тут палёў кавалачкі, там лясок, горкі, палянкі. Усё вось так, нібы вынуў хто адкуль, ды палажыў.

„Так!—падумаў наляту пехацінец,—што наша зямная разьведка супроць паветранай? Нікчэмнасьць адна. А тут зьверху, усё. як на блюдцы“.

„Разумеецца,—пранеслася ў буйнай галаве марака,—абарона марскіх меж—справа добрая, а калі такая варожжа птушка нырне ў воблака, праляціць так, што й не заўважыш, ды як пачне па гораду гранатамі страчыць, дык што-ж тады?“

А шофэр думаў:

„Яно, канешне, і мотор—не качан капусты, і грузавік—рэч важная, а ўсё-такі адна справа—на зямлі грукатаць, другая справа зусім—на паветры верхам катацца“.

Фррр-р—тук-тук...

Нібы мотор сьціхаць пачаў. Неяк радзей, паасобку запыхкаў. Нібы хто зямлю, як мячык, падкінуў, а яна ў колы самалётаўскія зубамі ўелася, уздрыгануўся апарат, закадыбаў па зямлі.

— Ну, што-ж, седакі паднябесныя?—ухмыльнуўся лётчык,—можна высаджвацца... Станцыя. Зямля!

Вышлі сябры. Трасуць рукі лётчыку.

— Дзякуем, таварыш, за паветранае здавальненьне. Вельмі рады знаёмству з вамі. Трое нас, сяброў. Але вельмі прыемна будзе такога чацьвертага ў нашай кампаніі мець.

— Бог-жа тройцу любіць,—ухмыльнуўся лётчык,—як-жа чацьверты да вашай кампаніі прыдуся?

— Мала што яшчэ бог любіць, да мы ніякага бога ня любім, ня ведаем і ведаць ня хочам.

— Што правільна, то правільна!

Было іх трое сяброў розных радоў зброі, а цяпер чатыры: і зямлю, і ваду, і паветра—усё ў адзін круг зьвялі.

---

## Брахло.

Адзін з іх быў круглы, трухлявы, у пацёртым „дэмобілізаваным“ шынэлю, у авечай шапцы; другі—стройны, румяны маладнячок, у новым шынэлю з перахватамі, у будзёнаўскім шлеме, з зоркай чырвонай, як шчочкі маладнячка.

Малады слухаў ува ўсе вушы, а трухлявы, пацёрты гаварыў:

— Вось, знацца, браток ты мой, была кумпанія, куды табе куцаму! Раз—белы папёр, два—белага адпёрлі. Зір—а ад яго й мокрага месца не засталося. Вось толькі глядзім гэта мы: пашоў ён на нас контры-атакай, мы тут—рраз на коняй—фьфю, фьфу, Коні на калені. Белыя на калені: зьвіняйце нас, пажалста, але толькі зьмілуйцеся. Над коньмі-то мы зьмілаваліся, а белым адным махам галовы зьнесьлі і—далей, але—на тут, зір—„танька“ залезная, сталёвая. Мы раз з Максімкі, і пакацілася тая „танька“ дагары нагамі.

— Хіба ў „танькі“ ногі ёсьць?—недаверліва спытаў малады.

— Не перабівай, потым скажу!—агрызнуўся трухлявы, далей забалбатаў: Толькі гэта мы, браток ты мой, з „танькаю“ прыкончылі, зір—цягнік на нас, бляндзірованы, на ўсёй пары імчыцца...

— Як-жа гэта,—крахтануў малады,—цягнік-жа па рэльсах бегае?..

— Не перабівай, табе кажуць, цягнік-жа ня просты, а бляндзіровоны. Навошта яму рэльцы? Бяжыць ён на нас. Ну, тут наш ротны, як зложыцца...

— Хіба-ж у коньніцы ротныя бываюць?—зноў затрапятаўся малады.

— Не перабівай, а слухай, калі гавораць... як зложыцца, знацца, наш ротны з нагана, бац—яму прама ў паравозны кацёл пацэліў... бац-бац, тра-ах .. на кавалачкі дробныя цягнік бляндзіраваны разьляцеўся .. Толькі гэта мы сюды-туды, а з неба ўжо птушкай божаю, каршуном ераплан на нас ляціць, бонбамі кідаецца... рраз—усіх пабіў, два—усіх пабіў... Эх, толькі злосьць нас забрала. Ах ты, бонбакідацель праклятый, зараз мы й да цябе дабяромся. Наставілі гармату—рраз, крышка, ад ераплана толькі бонба засталася ды й тая разарвалася...

— Стой, стой!—заматаў галавою маладнячок,— што-ж гэта ты брэшаш—пабіла ўсіх, а хто-ж страляў?

— Хто? Гармата!

— Дык гармата сама не паліла, кіраваў-жа ёю хто?

— Хто? Вядома—антыралістыя.

— Адкуль-жа твае антыралістыя ўзяліся, калі ўсіх пабіла, як кажаш?

— Адкуль узяліся? Папаўненьне прышло. Вядома адкуль. Гэта ў нас ураз, як плюнуць...

— Пастой, пастой, вось ты брэшаш, што ўсіх вас пабіла, а сам жывы?

— Мяне не кранула!

— Як-жа гэта—усіх пабіла, а цябе й не кранула?

— А таму й не кранула, што мяне там ня было. Я па штату, знацца, у вабозе састаяў, калёсы рапараваў!

— Дык вось яно што, у вабозе быў,—раззлаваўся маладняк,—а я цябе дурня дурань-дурнем і слухаю.

— Ужо й расказаць нельга нічога!—абразіўся трухлявы.

— Расказваць—адно, а брахаць—другое!—агрызнуўся маладняк.

Плюнуў дый пашоў убок.

---

### Айцец Сьмярдзяшчынскі.

Ну, і сьнегу-ж навaліла! Усю вёску Касавокаўку, як папоўскую каробку яйкамі,—сьнегам завaліла.

Скрыпіць-рыпіць пад нагамі сьнег, і як ступі, дык сьлед, дзірка ў сьнягу на цэлы аршын.

Ляснуў мароз крэпкімі зубамі, у момант хрусткаю скарынкаю сьнег завалок і на вокнах знатныя ўзоры размаляваў.

Глянуў поп, айцец Сьмярдзяшчынскі, у вакно,— нічога праз узоры ня відаць, толькі срэбрам усё пераліваецца; ухмыльнуўся тады, рукі пухкія адняў ад чэрава, пацёр іх адна аб другую:

— Так, вось і сьвята надыходзіць ... У самы раз, надыходзіць! Маладзец Хрыстос—у час нарадзіўся. Хоць анціхрысты бальшавікі тлумачаць, што ён байструком нарадзіўся, толькі мы, папы, людзі дробненькія,—мы не разважаем. Наша справа сьвятая: госпаду богу маліся, да нутро сваё напіхай, каб пуза наша сьвяшчэннае не сьсядалася гармонікам!

— А народ наўкола,—вядома, цямнота. Скажаш яму тройчы, акі пакі, паства, шануйце папа, таму што, крый божа, калі поп з неедзі здохне, дык хто-ж тады хрысьціца, шлюбы і памінкі рабіць будзе. Так, паства, даглядай свайго папа, бо без яго табе ні радзіцца, ні жаніцца, ні памерці... Вось як...

---

Пакуль, гэтакім чынам, поп Сьмярдзяшчынскі каля акна душу пухкую сытымі разважаньнямі песьціў, тры курсанты, землякі, кацілі на санках ад станцыі ў вёску сваю родную, Касавокаўку.

Не бярэ іх мароз. На ўвесь белы стэп гудуць трыма галасамі: „За ўласьць саветаў“.

Чорнае вараньнё з перапалоху і кракаць перастала і кудысь-то далей на крылах чорных імчыцца.

А конік гнядзенькі павесялеў і толькі капытамі аб перадок бразгае, ажна пыл ад сьнегу падняўся.

Селянін, што курсантаў вёз, павярнуўся бокам, да іх, пацягнуў носам і хмыкнуў сабе ў сівую ад інею бараду:

— Ну й галасы! Чуў я папа касавокаўскага ў царкве. Нічога. Але-ж далёка яму да такіх...

Сьвішча, гуляе вецер па стэпу.

Узь-зь-зь.... узь-зь-зь... узь-зь-зь...

Плывуць санкі па сьнягу.

Вось і Касавокаўка.. Не Касавокаўка, а завод таму, што з коміна кожнага дым так і валіць.

— Бачыш ты!—зірнулі курсанты,—грэецца наша вёска.

А селянін у перадку зноў хмык у бараду:

— Які там чорт грэецца! Самагон на сьвята гоняць. Па божай волі, па папоўскаму благаславеньню...

— Добра,—насупіліся курсанты,—на месцы ўсё высьвятлім!

---

Неба сіняе, сіняе, ад зор у ваччу рабее, месяц, як серп, як завушніца купчыхіная.

У сельвыканкоме лямпа „молнія" газаю палае, а народу—крыху меней, як у валасьці.

Старшыня сельсавету на месцы сваім старшынскім паважна выглядае; поплеч з ім—асоба, хоць і чынам драбней, але пісьменны затое,—сам сакратар. Паслухае, слова напіша, капне на паперу, пальцам размажа.

Тры курсанты—дакладчыкамі. Адзін—пра папоўскую брахню, другі—аб шкодзе самагону, а трэці—з практычнымі прапановамі на прадмет асьветных у сьвята забаў.

Вышаў першы курсант, набраў паветра ў грудзі і давай на папоў насядаць.

— Таварышы грамадзяне! Чым больш клоп, напрыклад, крыві нап'ецца, тым ён сытнейшым, гладзейшым і больш бліскучым становіцца. Ну, а поп—тойжа клоп.

Поп таксама чужой крывёю жыве. Знадворку сыты, круглы, вежлівы. А ня дай яму на сьвята харчы смачнай, дык кусане так, што трымайся толькі.

— Правільна!—адгукнуўся сход,—гэта правільна. Заўчора хаваў наш поп Сьмярдзяшчынскі Мікалаевага сына. Мала яму па беднаце, заплацілі, дык перш маліўся, а потым праклінаць стаў нябожчыка!

— Вось яно, таварышы грамадзяне, і кусаньне!—падхапіў курсант,—на якога-ж чорта нам кусаку—клапа карміць сваёю крывёю, няхай сам папрабуе. Без папа мы абыйдземся, і ўсё тут!

— Абыйдземся!—падтрымалі маладыя.

— Граху каб ня было!—закракталі старыя. Але яны таксама, відаць, ня дружылі з папом. Ня надта стаялі, усё роўна, як загарадка старая: наляж на яе— і зваліцца.

Перамог дакладчык. Куды цяжэй з другім пытаньнем было, гэта пра самагон.

— Як-жа ў сьвята бяз хмелю. Нудна-ж?—гудуць у вадказ курсанту.

Тут трэці курсант умяшаўся:

— А мы вось што, таварышы, такую культкамісію створым, каб даклад на парадку дня быў аб шматпольлі, аб трактары. Аб гэтым я вам сам раскажу. А потым можна і да забаў перайсьці. Спэктакль паставім. Оркестр зьбяром. Дывэртысмэнт. .

— Дык сьвята-ж пад носам, ня ўправімся!

— Дык што-ж, калі пад носам, у нас павайсковаму. Сказаў— зрабіў!

— Ну што-ж, валяйце,—згадзіўся сход,—толькі каб цікава было, а то зап'ём!

---

Весела сьвята праходзіць у Касавокаўцы. Без гарэлкі на вёсцы сьвята, і ўсім весела.

Весялосьцю гэтаю тры курсанты кіруюць: замест хрыстаславаў пусьцілі па вёсцы яны дапрызыўнікаў, зьвязду ім пяціканцовую чырвоную з сярпом і молатам з фанэры выразалі, ідуць хрыстаславы па вуліцах уногу, хрыста вялічаюць:

„Сьме-ела мы ў бой пайдзём
За ўласьць саветаў“.

І хлапцоў у розным убраньні па вёсцы пусьцілі. Колькі сьмеху было, калі буржуйчык з макатром на галаве і ў сурдуце па вёсцы бегаў. Сабакі, дык самі кідаліся на яго і ўрэшце парвалі буржую штаны і пакусалі трохі.

— Ну што, буржуй?—сьмяяліся дзяўчаты,—захацеў буржуем быць... Так табе й трэба...

Двое папамі адзеты былі пузатымі. Совалі ў кішэні харчы розныя, і калі і як папы, гарланілі!

„А мы каляды нікому не дадзім,
Самі жратву паядзім.
На першае курку,
На другое гуску,
На трэйцяе парася—
Напітаемся“.

---

Сядзіць айцец Сьмярдзяшчынскі каля акенца мёрзлага, уздыхае гучна:

— Эх, паства, цьфу на тваю галаву! Ні яек ніхто папу ня прынёс, ні курачкі, ні масла. І ў царкву ня прышлі, ні самагону папу не паднесьлі. Як-жа гэта так, сукіны вы дзеці!

— Што-ж ты, госпадзі мой божа, глядзіш. Абражаць мяне нашто дазваляеш?

— Як відаць, брахаў я пра ўсе твае боскія сілы? Адкажы мне, божухна. Маўчыш? Э-эх... Не раство сёлета, як відаць, хрыстосае, а скончэньне поўнае айцу Сьмярдзяшчынскаму... Эх, а ну цябе, госпадзі, ніякой з цябе карысьці...

---

## ЧЫЖЫК

(Пра бандыцкага атамана)

I.

### Паўстанцы „гарнізуюцца“.

Вясковы зладзюга Янка Чыжык задумаў важную справу: прыелася яму, валацугу, па чужых дварох шляцца, і парашыў ён у грамадзянскай вайне асаблівае месца заняць.

Купіў на барахолцы іржавы пісталет і зышоўся з Міколкай „біў нос“.

— Ад'ютантам да мяне хочаш паступіць?

— Хачу, ну! — шлёпнуў языком Міколка.

— Вельмі добра, з гэтага дня вы назначаецеся ад'ютантам вядомага атамана Чыжыка!

— Эт, плёвае дзела! — зноў шлёпнуў Міколка.

Атаман ужо ёсьць, ад'ютант таксама. Для мобілізацыі абралі яны вёску Міхайлаўку.

Ішоў па вуліцы ўцякач Латата, на гармоніку ўсякую дрэнь наярваў і дзяўчат з ног плячмі валіў.

— Эй! — паклікаў яго Чыжык, — ты, як я бачу, хлапец вясёлы. Ішоў-бы ты да нас дармовы хлеб есьці!

— А чаму й не! Мы толькі да гэтага!

— Такія нам і трэба! Ну, а калі, прыкладна, каго душкануць так, каб на той сьвет перакуліўся, — гэта ты таксама можаш?

— Ящчэ й як, з здавальненьнем... асабліва калі бяз зброі, ды кволы які!

— Добра! з гэтага дня залічваю вас у слаўную шайку неперамožнага Чыжыка на харчавое, самагоннае і іншае ўдавольства!

— Праходзіць вясковы дурань. Чыжык да яго:
— Стой! У паўстанцы хочаш?
— Што?
— У шайку вядомага Чыжыка?
— А нашто?
— Пасьля пагаворым. З сёнешняга дня вас залічваю!
Двое самі прышлі—кулак і канакрад.
— А вось наконт пэнсіі даведацца хочацца?
— Пэнсія якая: у нас больш па аблягчэньні кішэняў, выкінуў чалавека з адзежы, вось табе й пэнсія!
— Гэта мы можам!
— Вось і добра, і вас залічваю!

II.

**Загад „Чыжыка“.**

Запусьціў пальцы Чыжык у валасы кудлатыя, маршчакі на лоб набеглі.

— Эй, пісар, складай загад!

— Яшчэ што выдумаў?—адгукнуўся пісар, кусаючы зубамі кіпцюры на нагах.

— Пішы... „Па арміі паўстанцаў... Загадваю, каб на вёсках божаскае абхаджэньне было... каб ніякай конскай межні... і каторыя паўстанцы, дык ня май правоў жыхароў крыўдзіць, а то так паразьменьваць можна, што й драбязы не застанецца... абхаджэньне павінна быць самае чалавецкае, каб гурманнасьць...

— Вядома!—сказаў пісар,—няўжо-ж мы не разумеем чалавецтва: каго, значыцца, па зубах, а каго па карку!

— Пішы: „Дысцыпліна ўводзіцца, а таму каторы паўстанец свайму камандзіру па мардахам заедзе, дык гэта непажадана, таму што морда не скарбовая і для гэтай патрэбы ня прызначана, а каторыя паўстанцы кьвядомыя, дык па магчымасьці не павінны сваіх камандзіраў крыўдзіць, а таксама, у выпадку патрэбы, шанаваць.

Яшчэ заўважана намі, што каторыя паўстанцы на кватэрах становяцца, дык вельмі насяленьне разбой-

ствам крыўдзяць, а гэта паўстанцу канчаткова не паложана. Таму, як абвяшчаецца офіцыяльны збор: у каго адна карова—даёш палову... і ніякай кражы ня трэбуецца.

— Хэ,—ухмыльнуўся пісар,—хіба-ж я краду, гэта-ж я так бяру.

— Пішы: „Загадваю: якія вёскі паўстанцамі займаюцца, дык абыходзіцца без чалавечых забойстваў, таму што якія забітыя—вельмі нездаволены, і цераз гэта выходзіць нездавальненьне на вёсцы, дык патрабуецца вялікая чалавечая гурманнасьць, каб акрамя, як шаблямі—нічым ня секчы".

III.

## „Справы" іхныя.

Сабралася шайка паўстанцаў і пашла па дарозе. Сустрэлі падарожных, гападароў з вазоў паскідалі, самі на коні і—гайда далей.

Цёмна стала—вёску падпалілі, каб відней было ехаць. Раніцою прышлі ў мястэчка. Яўрэя на дарозе сустрэлі, душылі яго, душылі, нажом галаву надрэзалі, як кавун усё роўна, потым з размаху папалам расьсеклі:

— Годзі,—сказаў Чыжык,—пазабавіліся, цяпер адпусьцеце яго!

— Да мы й так ужо... ляжыць... і не варушыцца... прытвараецца чорт!

Весела стала ў мястэчку, як прышла шайка,—гарэлка льлецца, кроў льлецца, жанчыны сьлязьмі аблівающца!

За мястэчкам чыгунка была: чыжыкавы малайцы рэльсы разабралі, цягнік і паляцеў пад насып, толькі косьці седакоў затрашчалі.

А Чыжык, як салавей, заліваецца.

Цягнік—хватай, хавай!

І многа яшчэ спраў было. Хлапцы яго вельмі ўдалыя былі—нікога не баяцца: ні дзяцей, ні жанчын, ні дзядоў... але калі часам на чырвонаармейскі штых наткнуцца, дык драла, хто куды, а потым зноў зьбяруцца і пашлі зьдзеквацца над безабароннымі.

Нажыўся Чыжык-атаман. Носіць жаночыя сарочкі з гафтам, шапку з муфты, гадзіньнікі залатыя ў кішэнях,—колькі кішэнь, столькі й гадзіньнікаў, і ўсё маніцца яшчэ больш нажыцца! Такая зладзейская натура: „колькі злодзея не кармі—усё ў кішэню паглядае“.

## IV.

### Уцякае.

Але-ж прышла каза да возу. Грэюць Чыжыка чырвоныя ў хвост і ў грыву: бегае, як адурэлы, па вёсках ён, падтрыманьня шукае.

А супроць яго вілкі ды ражны пастаўлены.

Спалохаўся Чыжык, вочы працірае: так і ёсьць—сяляне супроць яго ідуць.

— Вы гэта... ражны для каго?

— Для цябе, драпежнік...

— Бачыце, паўстанцы, што з атаманам вашым яны рабіць думаюць?

— Бачым!—сказалі паўстанцы,—вы што-ж гэта нашага Чыжыка біць зьбіраецеся?

— Ну, а што-ж!

— Гэта нашага Чыжыка значыць?

— Ды няўжо-ж чорта!

— А ну, паспрабуйце!

— З вялікаю ахвотаю!

— Дык, значыць, вы Чыжыка нашага і запраўды б‘яцё?

— А што-ж ты думаў?

— А ну яшчэ?

— Мо-о-жна, колькі ўлезе!

— Яшчэ?

— Яшчэ дык і яшчэ, на табе яшчэ!

Шлёпнууся Чыжык, вобзямлю, нагамі дрыгае, а паўстанцы патыліцы чэшуць.

— Чуеш, Чыжык, уцякайма адгэтуль, бо ад такога падтрыманьня хутка здохнуць можна.

Схапілі свайго Чыжыка яны дый пабеглі, куды вочы глядзяць.

---

## ЗЬМЕСТ.



---



